№11 (974) 1 лістапада 2017 www.nn.by
НЕЗАЛЕЖНАЯ ГАЗЕТА
Наша Ніва 16+
ПЕРШАЯ БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА
Заснаваная ў лістападзе 1906. Адноўленая ў маі 1991. Выдавец: Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы». Выходзіць раз на месяц, у першую сераду

# Смерць радавога Коржыча

## Ці зменіць яна беларускае войска?

Старонка 3.



У барысаўскіх Печах, дзе праходзяць вучобу салдаты тэрміновай службы, знайшлі павешаным маладога хлопца — 21-гадовага Сашу Коржыча. Ён служыў у 3 школе, 3 роце, 2 узводзе.

Да службы ў арміі Коржыч быў паспяховым хлопцам. Ён добра зарабляў як аўтамеханік, у яго было шмат сяброў, ён вёў актыўны лад жыцця. Яму сама жыць, кахаць — а ён памірае.

### Ад рэдактара

У сферы адукацыі — ізноў перамены. Колькі іх я перажыў за 10 гадоў? Мае ж дзеці акурат вучацца, выпрабоўваем змены на сабе. Былі такі дзеяч Рубінаў — той, напрыклад, зменшыў колькасць гадзін на замежныя мовы...

Усе гэтыя «рэформы» найлепш характарызуе старая прыказка: наша Сора то шые, то пора, а ўсё ніткам гора.

Гэтым разам Міністэрства адукацыі выступіла з нечаканай ідэяй: ураўняць школы і гімназіі па праграмах навучання. Па меркаванні міністра адукацыі Ігара Карпенкі, «адукацыя павінна быць роўнадаступнай, не павінна фарміравацца нейкая элітарнасць».

Цікава, што пазіцыю Мінадукацыі раскрытыкаваў дэпутат Палаты прадстаўнікоў, практык сістэмы асветы Ігар Марзалюк: «Я глыбока перакананы ў адным: гімназіі павінны існаваць — мы не павінны страціць лепшых дзяцей і лепшыя школы. Звычайную школу [трэба] падцягваць да ўзроўню гімназій, а не наадварот».

На маю ж думку, усе гэтыя змены часу пачатку заняткаў, назваў, кірункаў не выпраўляюць двух галоўных праблем. Адна — у састарэлых педагагічных падыходах. Сучаснай эканоміцы патрэбныя людзі з развітым творчым мысленнем і «дружныя з камп'ютарам». А ў нас па-ранейшаму — чыстапісанне, зуброжка і БРСМ. А галоўнае — нізкія заробкі настаўнікаў зрабілі прафесію непрэстыжнай. Старыя педагогі адыходзяць, іх няма кім мяняць. Хоць назаві гімназіяй, хоць школай — хто там вучыць будзе?

### «Дзеяслову» — 15 гадоў








СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

Прэмію Гедройця — 2017 за найлепшую кнігу прозы атрымаў Зміцер Бартосік. Цырымонія ўручэння адбылася 31 кастрычніка ў Мінску на так званай «Хіпстар-штрасэ», як цяпер называюць вуліцу Кастрычніцкую. Кніга-пераможца — «Быў у пана верабейка гаварушчы».

## Пуцін заявіў, што заходнія спецслужбы збіраюць у расіян «біялагічны матэрыял». Для чаго?

30 кастрычніка прэзідэнт Расіі Уладзімір Пуцін правёў сустрэчу з Радай па развіцці грамадзянскай супольнасці і правах чалавека. Там кіраўнік Расіі адказваў на пытанні праваабаронцаў.

Самая інтрыгоўная фраза, якую выдаў Пуцін, тычылася таго, што замежнікі збіраюць у Расіі «біялагічны матэрыял»:

«Вы ведаеце, што біялагічны матэрыял збіраецца па ўсёй краіне. Прычым па розных этнасах і людзях, якія пражываюць у розных геаграфічных пунктах Расійскай Федэрацыі. Вось пытанне: гэта навошта робяць? Робяць мэтанакіравана і прафесійна. Мы такі вось аб'ект вельмі вялікай цікавасці. Нам трэба, вядома, без усялякіх страхаў да гэтага ставіцца. Яны няхай робяць, што яны хочуць, а мы павінны рабіць тое, што мы павінны».

На наступны дзень заяву Пуціна пракаментаваў прэс-сакратар прэзідэнта Расіі Дзмітрый Пяскоў.

«Спецслужбы Расіі маюць інфармацыі пра збор некаторымі эмісарамі і няўрадавымі арганізацыямі біялагічнага матэрыялу прадстаўнікоў розных расійскіх этнасаў», — сказаў ён.

Дык што такое меў на ўвазе Пуцін? Адзінага адказу пакуль не мае ніхто, затое выказваецца мноства версій. І навуковых, і больш падобных да тэорый змовы.

### Для вывучэння генетычнай рознасці

Дырэктар кампаніі *Genotek*, генетык Валерый Ільінскі пацвердзіў, што збор генетычных дадзеных у Расіі сапраўды праводзіцца.

«Наколькі я ведаю, на тэрыторыі Расіі ёсць два цэнтры, адзін у Маскве, а іншы ў Пецярбургу, якія займаюцца зборам біяматэрыялаў самых розных народаў Расіі і адпраўляюць іх сваім калегам у ЗША. Асноўная мэта гэтых даследаванняў, мяркуючы па тых публікацыях, якія з'явіліся за апошнія гады, заключаецца ў вывучэнні генетычнай разнастайнасці розных этнасаў у Расіі, у пошуку адрозненняў паміж імі, у тым ліку і таго, якія хваробы іх паражаюць, і ў апісанні гэтых адрозненняў», — сказаў Ільінскі.

Адметна, што ў 2014 годзе стартаваў праект «Расійскія геномы». Біяматэрыялы адпраўляліся ў Цэнтр геномнай біяінфарматыкі імя Дабржанскага Санкт-Пецярбургскага ўніверсітэта. Яго дырэктарам працуе амерыканец Стэфан Джэймс О'Браен, які раней кіраваў лабараторыяй геномнай разнастайнасці ракавага інстытута Нацыянальнага інстытута здароўя ЗША.

Можа быць, менавіта з гэтага і зляпілі падобную тэорыю змовы.

### Закупы ВПС ЗША

Яшчэ летам на сайце дзяржаўных закупак ЗША з'явілася навіна, што вучэбнае авіяцыйнае камандаванне ВПС ЗША збіраецца набываць узоры РНК (рыбануклеінавая кіслата) — жывых тканак расіян еўрапеоіднай расы.

Аднак амерыканцы былі зацікаўленыя толькі ў набыцці 12 узораў РНК і 27 узораў сінавіяльнай абалонкі, якая выпрацоўвае неабходную для суставаў сінавіяльную вадкасць. Указвалася, што прыём донараў з Украіны не дапускаецца.

Для чаго гэта ўсё, не паведамлялася.

### Этнічная зброя

Ураджэнец Беларусі, намеснік старшыні камітэта Савета Федэрацыі па абароне і бяспецы Франц Клінцэвіч выказаў думку, што такім чынам амерыканцы рыхтуюць біялагічную зброю.

«Розныя па этнічнай прыкмеце людзі па-рознаму рэагуюць на біялагічную зброю, таму збор і адбываецца ў розных этнасаў», — сказаў Клінцэвіч.

«На Захадзе ўсё вывяраюць да дробязяў. Калі ўжо прымяняць біялагічную зброю, то з упэўненасцю», — дадаў ён. На думку Клінцэвіча, заходнія спецслужбы рыхтуюцца да біялагічнай вайны.

Падобнае меркаванне выказваюць і некаторыя вучоныя. Навуковы супрацоўнік Інстытута марфалогіі чалавека Сяргей Савельеў выказаў здагадку, што такім чынам спрабуюць стварыць «этнічную зброю».

Аднак салідныя навукоўцы ў тэорыі змовы не вераць.

Доктар біялагічных навук, біяінфарматык Міхаіл Гельфанд сказаў, што дадзены збор генетычнай інфармацыі патрэбны для распрацоўкі тэрапіі генетычных дэтэрмінантных хваробаў суставаў.

Па словах Гельфанда, па біяматэрыяле немагчыма зрабіць біязброю, бо генетычна людзі надта падобныя адзін на аднаго і гэта выключае магчымасць знішчыць прадстаўнікоў адной нацыі.

«Гэта нейкая мярзотная хлусня», — сказаў навуковец.

**Зміцер Панкавец**

### Шэсце ў Курапаты

Традыцыйнае шэсце памяці ў Курапаты адбудзецца 5 лістапада. А 12-й гадзіне калона рушыць ад парку Чалюскінцаў. У Курапатах запланаваны мітынг.

Тым часам у ноч з 29 на 30 кастрычніка адбылася акцыя, якой раней не бывала. Ноччу ў Курапатах сабраліся людзі, нон-стоп чыталі вершы расстраляных паэтаў. Акцыю ініцыявалі былыя палітвязні Зміцер Дашкевіч і Эдуард Пальчыс. На яе, нягледзячы на залеву, сабралася сотня чалавек. Яны запалілі сотні свечак каля крыжоў на магілах. Паралельна ў сталіцы акцёры Свабоднага тэатра наведвалі месцы, звязаныя з рэпрэсаванымі. 80 гадоў таму, у ноч з 29 на 30 кастрычніка 1937 года, была кульмінацыя расстрэлаў беларускай эліты. Тады за адну ноч загубілі 102 жыцці, сярод іх былі міністр урада БССР і выдатныя пісьменнікі.

### Памёр народны мастак Георгій Паплаўскі



Яму было 86 гадоў.

### Суд адмовіўся вяртаць ліцэнзію Ганне Бахціной16

Суд Маскоўскага раёна Мінска прыняў рашэнне па скарзе адвакаткі Ганны Бахціной, якую Мінюст нядаўна пазбавіў ліцэнзіі. У задавальненні скаргі — адмоўлена.

У суд Слуцкага раёна паступіла заява пра прызнанне адсутным без вестак Дзмітрыя Гар'евіча Сарагаўца 14.07.1967 года нараджэння, які пражываў у Мінскай вобласці, г. Слуцку на вуліцы Дабрасельскай, дом 42. Просьба да ўсіх грамадзян і юрыдычных асоб, якія валодаюць звесткамі, паведаміць іх суду ў 2-месячны тэрмін (г. Слуцк, вул. Уласаўца, 8).

### Самае чытанае на nn.by за кастрычнік

1 «Выходзь, падла». Ускрываюцца страшныя падрабязнасці смерці салдата і сітуацыі ў Печах увогуле. Віна — на «шакалах»

2 Шуневіч шпіталізаваны пасля нарады ў Лукашэнкі? Не, раней

3 Чалавек, які прайшоў праз Печы, рашыўся на прызнанне: Мяне апускалі тварам у г…о. Афіцэры ўсё гэта бачылі

4 «Духі, вешайцеся!»: фоты дзядоўшчыны ў вайсковай часці ў Барысаве

5 «Вярніце мне сына!» Яшчэ адна смерць салдата, гэтым разам — у Бярозе

6 Пяць прычын, чаму нельга адпраўляць у адстаўку міністра абароны Андрэя Раўкова

7 Пад ціскам палякаў з помніка Касцюшку ў Швейцарыі выкраслілі ўсе згадкі пра Беларусь

8 «Не хапіла салдацкіх грошай? Можа, яшчэ падкінуць?» — затрыманаму прапаршчыку Укантакце напісалі 800 праклёнаў

9 «Гэта дарога вечная». У пошуках беларускіх брукаванак. Спецпраект НН

10 Новы кліп «Ленінграда» з разгромнай крытыкай расійскай рэчаіснасці сабраў 4 мільёны праглядаў за 3 дні

# «Выходзь, падла». Ускрыліся страшныя падрабязнасці смерці салдата і сітуацыі ў армейскай вучэбцы ў Печах

**Гэтая гісторыя ўзрушыла краіну. Адбыліся арышты, ідзе следства. Але ці зменіцца сістэма?**



У барысаўскіх Печах, дзе праходзяць вучобу салдаты тэрміновай службы (кухары, кіроўцы, кінолагі і г.д.), знайшлі павешаным маладога хлопца — 21-гадовага Сашу Коржыча. Ён служыў у 3 школе, 3 роце, 2 узводзе.

Да службы ў арміі Коржыч быў паспяховым хлопцам. Ён добра зарабляў як аўтамеханік, у яго было шмат сяброў, ён вёў актыўны лад жыцця. Яму сама жыць, кахаць — а ён паміраe.

Чым адметная смерць Сашы Коржыча сярод іншых смерцяў?

Тым, што гэты выпадак дазваляе зразумець механізм работы самых Печаў — гісторыя пінскага хлопца выкрыла ўвесь той гадзючнік, які там развёўся: салдатам першага перыяду выстаўлялі «рахункі» за тое, каб іх не чапалі фізічна. Скаргі афіцэрам прыводзілі да падвойных здзекаў.

Расказы сяброў і маці загінулага кідаюць у шок.

Па-першае, выходзіць, што хлопца знайшлі мёртвым у нейкім падвале праз некалькі дзён пасля таго, як ён памёр. А дагэтуль ён быў у медроце — піў вугаль з валяр'янкай ад тэмпературы і прасіў бацькоў выслаць антыбіётыкаў.

Тут медыкі і афіцэры ківаюць адзін на аднаго: маўляў, мы думалі, што ён быў у медыкаў, а тыя кажуць, што яго выпісалі...

Вось што расказала «Нашай Ніве» маці Аляксандра Коржыча.

### Агулам з карты Сашы знікла 1500 рублёў

«Найперш, да Сашы я амаль не магла патрапіць у час службы, не ўдавалася. Доўгая сустрэча была 3 ліпеня. І калі па тэлефоне ён казаў проста: «Усё нармальна», то там ужо выгаварыўся.

Ён расказаў неймаверныя рэчы. Што сяржанты прыводзілі ноччу прастытутак, аб'яўлялі роце «трывогу», самі забаўляліся з імі, а іх прымушалі глядзець. Пра сэксуальны гвалт... Я кажу: дык што вы там, сасалі ім, лізалі? Што? Ён нічога не кажа, гаворыць: табе лепш не ведаць. Там быў канкрэтны рахунак, які выстаўляўся за бяспеку, — 15 рублёў у дзень. Ён спачатку супраціўляўся, але яго моцна білі. Агулам з карты Сашы знікла ў невядомым кірунку 1500 рублёў. Ён прасіў мяне высылаць яму грошы, я высылала. І я ведала, што іх адбіраюць прапаршчыкі і сяржанты, але што мне рабіць было, каб яго там забілі?

Я б крэдыт узяла, калі б ведала. Так усе там робяць. І вось, калі ён мне сказаў, што яму гэта абрыдла, што ён не хоча, каб я несла такія выдаткі, гэта ўсё і здарылася. Ён сказаў, што пойдзе да ротнага «разбірацца». І потым яго знайшлі ў пятлі, так вось «разабраўся», — кажа забітая горам жанчына.

### «Закрый рот, падла»

«Калі мы прыляцелі ў часць па цела, мне яго не аддавалі, казалі: яно «яшчэ не гатова». Я кажу камандзіру часці: «Вядзіце мне таго прапаршчыка, які вам нашы грошы насіў. Ці вы нічога не ведалі?» А ён давай расказваць, што прапаршчык у падарожжы, а тэлефоны Сашы ён таксама не можа аддаць: маўляў, ён іх прадаў за даўгі. Я кажу: закрый рот, падла, мой сын мне перад войскам кухню падарыў за 2 тысячы даляраў, а ты мне расказваеш, што ў яго тут даўгі былі?

Ён сціх адразу, пачалі нас мурыжыць у Барысаве. То туды паедзьце, то сюды.

Калі забралі цела, то там гематомы па ім — у пахвіне, у раёне печані, нырак. І ўся галава ў дробных ранах, нібы шылам калолі. Гэта фашысты. Мая маці бачыла труп і сказала, што немцы з іх у канцлагеры так не здзекаваліся, як тут свае ж.

Ён жа не хацеў з'язджаць! Яму брат прапаноўваў у Маскву перабрацца да яго, там бізнэс, а ён кажа: я ж беларус чыстакроўны, чаго мне туды ехаць?»

## Каб салдата не білі, ён павінен быў плаціць 15 рублёў у дзень

Маці таксама кажа, што яго, найхутчэй, палохалі і яе жыццём.

«Апошні яго званок быў з пытаннем: «Маці, як ты?». І ён так кожнае слова прамаўляе: «М-а-м-а, як у цябе справы? Я пытаюся, як ты? У цябе ўсё н-а-р-м-а-ль-н-а?» — кажа жанчына і больш не можа гаварыць.

Як мы даведаліся, у курсе сітуацыі з вымагальніцтвам былі і сябры Сашы: яны збіралі грошы і таксама клалі іх яму на карту.

Куды яны ішлі? Кажуць, што «каб не білі Сашу», хаця спачатку ён і казаў, што ўсё гэта «на булачкі», але такія сумы не маглі ісці на «булачкі», гэта было ясна.

### Што паказвае айфон

Адметна, што Саша меў тры тэлефоны: два з іх узяў у войска («званілку» і смартфон), а круты айфон пакінуў на захаванне сябру. Да айфона была прывязаная картка, якую Саша аддаў прапаршчыку.

Па плацяжах, як нам паказалі сябры, можна адсачыць гастролі людзей, у якіх яна была: вось яны аплочваюць штосьці ў начным клубе, вось запраўляюць машыну, вось — купляюць штосьці на «Барысаў-Арэне», а вось ужо ў Мінску, а вось у Жлобіне.

«Калі я прыехаў да Сашы апошні раз, ён казаў, што роты — так, здаецца, менавіта роты — хоча выкупіць яго айфон за 30 рублёў, і тады, маўляў, Саша зможа пайсці ў доўгі «ўвал» на тры дні», — расказаў нам сябра Сашы, Ілля, у якога быў той айфон.



Святлана, маці Аляксандра. Гадавала сына адна, больш дзяцей не мае.

### Мянушка Бэран

«Самы жорсткі сяржант там быў Б. [імя і прозвішча ёсць у Рэдакцыі], мянушка Бэран», — дадае ён.

## Сяржанты ноччу прыводзілі ў казарму прастытутак

Як высветліла «Наша Ніва», Б. цяпер сярод затрыманых. Усяго пад варту ўзятыя адзін афіцэр, адзін прапаршчык і восем сяржантаў. Нам гэта пацвердзілі іх сваякі.

Перад тым на пахаванне хлопца мелі нахабства прыехаць камандзіры Сашы. У выніку міліцыя вымушаная была іх ахоўваць, бо жыхары Пінска былі гатовыя парваць іх на лахмоты. «Выходзь сюды, падла, я табе сам абарву пагоны і пакладу ў труну разам з Сашам», — такое крычалі ім людзі.

Але ці можа быць такое ў сучаснай Беларусі? Мо гэта толькі перабольшванні забітых горам блізкіх?

Мы пагаварылі з былымі і дзейнымі вайскоўцамі, якія некалі мелі дачыненне да Печаў.

### «Пацаны беглі на месцы і курылі»

Вось што нам расказаў чалавек, які прайшоў вучэбку ў Барысаве ў 2014 годзе, але ў іншай роце.

«Дзе ён [Саша Коржыч] быў, там п***ец. Паўсюль салдатаў гнабяць і афіцэры, і прапары, і сяржанты. Мяне ўразіла, калі я туды прыехаў і ў першы дзень пайшоў на курылку, то там пацаны беглі на месцы і курылі, прыкінь. Я кажу: вы што, **анутыя, што вы робіце? А ім сяржанты нібы паставілі ўмову: калі цела ў вертыкальным становішчы, то ты можаш або страявым ісці, або бегчы.

Я кажу ім: вы сур'ёзна? Вы іх не можаце на**й паслаць? А яны вочы ў зямлю. Ну але потым я сам сутыкнуўся. Сэнс такі: не будзеш плаціць бабкі — будзеш гінуць у нарадах і фізічна. Таму ты альбо жорстка ставіш сябе, або... або за ўсё плаціш. Хочаш мабілу — 20 рублёў, хочаш пазваніць — столькі ж. Гэта называецца «выкупіць тэлефон». Я ж таксама малады быў, першы раз не зразумеў і даў грошай, а мне іх не вярнулі. Ну і атрымалася, што я выкупіў раз і назаўсёды — я біўся з імі кожны дзень, кожны божы дзень. Паратунак — толькі калі ты спартовец, баксёр ці барэц. Мне абяцалі скінуць гіру 32 кг ноччу на галаву, прыкінь, а я іх за гэта кожнага па адным выводзіў у туалет і сёк, пакуль не пачыналі енчыць. Ну гэта страшна, насамрэч. Выхад быў толькі адзін — біць я***. Я маці ніколі не казаў, што там адбываецца.

Там у пацаноў столькі слёз выцекла, што можна было возера пабач з Барысавам заліць», — сказаў нам гэты хлопец.

Прыкладна тое ж самае расказвае іншы хлопец, якому, як ён кажа, «не фартанула» — меў трапіць у спецназ, але не хапіла месцаў, і каб не чакаць паўгода лішнія, ён пагадзіўся на Печы. Цяпер жа ён кантрактнік там, куды і хацеў трапіць: у адной з частак ССА.

### «Афіцэраў называюць «шакаламі»

«Афіцэраў Печаў салдаты называюць «шакаламі» паміж сабой, — кажа ён. — Чаму шакалы? Таму што яны даядаюць слабых. Я не буду казаць, што грошы прыносяць ім, бо не бачыў. Але што грошы вымагалі сяржанты — гэта факт.

І там ніхто ж не кажа наўпрост, а намёкамі. Мне адразу прыйшло разуменне, што іх трэба проста п***ць, каб яны баяліся на цябе глянуць.

Печы — гэта г.зв. «чмо-войскі», дзе квітнее дзедаўшчына. У параўнанні з імі ССА і спецназ — дзіцячы сад. У ССА камеры стаяць, а ты пастаў камеру ў Печах, пажадана ў туалеце — там вы такога нагледзіцеся... Там мы зімой снег у кубы раўнялі, каб было «прыгожа». Начныя адцісканні... кукаванні, спевы песняў у тумбачках. Што пра гэта гаварыць, ай... Там іерархія як на зоне: першы перыяд службы не можа гаварыць наўпрост з трэцім перыядам — усё перадаецца праз другі. Ёсць касты: «дзяды», «чарпакі», «чэрці».

Ведаеш, што такое «чэрці»? Гэта калі чалавеку трынаццаць раз б'юць тапкам па галаве з парады сяржантаў, і ён робіцца як бы «апушчаным». З ім нельга гаварыць, яму нельга курыць, нельга хадзіць у буфет, яго можна толькі п***зіць. Калі фізічна не змогуць п***зіць, то будуць п***зіць слабейшых, хто абс***еццa, каб яны з табой не гаварылі і г.д. І гэта падтрымліваецца «шакаламі». Скажам, у сталовай такім людзям выдаецца дзіравая лыжка, каб ён не мог есці суп — ён выцякае проста.

Працяг на старонцы 4.

# «Выходзь, падла». Ускрыліся страшныя падрабязнасці смерці салдата і сітуацыі ў армейскай вучэбцы ў Печах

Працяг са старонкі 3.

Калі ў кагосьці жорсткія пабоі, то яго хавалі недзе. Пад ложкам, скажам. А замест яго ў шэраг станавіўся днявальны. Медычка ўсіх падлічыла — і нармальна.

Калі ты, не прывядзі бог, жаліўся бацькам, а яны ішлі да кіраўніцтва, то ты сабе амаль падпісаў прысуд, лічы. Прыходзіць «шакал» [афіцэр] і кажа: маўляў, вось гэтага мамка прыязджала, майце на ўвазе.

Але сяржанты ў той жа час часта хадзілі жаліцца да шакалаў, што іх не слухаюцца. Мы проста заехалі туды бандай: адразу пасябравалі ўчатырох і слалі на*** сяржантаў хорам і адзін за аднаго заўсёды стаялі, пару разоў пусцілі іх пад ногі. А хто не быў дружным... Я як успамінаю, як здзекаваліся з мамкіных сынкоў, то рэальна дагэтуль трасе... Усім жа не дапаможаш, бо там пяць тысяч чалавек служаць. Калі ў іншай вучэбцы маладых ганяюць, то ты за іх ніяк не ўступішся. А ўступішся раз і — то ты ж далей пойдзеш, а іх загасяць потым, што яны сто разоў тваю дапамогу праклянуць. Але як іх выхоўваць? Гэта ў**кі і фашысты».

Варта адзначыць, што некаторыя салдаты, якія праходзілі службу там жа, дзе і памерлы Саша, адмаўляюць існаванне дзедаўшчыны ў выглядзе грашовых пабораў і збіванняў.

### Я б такіх афіцэраў ставіў да сценкі

Дзейны афіцэр адной з элітных частак, у чым падпарадкаванні знаходзяцца салдаты, акадэмічна апісаў нам, чаму так адбываецца, што ў адных ёсць, а ў другіх дзедаўшчыны няма.

«У войску салдаты дзеляцца на тры ўмоўныя катэгорыі, — сказаў ён, — «авечкі» — тыя, каго прыгнятаюць, «ваўкі» — тыя, хто прыгнятае, і «ваўкадавы» — тыя, хто можа даць адлуп ваўкам і ўзяць пад абарону статак «авечак».



Да службы ў арміі Коржыч быў паспяховым хлопцам. Ён добра зарабляў як аўтамеханік, у яго было шмат сяброў, ён вёў актыўны лад жыцця.




Вышэйшае кіраўніцтва вучэбкі ў Печах.

Ад працэнтных суадносінаў гэтых трох тыпаў і залежыць сітуацыя з дзедаўшчынай у часці, дзе афіцэрам па барабане, што ў іх там адбываецца. Калі яны заплюшчваюць вочы, то сяржанты адчуваюць беспакаранасць, і потым тыя, хто слабы духам, вось так сканчаюць. Пра Печы заўсёды казалі, што там адбываецца штосьці жудаснае, нават калі я яшчэ быў курсантам першага курсу. Я б такіх афіцэраў ставіў да сценкі, разам з прапарамі і сяржантамі», — эмацыйна выказаўся ён, бо гэтая гісторыя ўжо разнеслася сарафанным радыё па іншых часцях.

Адзначым, што апытаныя намі вайскоўцы падкрэслівалі існаванне жорсткай дзедаўшчыны толькі ў частках, дзе кіруюць «шурупы», — гэта вайсковы слэнг, які абазначае не належнасць да эліты, друганасць.

Паняцце ідзе ад выразу «Войскі — гэта шчыт і меч Айчыны», дзе шчыт — пагранічнікі, авіяцыя, меч — спецназ, ССА, а шурупы на шчыце — усё астатняе.

Таксама сваім меркаваннем падзяліўся сяржант часці ўнутраных войскаў 3214, — гэта той самы «меч», — ён кажа, што верыць у расказы Аляксандра пра шлюх у часці і паборы пры ўмовах, што хтосьці з «начальства» быў мясцовы [а адзін з сяржантаў акурат з Барысава — НН].

«У «спецуры» усё не так, у нас тут спартоўцы збольшага, трэніроўкі па рукапашным баі, усе заўсёды пры справе, няма калі дурэць. Ну бывае там, што «дзяды» пасылаюць па марожанае, па цыгарэты. Самае жорсткае, што можа быць, — гэта калі зловяць з насваем (бо некаторыя любяць), то могуць прымусіць заварыць з яго чай і выпіць. Ну, прарыгаешся, але будзе навука. А што да Печаў, то любы чалавек у форме ў курсе, што там чарнуха робіцца. Я думаю, хлопца гэтага наўрад ці хтосьці вешаў, проста ён не

### «Цяпер армія заключаецца ў грошах. Ёсць грошы — ты ў пашане, няма — ты ніхто»

вытрымаў здзекаў. Словы афіцэраў пра тое, што яны некалькі дзён не ведалі, дзе ён знаходзіцца, — гэта бeліберда і хлусня. За кожным, хто выпісваецца з санчасці, пасылаюць сяржанта для гарантыі. А тут яны не ведалі? Усё яны ведалі, проста выйгравалі час для прыдумкі версій, хавалі здарэнне. У гэтым я перакананы».

### Пасля гэтых гісторый прапануем чытачам і кампетэнтным органам адказаць для сябе на некалькі пытанняў

1) Ці здольнае абараніць краіну такое войска, дзе, замест клопату аб функцыянальнай і баявой падрыхтоўцы, у салдата баліць галава (а часам і печань з рэбрамі) пра тое, як адкупіцца ад сяржантаў і прапаршчыкаў?

2) Ці могуць насіць званне афіцэра людзі, у чыіх часцях квітнее аброк? Ці трапляе частка гэтага аброку да афіцэраў?

3) Чаму некалькіх смерцяў маладзёнаў ад наркаты хапіла, каб дзяржава прыняла дэкрэт №6 і пачала саджаць барыг тысячамі, а за такія ж пакутлівыя смерці маладых пацаноў у адной асобна ўзятай часці мы не бачым поўнай лавы падсудных?

4) Навошта дагэтуль у такіх часцях існуюць «палітрукі»?

5) Чаму ніхто не аналізуе прычын сітуацыі, калі ў вайсковыя вучэльні з года ў год ідуць тыя, хто проста не мае здольнасцяў набраць болей за 150 балаў на ЦТ разам з атэстатам?

**Не адна трагедыя**

31 сакавіка ў іншай часці ў Барысаве ў пятлі знайшлі другога хлопца, Арцёма Басцюка. Следства па ягонай смерці Следчы камітэт спачатку спыніў, але пасля справы Коржыча аднавіў.

**Ганебная беднасць**

Падчас знаходжання ў шпіталі салдат Коржыч прасіў, каб з хаты яму выслалі антыбіётыкі, бо дактары «лекавалі» яго толькі валяр'янкай і актываваным вугалем.

## Дзесяці вайскоўцам выстаўленае абвінавачванне

Пасля публікацый у СМІ справу ўзяў пад асабісты кантроль Аляксандр Лукашэнка.

— На сёння абвінавачванне выстаўленае дзесяці вайскоўцам: васьмі сяржантам, прапаршчыку і афіцэру. Яшчэ адзін афіцэр знаходзіцца ў статусе падазраванага, да яго ўжытая мера працэсуальнага прымусу — абавязацельства аб яўцы. Высвятляецца дачыненне іншых асоб да здзяйснення злачынства, — расказвае Юлія Ганчарова, афіцыйная прадстаўніца Следчага камітэта.

Што датычыць Міністэрства абароны, то яно таксама ад тактыкі замоўчвання перайшло да прынятця канкрэтных захадаў.

Шэраг службовых асоб 72-га АНЦ звольнены з Узброеных Сіл за непрыняцце мер па прадухіленні гібелі вайскоўца, у тым ліку начальнік 3-й школы падрыхтоўкі спецыялістаў, начальнік штаба — першы намеснік начальніка школы, камандзір вучэбнай роты, старшына медыцынскай і старшына вучэбнай роты.

Сярод адхіленых ад выканання службовых абавязкаў — і начальнік медыцынскай службы цэнтра.

## Тры салдаты з Печаў знаходзяцца ў РНПЦ у Навінках. Адзін з іх спрабаваў здзейсніць суіцыд

Сярод пацыентаў Рэспубліканскага навукова-практычнага цэнтра псіхічнага здароўя — салдат, які зрабіў спробу суіцыду напярэдадні гібелі Аляксандра Коржыча ў Печах. Гэта стала вядома парталу *Tut.by.*

— Сыну высылаю грошы не толькі я, але і родныя, яго дзяўчына. З яго здзекаваліся маральна, фізічна. Вядома, пайду на размову з кіраўніцтвам, маўчаць не буду, раз маё дзіця пайшло ў войска здаровым, то хачу атрымаць назад таксама здаровага хлопца, — кажа мама салдата. – Цяпер сын стаў скрытным, дрыжыць і баіцца нешта сказаць.

З гэтай жа часткі 39 864 у Рэспубліканскім навукова-практычным цэнтры псіхічнага здароўя на лячэнні знаходзіцца яшчэ адзін салдат.

— Цяпер армія заключаецца ў грошах, — кажа мама салдата з Печаў. — Ёсць грошы — ты ў пашане, няма — ты ніхто. Было б прасцей адкупіцца ад службы, чым высылаць туды.

Сам салдат, па словах маці, не бачыў нічога страшнага ў тым, што трэба было плаціць тым, хто па званні вышэйшы. Грошы яму высылалі і мама, і брат. Перад службай сына жанчына зрабіла салдату другую картку, куды пералічваўся яе заробак. Большую частку яна здымала, астатнімі грашыма мог распараджацца сын.

– Часам хадзіў у чыпок [буфет] па 5 разоў на дзень, я яшчэ гаварыла: «Гэта карова можа столькі з'есці, а не ты». Абуралася, ён казаў, што гэта жыццё.

Дарэчы, сын запэўніваў, што ніхто нікога там не біў. Зараз дзедаўшчына ў войску будуецца не на тым, каб кагосьці біць, яна заключаецца ў грошах. Адначы за два дні сышло 45 рублёў, бо сяржант дазволіў патэлефанаваць дадому, скадзіць у чыпок. У месяц недзе сыходзіла па 100 рублёў.

Паводле інфармацыі *Tut.by*, у Навінкі таксама накіраваны яшчэ адзін салдат, які здзейсніў спробу самагубства.

# Чалавек, які прайшоў праз Печы, рашыўся на прызнанне: Мяне апускалі тварам у г…о

Сцяпан Кульчанка быў у Печах у вучэбцы, пасля служыў у Мар'інай Горцы. Пасля службы працаваў у міліцыі, але зразумеў: гэта не ягонае. І пайшоў рабіць звычайным рабочым на хімзавод. Цяпер ён працуе ў прыватным бізнэсе. Калі стала вядома пра смерць салдата Коржыча ў Печах, 36-гадовы Сцяпан вырашыў: трэба расказаць, як яго ламалі ў Печах, расказаць, што гэта не выпадковасць, а сістэма. «У Мар'інай Горцы служылася зусім інакш, як на курорце», — падкрэслівае ён. А ў Печах было пекла.



Сцяпан Кульчанка служыў у Печах 6 месяцаў, з сярэдзіны 2000-га да пачатку 2001 года. Цяпер яму 36 гадоў, прызываўся ён ва ўзросце дзевятнаццаці. Сцяпан ніколі публічна не расказваў пра тое, што з ім адбывалася падчас службы пад Барысавам.

Радыё «Свабода» са скарачэннямі публікуе ўспаміны былога салдата тэрміновай службы.

### Грошы для прапаршчыка на марожанае

«Нас привезлі ў Печы з Мінска яшчэ ў цывільным. Размеркавалі ў казармы на ноч. Лёг спаць, заснуў. Прачнуўся ад таго, што накінулі на шыю рэмень, ударылі пад дых. Малады сяржант. Крычыць: «Дай грошы прапаршчыку на марожанае!» А нас там такіх 200 чалавек. Усе з провадаў толькі, пры грашах».

«Другі дзень у Печах у мяне таксама быў не вельмі добрым. Выдалі абутак са словамі: «Каб табе добра хадзілася па савецкай зямлі». Гэта значыць, на адзін памер меншы. Я пайшоў да прапаршчыка скардзіцца, а ён мне кажа: «Хочаш мітынгаваць? Я вось табе зараз дам плакат, фарбы. Малюй лозунг і хадзі вакол казармы, мітынгуй». Тое самае мне потым сказаў камбат. Гэта ўсё яны мяне перавучвалі, бо на маёй асабістай справе было чырвоным фламастарам напісана: БНФ. Я сам бачыў. Шэсць месяцаў я ў такім абутку адхадзіў і кросы бегаў. Калі перавёўся ў Мар'іну Горку, абутак памянялі ў першы ж дзень».

«Потым «суботнікі» пачаліся. «Суботнік» — гэта калі з атрыманых салдатамі грошай яны скідваюцца сяржантам на дзяўчат. Дзяўчат прыводзілі проста ў казарму, нас зганялі ў адзін кут на некалькі гадзінаў, а з дзеўкамі ўжо ў другім былі яны.

Хто бліжэй аказваўся, мог усё бачыць. Проста на вачах сяржанты гэта рабілі. Мноства дзяўчат праходзіла там. Некаторых мы ўжо ведалі. Былі і жанчыны. «Суботнікі» па начах праходзілі».

«Грошы давалі сяржантам не ўсе. Я не даваў. Іншыя хлопцы супраціўляліся. Не магу сказаць, што было поўнае падпарадкаванне. Былі выпадкі, калі хлопцы аб'ядноўваліся і разам супрацьстаялі сяржантам. Пры мне пінскія трымаліся разам, я нават здзівіўся, што яны так арганізаваліся самі. Але калі нехта не плаціў, то былі «санкцыі».

«У прыбіральні любілі зачыніць. Насыплюць туды хлоркі і зачыняюць салдата. Уначы маглі падняць. Гадзіна ночы, а сяржант каманду «пад'ём» дае. Гэта як мінімум. Хто працягваў супраціўляцца, таму дужкай па нырках білі. Накрывалі на ложку матрацам і білі. Гэта каб слядоў не заставалася. Слядоў не відаць, але ў мяне дагэтуль пасьля такіх «працэдур» спіна баліць. І ныркі хворыя».

«У аднаго хлопца — здаецца, ён з Барысава быў — грошай проста не было. Бедная сям'я, ён не мог папрасіць. Яму даставалася больш за іншых. Яго больш крыўдзілі, адпраўлялі на брудную працу на ферму».

«Лісты ўсе чыталі нашы. Ведалі, што грошы прыйшлі. Адзін ты не мог ісці на пошту, толькі з сяржантам. Ну і ён на месцы таксама прасіў прапаршчыку на марозіва».

### Любоў да радзімы ў прыбіральні

«Асабіста мяне вучылі «любіць Радзіму». Адбывалася гэта ў прыбіральні. Замыкалі ўначы і загадвалі 12 разоў запар праспяваць гімн БССР. Менавіта БССР, а не сучасны. Чамусьці ім ён больш падабаўся. Пакуль не праспяваеш 12 разоў, адтуль не выпускалі. Я супраціўляўся. Тады заходзілі і ў г… тварам апускалі».

«Ад настрою сяржантаў шмат што залежала. Нават магчымасць паесці. Мы маглі абедаць, толькі калі сяржанты сядзяць за сталом. Яны ўсталі — і ўсё, ежы больш не даюць. Часам мы проста не паспявалі атрымаць сваю порцыю. Гэта нармальным лічылася, калі чалавек дзесяць не паабедалі альбо не павячэралі».

«Бывала так, што салдаты хадзілі скардзіцца да кіраўніцтва часткі. Такіх потым на смех падымалі. Маўляў, ты не мужык. А гэта ж абраза. Вы падумайце, толькі ў маёй роце 80 чалавек. А ніхто не расказвае. Які мужык вам раскажа, што яго тварам у г... апускалі?»

«Помсцілі прапаршчыкам і сяржантам зборльшага па дробязі. Загадае боты пачысціць — яму там дзірку зробіць. Такі быў супраціў. А што ты зробіш? Прыходзілі ў казармы ідэалагічныя супрацоўнікі. Альбо спецыялісты па выхаванні. Дык яны нічым не адрозніваліся ад нашага камбата».

«На другі месяц службы шмат у каго дах ехаў. Асабліва ў людзей з вышэйшай адукацыяй. Ім зусім цяжка было. Яны маральна не былі гатовыя да здзекаў. Не маглі паверыць, што ўсё гэта рэальна адбываецца. Уявіце, што чалавек з вышэйшай адукацыяй можа лезці ў бак са смеццем і шукаць там кавалкі хлеба, якія сяржанты не далі і свінням выкінулі. Слёзы цякуць, а чалавек есць».

«Сістэма дзейнічае таму, што адбор ідзе з самага пачатку. Ніводны сяржант ці афіцэр не раскажа вам праўды аб Печах. Яны сабе людзей падбіраюць з ліку курсантаў. Выбіраюць найбольш нахабных, пакідаюць у частцы, робяць сяржантамі. Потым гэты сяржант ідзе ў школу прапаршчыкаў... Гэтыя людзі робяць з навічкамі тое самае, праз што прайшлі некалі самі. Яны нічога не будуць спыняць».

### Мы жылі думкамі пра перавод у іншую частку

«У мяне не было думак пра самагубства. Магчыма, таму, што я адразу настройваўся на горшае. Але я бачыў, як фізічна моцныя хлопцы ў Печах падалі духам. Чуў, што людзі абмяркоўвалі магчымасць адсекчы палец сякерай альбо страўнік перцам спаліць. Каб з войска камісавалі».

«Я не магу дакладна сказаць, што адбылося з Аляксандрам Коржычам. Забойства гэта, самагубства ці давядзенне да самагубства. Ведаеце, тут усё можа быць. У сяржантаў у Печах дах едзе, яны багамі сябе адчуваюць, не могуць спыніцца. Давесці некага там да самагубства — гэта вельмі проста».

«Я вырашыў пра ўсё расказаць, бо баюся, што справу Коржыча спішуць на некалькіх сяржантаў, магчыма прапаршчыка, і ўсё. Знойдуць некага. Але ў казарме ўначы павінен быць таксама афіцэр. У нас было так, што праз сцяну ад прыбіральні быў пакой афіцэра. І яны заходзілі ў прыбіральню па сваіх справах проста падчас здзекаў, спраўлялі патрэбу і сыходзілі. Часта п'яныя былі... Я бачыў таксама, што камбат быў сяржанта за тое, што ён слаба на нас ціснэ».

«Мы жылі тым, што нас перавядуць у іншыя часткі. Калі я з Печаў трапіў у Мар'іну Горку, то гэта была нібы Турцыя, курорт. Афіцэры іншыя. Крыкаў не было, ціску. Мяне камбат у першы дзень да сябе паклікаў, папрасіў, каб было «без палітыкі», і ўсё. Ніякіх праблем больш не было. Салдаты маглі нешта паміж сабой усчаць, нейкі канфлікт. Але камандаванне часткі іх адразу спыняла».

# Наскевіч: На целе загінулага ў Печах салдата не выяўлена пашкоджанняў, апроч баразны на шыі



Старшыня Следчага камітэта Іван Наскевіч, выступаючы ў парламенце, заявіў журналістам, што па факце трагічнай смерці Аляксандра Коржыча ў Печах заведзена 13 крымінальных спраў, аб'яднаных у адну.

«На целе Коржыча не было іншых пашкоджанняў, акрамя странгуляцыйнай баразны (след на шыі ў павешаных або задушаных у пятлі), — паведаміў ён, адзначыўшы, што гэта звесткі судова-медыцынскай экспертызы.

Маўляў, родныя прынялі за сінякі трупныя плямы.

«Над справай Коржыча штодня працуе 15—20 следчых. Паранейшаму разглядаюцца тры асноўныя версіі: самагубства, давядзенне да самагубства, наўмыснае забойства», — дадаў Іван Наскевіч.

«Няправільна будзе таксама казаць, што ў сувязі з грамадскім рэзанансам мы аднавілі старыя справы па дзедаўшчыне. Гэта ў сувязі з рэзанансам фігуранты тых справаў і сведкі загаварылі. Не выключаю, што і па іншых фактах справы пасля праверак дойдуць да суда», — рэзюмаваў ён.

**Арцём Гарбацэвіч**

# Міністр Раўкоў пракаментаваў смерць салдата Коржыча ў Печах

Міністр абароны Андрэй Раўкоў пракаментаваў гібель радавога Аляксандра Коржыча, што загінуў у Печах пад Барысавым, піша БелТА.

Войска — гэта школа для маладых людзей, і ў вайсковым калектыве не павінна быць халатнасці і баязлівасці, падкрэсліў міністр.

«Камандзіры і начальнікі павінны адказваць за падначаленых, — заявіў ён. — Не павінна быць смерцяў вайскоўцаў, асабліва тэрміновай службы ў мірны час».

«Я выказваю глыбокія спачуванні бацькам загінулага Аляксандр Коржыча. Ніякімі словамі нельга зменшыць боль ад трагедыі. Цяпер самае галоўнае — аднавіць поўную карціну таго, што адбылося», — падкрэсліў Андрэй Раўкоў.

Міністр звярнуўся да ўсіх бацькоў, чые сыны служаць або будуць служыць ва Узброеных Сілах: «Калі вы прыязджаеце на прысягу, звярніце ўвагу, што кажуць камандзіры вайсковых часцей. Яны скажуць, што рабіць у дачыненні да сваіх дзяцей, каб служба прайшла без праблем. Узаемасувязь бацькоў з вайсковай часткай павінна быць пастаяннай». Пры гэтым, калі няма даверу да кіраўніцтва вайсковых часцей, у сваякоў заўсёды ёсць магчымасць прыйсці на прыём да міністра або звярнуцца ў іншыя органы.



Андрэй Раўкоў таксама праінфармаваў, што пачата рэалізацыя мер кадравага, тэхнічнага, арганізацыйнага характару ў дачыненні да 72-га аб'яднанага навучальнага цэнтра, у якім праходзіў службу Аляксандр Коржыч. «Гэтае пытанне кардынальна вызначым у найбліжэйшы час», — дадаў міністр.

# Лукашэнка адхіліў ад пасадаў усё кіраўніцтва ААЦ — Шпегуна і намеснікаў

У кіраўніка краіны адбылася нарада з прадстаўнікамі сілавога блока. Аляксандрам Лукашэнкам прынятае рашэнне адхіліць ад пасады ўсё кіраўніцтва Аператыўна-аналітычнага цэнтра (ААЦ) да канца расследавання гучных справаў, якія былі перададзеныя лідару Беларусі.

«Сёння я хацеў бы пагаварыць і абмеркаваць у гэтым складзе праблемы асобных правапарушэнняў у нашай краіне. У тым ліку і на самым высокім узроўні, у тым ліку звязаных з карупцыйнымі праявамі. Я проста абяцаў у свой час, што ў такім складзе мы сустрэнемся, каб не было рознага роду пагалосак і выдумак. І, яшчэ раз падкрэсліваю, перш чым прымаць рашэнне, я гатовы выслухаць пазіцыю, калі трэба, кожнага», — сказаў Аляксандр Лукашэнка, адкрываючы нараду.

У сувязі з прэтэнзіяй да іх працы з боку камісіі, створанай па даручэнні Лукашэнкі, якая вывучала дзейнасць ААЦ, кіраўніком дзяржавы прынята рашэнне аб адхіленні ад займаных пасадаў усіх кіраўнікоў Аператыўна-аналітычнага цэнтра да заканчэння расследавання фактаў, прадстаўленых кіраўніку краіны.

Начальнік Аператыўна-аналітычнага цэнтра — Сяргей Шпягун, яго намеснікі — Генадзь Бялкоў і Канстанцін Шульган.

Сяргей Шпягун узначальваў Аператыўна-аналітычны цэнтр ад кастрычніка 2011 года. Гэта самы закрыты сілавік у краіне, нідзе няма нават яго біяграфічных звестак.

**Зміцер Панкавец**



Сяргей Шпягун (злева) і кіраўнік КДБ Валерый Вакульчык.

# Што вядома пра адстаўленага Сяргея Шпегуна — самага сакрэтнага спецслужбіста Беларусі

Адхілены ад пасады кіраўнік Аператыўна-аналітычнага цэнтра пры Адміністрацыі прэзідэнта Сяргей Шпягун, бадай, самы засакрэчаны спецслужбіст краіны.

Мала хто з карыстальнікаў інтэрнэту ведае яго асобу. Затое Сяргей Шпягун пры жаданні можа даведацца ўсё пра наведнікаў сайтаў. Аператыўна-аналітычны цэнтр — спецслужба, якая кантралюе беларускі інтэрнэт. А калі захоча, націскае на рубільнік.

«Наша Ніва» скіроўвала інфармацыйны запыт з просьбай патлумачыць функцыі ААЦ і прадаставіць біяграфіі кіраўніцтва. Аднак у гэтым было адмоўлена.

Што вядома пра Сяргея Шпегуна і ягоную кар'еру? Чуткі звязваюць яго з асобай



Шпягун злева ад Віктара Лукашэнкі.

Віктара Лукашэнкі, маўляў, недзе перасякаліся па службе, вось той і параіў Шпегуна на высокую пасаду. І больш нічога. Ні ўзрост, ні месца нараджэння.

Можа, чыноўнік трымае акаўнты ў сацыяльных сетках? У рускамоўным Укантакце згадваецца толькі адзін «ШпЕгун» з Беларусі, у Аднакласніках — ніводнага. Толькі суцэльныя «ШпІгуны» ў прылеглых да Украіны рэгіёнах.

Але ў рэдкім прозвішчы ёсць і свае перавагі. Старыя тэлефонныя даведнікі ўтрымліваюць звесткі пра «С. В. Шпегуна», які жыў у цэнтры Брэста. Няўжо той самы?

У былой кватэры Шпегуна цяпер жыве маладая сям'я — двухпакаёўку яны здымаюць як арэнднае жыллё. З дапамогай суседзяў пачынаем аднаўляць ланцужок уласнікаў. Некалькі гадоў таму тут жыла адзінокая пенсіянерка, якая падарыла кватэру дзяржаве і з'ехала ў дом састарэлых.

У інтэрнэце згадваецца Таццяна Шпягун. У пачатку 2010-х яна працавала натарыусам у Брэсцкай гарадской дзяржаўнай натарыяльнай канторы, а пасля перабралася ў сталіцу. Цяпер яна згадваецца як работнік Натарыяльнай канторы №2 Цэнтральнага раёна Мінска. Крыніцы «Нашай Нівы» патлумачылі, што гэта жонка чыноўніка.

А ў адной з гімназій Мінска вучыцца Настасся Шпягун. Перад паступленнем у 5 клас, калі дзеці здаюць іспыты, дзяўчынка прадэманстравала выдатны ўзровень ведаў. Настасся атрымала «дзясяткі» і па беларускай мове, і па матэматыцы.

Жыве сям'я кіраўніка спецслужбы ў звычайнай кватэры ў Каменнай Горцы — ніякіх табе харомаў і палацаў.

**Бранiслаў Юрэвіч**

# Ігар Карпенка ўладкаваў у Мінадукацыі скандальнага пісьменніка-камуніста Андрэя Лазуткіна

Пісьменнік, актывіст праўладнай Камуністычнай партыі Андрэй Лазуткін уладкаваўся на працу ў прэс-службу Міністэрства адукацыі. За ягоным аўтарствам на «Спутніку» з'явіўся афіцыйны адказ Мінадукацыі на крытыку ад вядомага рэпетытара Яўгена Лівянта.

Гэты факт пацвердзілі нам у самім ведамстве.

«Лазуткін працуе ў інфармацыйна-аналітычным цэнтры ў інфармацыйным аддзеле: на сайце артыкулы размяшчае... Усё, што трэба, — выконвае. Як узялі на працу? Мы разглядаем усе рэзюмэ», — сказала нам прэс-сакратарка Мінадукацыі Людміла Высоцкая.

Чым прыкметная асоба Лазуткіна?

Ён — аўтар скандальнай аповесці «Палігон». У яе аснове альтэрнатыўная гісторыя пра існаванне камісарыята «Остланд» узору 1959 года пасля германскай перамогі пад Сталінградам. Інтэлігенцыю абурыла, што адмоўным персанажам «Палігона» ў вусны ўкладзеная беларуская мова.

Лазуткін скончыў юрыдычны факультэт БДУ па спецыяльнасці «юрыст-палітолаг». Пасля вучобы быў нацэлены ўладкавацца ў інфармацыйна-аналітычным упраўленні Палаты прадстаўнікоў, але там не склалася. Лазуткін пайшоў працаваць да тагачаснага кіраўніка Камуністычнай партыі (а цяпер міністра адукацыі) Ігара Карпенкі, уладкаваўся адказным сакратаром газеты «Коммунист Белоруссии».



Паралельна публікаваўся на дзяржманаўскім «Імхаклабе» выкрывальныя калонкі пра беларускіх палітыкаў, а таксама пра незалежныя СМІ, у тым ліку Tut.by, «Нашу Ніву» і іншыя рэсурсы.

Лазуткін праходзіў стажыроўку на расійскім прапагандысцкім тэлеканале «Раша Тудэй».

Таксама Лазуткін актыўна адбельваў сталінскія рэпрэсіі, у сваіх артыкулах ён сцвярджае, што ў Курапатах няма ахвяраў камуністаў.

Як «Нашай Ніве» паведамілі ўласныя крыніцы, на працаўладкаванне Лазуткіна была прамая воля міністра адукацыі Ігара Карпенкі, які нібыта паставіў яму ўмову — пісаць на дзерманаўскі «Імхаклаб» матэрыялы пра адукацыю.

Так яно, дарэчы, і атрымалася — апошнія артыкулы Лазуткіна прысвечаныя тлумачэнню таго, чаму рэформы Ігара Карпенкі патрэбныя і карысныя.

Дарэчы, рэпетытар Лівянт, якому ад імя Мінадукацыі адказаў Лазуткін, так выказаўся пра сітуацыю:

«Раней я лічыў, што ў Андрэя Лазуткіна ёсць толькі дзве якасці — нягоднік і мярзотнік, але, аказваецца, іх тры: ён яшчэ і супрацоўнік Міністэрства адукацыі. Як гаворыцца, скажы мне, хто твой «Лазуткін», і я скажу, хто ты», — напісаў Лівянт на сваёй старонцы УКантакце.

**Арцём Гарбацэвіч**

# Міністр Карпенка пра гімназічныя класы: У адукацыі не павінна фарміравацца «нейкая элітарнасць»

Міністр адукацыі Ігар Карпенка, былы старшыня Камуністычнай партыі Беларусі, у эфіры АНТ паспрабаваў патлумачыць сэнс задуманай ім рэформы гімназій.

Спачатку Карпенка пахваліў савецкую ўладу, якая змагла зрабіць адукацыю агульнадаступнай і ліквідаваць яе саслоўнасць.

«І калі мы кажам пра фарміраванне нашай сістэмы адукацыі, яна павінна быць роўнадаступнай. Не павінна фарміравацца нейкая элітарнасць, а сістэма адбору таленавітых дзяцей не павінна пераўтварацца ў спаборніцтва кашалькоў бацькоў ці ў нейкі бізнэс. Гэты можа наняць рэпетытара, а гэты не можа».

Карпенка мяркуе, што экзамен у гімназію пасля 4 класа не патрэбны, бо жаданне атрымаць больш якасную адукацыю — «не свядомы выбар дзіцяці». А вось калі вучань дойдзе на 9 класа, то зможа вызначыцца, якім шляхам рушыць далей. Ці то заставацца ў школе, ці то ісці ў ПТВ, ці то шукаць сабе «гімназічны» клас.



Ігар Карпенка нарадзіўся 28 красавіка 1964 у Новакузнецку (Кемераўская вобласць Расіі) Скончыў БДПУ як настаўнік гісторыі, грамадазнаўства і англійскай мовы. Працаваў у БДПУ. У 2004—2012 — дэпутат Палаты прадстаўнікоў, у 2011—2016 — намеснік старшыні Мінгарвыканкама па ідэалогіі, з 2016 — міністр адукацыі. У 2012—2016 узначальваў Камуністычную партыю Беларусі.

# Сустрэчу з Алексіевіч і Сакуравым спрабаваў сапсаваць правакатар

Прыйсці на сустрэчу мог кожны. На ўваходзе ў Дом кіно цётачкі выдавалі квіткі з нумарамі месцаў, хоць людзі маглі б і самі рассесціся, куды хочуць. Мы трапілі на першы шэраг. Туды ж дастаўся квіток вядомаму гарадскому персанажу Руслану Зголічу.

Святлана Алексіевіч была ў касцюме колеру лаўровага ліста і пясочным шаліку-снудзе. Аляксандр Сакураў быў у няновым чорным касцюме без гальштука і чорнай кашулі.

На пачатку сустрэчы паказалі кароткі дакументальны фільм Сакурава «Элегія», зняты ў 1986 годзе. Ён быў прысвечаны спеваку Фёдару Шаляпіну і яго перапахаванню ў Расіі і зняты ў тыповай сакураўскай манеры: ён зафіксаваў абед дачок Шаляпіна ў ягонай колішняй кватэры ў Пецярбургу.

Алексіевіч адзначыла: «Мяне заварожвае рытм у вашых фільмах. Я ставіла вашы фільмы, каб трохі спыніцца, калі адчувала, што жыццё ідзе занадта хутка».

Арганізацыі на сустрэчы не было ніякай, не было і драматургіі. Сакураў стаяў за трыбунай. Алексіевіч сядзела. Пасля да яе далучылася Таццяна Цюрына, якая зачытвала пытанні, якія лічыла вартымі ўвагі рэжысёра. Пытанні ў зале ніхто не збіраў, у выніку міма Сакурава сноўдалі людзі з цыдулкамі. Гэта збівала ўвагу.

Здаецца, палітычныя пытанні Сакураву Алексіевіч і Цюрына адсейвалі. Цяжка сказаць, ці гэта была ягоная просьба, ці крок насустрач Дому кіно, дзе адбывалася сустрэча.

Большасць аўдыторыі складалі пенсіянеры. Магчыма, моладзь проста не ведала, што паслухаць Сакурава можа кожны.

У зале быў і адзін правакатар — мужчына гадоў сарака. Адзін раз ён выкрыкнуў Сакураву: «Русафоб!» Гэта перабіла рэжысёра, і ён страціў ніць гаворкі. Алексіевіч прапанавала мужчыну пакінуць залу. Сакураў сказаў: не, няхай застаецца. Той застаўся і ў іншым месцы зноў паспрабаваў збіць госця з панталыку. Тады да мужчыны падышоў ахоўнік Дома кіно і паспрабаваў яго вывесці. Падышлі і мужчыны з залы, а таксама журналісты, але нікому не хацелася скандалу, не было асобы, якая б узяла правакатара за шкірку і павяла, таму ён застаўся сядзець. Яшчэ і пад заслону ён паспеў з месца выкрыкнуць пытанне: «Дык чый Крым?» «Ваш Крым, ваш», — адмахнуўся ад яго Сакураў.

Дыялогу з залай не адчувалася. Сакураў гаварыў сваё, зала маўчала, толькі пад канец сустрэчы стала трохі апладысментамі выказваць сваё стаўленне да слоў. У зале стаяў мікрафон, але вядоўцы не асабліва прасілі задаваць пытанні праз яго. У выніку праз мікрафон з Сакуравым камунікавалі толькі два чалавекі. Гэта Руслан Зголіч і яшчэ адзін рэжысёр, Аляксей Туровіч. Сакураў з выключнай інтэлігентнасцю адказаў на рэплікі і першага, і другога.

Сакураў зрабіў уражанне вельмі сумленнага, сціплага чалавека. Ён гаворыць нягучна, вельмі спакойна. Тое, што ён стаў кінарэжысёрам, ён назваў выпадковасцю. «Так здарылася. Я не фанатык. Я просты рабочы». Ён апісаў, як маці адгаворвала яго ад рэжысёрства, казала, што ў іх простай сям'і (бацька Сакурава быў афіцэр, ветэран вайны) Сакураў не атрымаў базавых ведаў і звычак, патрэбных для такой складанай прафесіі.

Сакураў імкнуўся гаварыць пра вечныя каштоўнасці і пазбягаў канкрэтных пытанняў нашага часу. Вось некалькі ягоных выказванняў:

«Уся гісторыя — гэта гісторыя фанабэрыі мужчынскай, бо нам вядомая толькі тая частка гісторыі, дзе наверсе былі мужчыны».

«Людзі ва ўладзе заўсёды паводзяць сябе аднолькава. І кожны мужчына, які атрымлівае ў свае рукі ўладу, паводзіць сябе гэтаксама, як і прапаршчык або паляўнічы з тысячай ...



«Людзі ва ўладзе заўсёды паводзяць сябе аднолькава. І кожны мужчына, які атрымлівае ў свае рукі ўладу, паводзіць сябе гэтаксама, як і яго папярэднік нават 300 гадоў таму».

«Палітыка — дэструктыўная і брудная прастора, таму там нельга не здзейсніць памылак і злачынстваў».

«Усе людзі, якія атрымлівалі агромністую ўладу, усе былі глыбока няшчасныя, ва ўсіх была няшчасная гісторыя. За кожным ёсць гісторыя простага чалавечага няшчасця, жудаснай маладосці або сямейнага жыцця. Усе людзі, якія атрымалі вялікую ўладу, былі катастрафічна нешчаслівыя».

У той жа час момантамі Сакураў гаварыў спрэчныя рэчы, напрыклад: «Розніца паміж левымі і правымі ёсць, бо левыя заўсёды будуць перамагаць. Больш за тое, толькі яны сфармулявалі сваю ідэю для рэвалюцыі і здолелі пісьмова аформіць гэтую самую ідэю, аб'яднаўшы эканоміку і палітыку».

Або: «Тое, што адбываецца сёння ў палітычнай прасторы Еўропы і Расіі, — гэта нельга называць палітыкай. Палітыка можа быць толькі ў руках маладых людзей, незалежных ад традыцый, якія яшчэ не завязлі ў грахах, чалавечых і маральных».

Ці яшчэ: «Ці можа ў Расеі кіраваць жанчына? Не! Больш за тое, жанчыны-палітыкі вельмі складаныя арганізмы, абсалютна непрадказальныя».

Адносна цяперашняй палітычнай сітуацыі Сакураў гаварыў без пераходу на асобы і абагульнена.

«Цяпер вакол адна хлусня. І вельмі часта цяпер гэтая хлусня сыходзіць ад дзяржавы».

«Я хачу дзеяння законаў, дзеяння канстытуцыі ў сваёй краіне. Палітычнай барацьбы роўнаўплывовых і справядлівасці».

Адносна Беларусі ён сказаў: «На маю думку, Беларусь па сваёй культуры і сацыялізацыі найлепш падрыхтаваная да таго, каб уступіць у Еўрасаюз». Гэтыя словы зала сустрэла апладысментамі. Як і словы, што ягоны бацька-франтавік казаў, што беларусы — гэта сапраўдныя людзі, перад якімі варта ўстаць на калені. Але найбольшыя апладысменты выклікала яго пахвала Святлане Алексіевіч як вялікай пісьменніцы нашага часу.

На сустрэчы былі заўважаныя бізнэсовец Павел Данэйка, эканаміст Сяргей Чалы, літаратуразнаўца Сяргей Шапран, фотамастак Андрэй Лянкевіч, іншыя вядомыя людзі.

На завяршэнне сустрэчы і Алексіевіч адказала на пытанне з залы, калі ўжо Беларусь стане свабоднай. «Ніхто нам з тэлевізара не скажа: цяпер вы свабодныя, — пажартавала яна і параіла: — Каб дасягнуць свабоды, кожнаму на сваім участку трэба супрацiўляцца».

**Прысутны**



66-гадовы **Аляксандр Сакураў** працуе ў жанры інтэлектуальнага кіно. Ягоныя фільмы «Малох», «Цяля», «Аляксандра», «Расейскі каўчэг» былі намінаваныя на «Залатую пальмавую галіну» Канскага кінафестывалю. А «Фаўст» у 2011 годзе здабыў «Залатога Льва» Венецыянскага фестывалю.

Сакураў у кіно складана эксперыментуе: ягоны «Расейскі каўчэг» [«Русский ковчег»] быў зняты адным суцэльным кадрам, без мантажу.

Сакураў не проста рамеснік кіно. Ён інтэлектуал, які займае выразную палітычную пазіцыю.

У снежні 2016 года ён не пабаяўся на сустрэчы з Пуціным у твар папрасіць вызвалення арыштаванага ў Крыме па абвінавачванні ў тэрарызме ўкраінскага рэжысёра Алега Сянцова.

У сакавіку 2014 года, калі Расія пагрузілася ва ўрапатрыятызм на хвалі анексіі Крыма, Сакураў выступіў з заявай, у якой адзначыў, што выкарыстанне ваеннай сілы супраць украінцаў будзе мець незваротныя наступствы для самой Расеі. Ён заклікаў расіян паважаць жаданне ўкраінцаў жыць асобнай дзяржавай: «Мы не адзін народ з украінцамі, мы розныя. У нас ўнутрана розныя культуры.

Нездарма ўкраінцы заўсёды хацелі жыць асобнай дзяржавай. Так, мы блізкія, у нас ёсць шмат падобнага, але гэта не азначае, што мы адзін народ. Гэта зусім не так. Мы розныя, і нам гэтую рознасць трэба паважаць і шанаваць».

На выбарах 2016 года Сакураў узначальваў пецярбургскі спіс апазіцыйнай партыі «Яблык», пры гэтым застаючыся беспартыйным.

А ў лютым 2017 года Аляксандр Сакураў сказаў, што расейскія палітычныя каментатары, а таксама супрацоўнікі расійскага тэлебачання і радыёвяшчання рана ці позна паўстануць перад Гаагскім трыбуналам, паколькі яны «з'яўляюцца правакатарамі, якія падчас пажару раскідваюцца запалкамі».

«Яны павінны быць пакараныя, — дадаў Сакураў. — Гэта ж проста злачынцы, якія працуюць і на дзяржаўных, і на прыватных каналах. І там, і там няма ніякай адказнасці за падобныя паводзіны».

# Стаў вядомы яшчэ адзін чалавек, якому дапамагае Святлана Алексіевіч

То з аднаго, то з другога горада даходзіць звестка пра тое, як беларуская нобелеўская лаўрэатка чымсьці камусьці дапамагла. Купіла інваліду вазок, штомесяц пасылае грошы маладому пісьменніку...

Пра чарговы такі выпадак расказаў «Нашай Ніве» спявак Алесь Дзянісаў. Аказваецца, літаратарка штомесяц перасылае 100 рублёў сляпому паэту Алесю Чобату, які жыве ў горадзе Скідаль пад Гроднам.

Алексіевіч робіць добрыя справы ціха, непублічна.

Алесь Чобат жыве адзін у Скідзелі ў прыватным доме. Яму перыядычна дапамагаюць па гаспадарцы гарадзенцы Юра Седзянеўскі і Данута Бічэль. А сам Алесь Дзянісаў перадаў Чобату грошы ад продажу свайго альбома «Кароткая гісторыя Беларусі».

**Сяргей Мікулевіч**

# Кандыдатам у прэзідэнты Украіны ад праеўрапейскіх сілаў можа стаць Вакарчук

Расчараваныя карупцыяй у палітычных сілах, грамадскія актывісты хочуць стварыць уласны выбарчы спіс. Непартыйным кандыдатам у прэзідэнты можа стаць 42-гадовы спявак Святаслаў Вакарчук.

Наступныя прэзідэнцкія і парламенцкія выбары ва Украіне могуць стаць незвычайнымі. Грамадзянская супольнасць краіны ўпершыню можа падтрымаць не кандыдата адной з палітычных сіл, а правесці ўласную выбарчую кампанію.



У 2004 годзе недзяржаўныя арганізацыі актыўна стаялі за Віктара Юшчанку. У 2010 годзе праеўрапейскія сілы былі раскалатыя між некалькімі кандыдатамі, а перамог Віктар Януковіч. У 2014 годзе кампрамісным кандыдатам аказаўся Пятро Парашэнка. Грамадства спадзявалася, што ягоныя здольнасці перамоўніка могуць дапамагчы ў крызіснай сітуацыі канфлікту на ўсходзе і поўдні.

У выніку ўкраінская дзяржаўнасць вытрымала выпрабаванне расійскай інтэрвенцыяй. Але эканоміку краіны паранейшаму кантралюе вузкае кола мільярдэраў і мультымільянераў. Дзяржаўны бюджэт малы, бо людзі на ўсіх узроўнях страцілі рэфлекс сумленнай сплаты падаткаў, а даходы дзяржаўных і недзяржаўных кампаній масава сыходзяць у афшоры. У той жа час карупцыя з'ядае нават тое малое, чым дзяржава можа распараджацца. Чыноўнікі, суддзі, дэпутаты валодаюць маёмасцю і ездзяць на машынах, кошт якіх нашмат пераўзыходзіць легальныя даходы, — гэта стала ва Украіне нормай, якой ніхто не дзівуецца.

На выбарах 2014 года папулярныя грамадскія дзеячы падтрымалі розныя палітычныя сілы. Журналісты-расследавацелі Сяргей Лешчанка і Мустафа Наем, а таксама стваральніца руху «Сумленна» Святлана Залішчук былі абраныя ў дэпутаты ад Блока Пятра Парашэнкі. А яшчэ адна лідарка «Грамадскага сектара Еўрамайдану» Ганна Гапко прайшла ў парламент ад «Самаабароны».

«Усе мы расчараваліся ў магчымасці ўплыву знутры існых палітычных сілаў і хочам на наступныя выбары стварыць новую, асобную палітычную машыну на аснове кааліцыі грамадскіх арганізацый», — расказала «Нашай Ніве» кіраўніца адной з грамадскіх арганізацый Украіны.

Сацыёлагі адзначаюць расчараванне ўкраінцаў у палітычных партыях і палітыках. Рэйтынг Пятра Парашэнкі ўпаў амаль да 10%. Юлія Цімашэнка апярэджвае яго не нашмат. «Смеццевы калапс» падарваў давер і да мэра Львова Андрэя Садовага. У той жа час пасля акупацыі Крыма і Данбаса «праеўрапейскі вектар» ва Украіне цвёрда пераважае прарасійскі. Многія ўкраінскія выбарцы гатовыя падтрымаць «новы твар».

Некалькі суразмоўцаў «Нашай Нівы» сказалі, што такім можа стаць саліст гурта «Океан Ельзи» Святаслаў Вакарчук.

Святаслаў — спевака часта называюць папросту Слаўко — нарадзіўся ў сям'і навукоўцафізіка. Свой гурт «Океан Ельзи» ён з сябрамі стварыў у 1994 годзе, 19-гадовым. У 1998 яны перабраліся з Львова ў Кіеў. Да пачатку 2000-х Вакарчук стаў адным з самых папулярных спевакоў Украіны. Ягоныя песні «Я не здамся без бою», «Відпусти» («Адпусці») сталі хітамі. Ён атрымаў званне заслужанага артыста Украіны. Мала хто ведае, што Вакарчук пры гэтым яшчэ і кандыдат фізіка-матэматычных навук, які напісаў дысертацыю пра суперсіметрыю электронаў у магнітным полі (па-ўкраінску, дарэчы).

Акрамя ўкраінскай, Вакарчук свабодна гаворыць па-англійску (пабываў за акіянам яшчэ школьнікам па адукацыйным абмене) і па-расейску.

У Вакарчука ёсць і палітычны досвед. У 2007—2008 гадах ён быў дэпутатам Вярхоўнай Рады ад «Нашай Украіны». (Пасля яму надакучыла грызня ўнутры дэмакратычнай кааліцыі, і ён склаў мандат.) Акрамя таго, ведамі з ім дзяліўся ягоны бацька — доўгачасовы рэктар Львоўскага ўніверсітэта і міністр адукацыі.

Вакарчук заўсёды быў грамадска актыўным. Ён удзельнічаў у Аранжавай рэвалюцыі і Еўрамайдане. Калі Расія ў 2014 годзе штурхала насельніцтва поўдня і ўсходу Украіны да аддзялення і стварэння Наваросіі, «Океан Ельзи» нястомна выступаў з канцэртамі на поўдні, нягледзячы на рызыкі.

Вакарчук прадэманстраваў гатоўнасць пайсці ў «вышэйшую палітыку», калі ў 2017 годзе прыняў прапанову Стэнфардскага ўніверсітэта ЗША правесці 10 месяцаў у іх, вучачыся і адначасова выкладаючы ў Цэнтры дэмакратыі і вяршэнства права.

Такім чынам, наступныя выбары ва Украіне могуць стаць першымі, на якіх водападзел будзе праходзіць не па лініі «захад-усход» і не па пытанні геапалітычнага выбару. І прэзідэнцкія, і парламенцкія выбары ва Украіне маюць адбыцца ў 2019 годзе.

**Мікола Бугай**

# МЗС Беларусі дапамагло вырашыць канфлікт вакол помніка Касцюшку

Эпапэя вакол ушанавання ў Швейцарыі Тадэвуша Касцюшкі скончылася. 17 кастрычніка ў Залатурне, дзе памёр нацыянальны герой Беларусі, Польшчы і ЗША, усталявалі помнік і шыльду з беларускім надпісам.

«Без дапамогі грамадскіх арганізацыяў, фізічных асоб, іх лістоў і скаргаў гэта было б немагчыма. А пасля таго, як пра скандал пачалі шырока пісаць СМІ, умяшаўся і МЗС Беларусі», — распавёў «Свабодзе» старшыня Аб'яднання беларусаў Швейцарыі Аляксандар Сапега.

Усталяванне помніка завершылася 17 кастрычніка папоўдні. Разам з помнікам замацаваная шыльда з надпісам «Тадэвуш Касцюшка. 1746—1817. Ад Беларускага аб'яднання ў Швейцарыі. 2017 год» па-беларуску і нямецку. Гэты тэкст стаў вынікам кампрамісу пасля канфлікту швейцарскіх беларусаў з польскім пасломЯкубам Кумахам.

Польскаму дыпламату не спадабаўся тэкст на шыльдзе: «Сыну Беларусі ад удзячных суайчыннікаў». Ён таксама прапанаваў адмовіцца ад беларускай мовы і пакінуць толькі нямецкамоўны надпіс «Тадэвуш Касцюшка. 1746—1817».

Паводле Аляксандра Сапегі, вырашыць канфліктнае пытанне дапамог кіраўнік беларускай дыпламатычнай місіі ў Швейцарыі Павел Мацукевіч. Яшчэ да таго, як беларуская суполка агучыла прэтэнзіі польскага боку публічна, беларускі дыпламат раіў сустрэцца з мэрам Залатурна Куртам Флюры і вырашаць пытанне з ім.

«Часовы павераны сустрэўся з мэрам і распавёў, чаму беларусы маюць лагічнае права пісаць на шыльдзе «Сыну Беларусі ад удзячных суайчыннікаў». Ён таксама нагадаў, што шматмоўныя шыльды на помніках бываюць вельмі часта. Але мэр адразу, яшчэ перад сустрэчай, напісаў, што «Сына Беларусі» ў якасці кампрамісу быць не можа», — кажа Аляксандар Сапега.

Беларусы настойвалі, што на шыльдзе абавязкова мае быць згаданы фундатар помніка, а сам тэкст прадубляваны па-беларуску. У назве арганізацыі-фундатара павінна пісацца *Belarussische*, а не *Weissrussische*.

«Мэр не адразу згадзіўся, але ў выніку перамоваў прыняў гэта. Паводле нашай інфармацыі, рашэнне ён прымаў самастойна, без размоваў з палякамі», — кажа старшыня Аб'яднання беларусаў Швейцарыі і дадае: — МЗС вельмі нам дапамагло. Усе перамовы з мэрам спадар Мацукевіч узяў на сябе. Думаю, што без падтрымкі з Менска гэта было б немагчыма».

Дарэчы, дзякуючы Пасольству Беларусі ў Берне быў знойдзены спонсар, які кампенсаваў Аб'яднанню беларусаў Швейцарыі трацінну нашых выдаткаў. Агулам на выраб і ўсталяванне помніка выдзелена не менш за 7 тысяч еўра.

Урачыстае адкрыццё помніка ў Залатурне адбылося 21 кастрычніка. У цырымоніі, апрача прадстаўнікоў беларускай дыяспары, жыхароў Залатурна, узялі ўдзел амбасадарка Літвы і кіраўнік беларускай дыпмісіі ў Берне. Пасля розгаласу ў СМІ беларус з Фрыбургу Аляксей Шаблыка, які грае ў мясцовым аркестры, прапанаваў выступіць на адкрыцці разам са сваім калектывам. Падчас адкрыцця помніка ягоны аркестар выканаў гімны Беларусі, Літвы і Швейцарыі.

**Радыё «Свабода»**

# Кіраўніком Аўстрыі стане 31-гадовы без закончанай вышэйшай адукацыі

15 кастрычніка ў Аўстрыі прайшлі парламенцкія выбары. Першае месца заняла кансерватыўная Аўстрыйская народная партыя.

Яе лідар, 31-гадовы Себасцьян Курц, імаверна, стане наймаладзейшым кіраўніком дзяржавы ў Еўропе. Для параўнання: прэм'еру Эстоніі Юры Ратасу 39 гадоў, прэзідэнту Францыі Эмануэлю Макрону ў снежні споўніцца 40.

Аўстрыйскія народнікі сваімі поглядамі падобныя да нямецкіх хрысціянскіх дэмакратаў. Яны набралі каля 32% галасоў. У сацыялістаў — 27%. Ультраправая, з сімпатыямі да Пуціна, Партыя свабоды сабрала 26%.

Дагэтуль Курц займаў пасаду міністра па пытаннях Еўропы, інтэграцыі і замежных спраў краіны. На гэтай пасадзе ён у 2015 наведваў Беларусь і сустракаўся з Лукашэнкам.

Курц нарадзіўся ў 1986 годзе ў Вене, скончыў юрыдычны факультэт Венскага ўніверсітэта. Праходзіў тэрміновую службу ў войску (Аўстрыя адна з нямногіх еўрапейскіх краін, якая не адмовілася ад прызыву).

У 17-гадовым веку Курц стаў сябрам Аўстрыйскай народнай партыі. А ў 2009-м годзе стаў лідарам моладзевага крыла АНП. У красавіку 2011 Курц стаў дзяржаўным сакратаром па справах інтэграцыі, а праз два гады ўзначаліў аўстрыйскае МЗС. Цікавы факт: на момант прызначэння міністрам Себасцьян Курц яшчэ з'яўляўся студэнтам і не меў скончанай вышэйшай адукацыі. Ён быў вымушаны пакінуць універсітэт на 13-м семестры, не давучыўшыся да дыплома.

**Сяргей Гезгала**



Курц са сваёй сяброўкай Зузанай Цір.

# У Беларусі забаранілі канцэрт расійскага рэпера

«Еду в магазин Gucci в Санкт-Петербурге. Она жрет мой х** как будто это бургер» — гэта не пародыя. Гэта прыпеў самай папулярнай песні рэпера Фэйса «Бургер». Яна сабрала 8 млн праглядаў у ЮТубе. Канцэрт рэпера *Face*, які павінен быў прайсці ў Мінску, адменены. Прычынай стала папярэджанне ад Генпракуратуры, якое арганізатары канцэрта атрымалі напярэдадні, паведамляе *Tut.by*.

У афіцыйным папярэджанні адзначана, што «тэксты песень маюць шмат ненарматыўнай лексікі, у іх прасочваецца адкрытае грэбаванне маральнымі і культурнымі каштоўнасцямі, прынятымі ў сучасным цывілізаваным грамадстве. Прапагандуецца распушчанасць у сэксуальных адносінах, грэблівае стаўленне да жанчын, інстытуту сям'і, школы».

«Публічнае выкарыстанне ненарматыўнай лексікі на канцэрце ў прысутнасці вялікай колькасці людзей фактычна з'яўляецца прапагандай здзяйснення дзеянняў, забароненых заканадаўствам».

Для канцэртнага агенцтва вынясенне такога папярэджання азначае, што ў выпадку правядзення канцэрта арганізатары будуць несці адказнасць — штраф або адміністрацыйны арышт.

20-гадовы *Face* («Фэйс») пачаў кар'еру рэпера два гады таму, у 2015 годзе. Свой першы альбом ён выдаў сёлета, у 2017-м. З ім ён і паехаў у тур па Расіі, Украіне і Беларусі.

Новы расійскі рэп — гэта феномен, які здабыў немалую папулярнасць сярод моладзі ў ЮТубе і УКантакце. Ад папмузыкі яго адрознівае масавае выкарыстанне матаў са сцэны, а таксама спецыфічная тэматыка тэкстаў.

Фэйс, у прыватнасці, зняў кліпы на свае песні «Я **ал твою телку», «Мне пох**» і «Б**** фэйс вот ты флексишь».

Ягоныя тэксты немудрагелістыя: «Я настолько **банутый, что лежал в дурке». Крытычны чалавек можа сказаць, што гэта дно. Аднак гутарку Юрыя Дудзя з Фэйсам прагледзелі амаль 6 мільёнаў разоў.

**Сяргей Гезгала**



# Беларус Васіль Парфянкоў затрыманы ў Кіеве за бойку са спецназам і барыкады ў судзе

Беларус Васіль Парфянкоў — чалавек няпростага лёсу. Нарадзіўся ў 1983 годзе ў Мінску. Працаваў аўтаслесарам. Да нацыянальнага руху далучыўся маладым, быў актывістам незарэгістраванай Беларускай партыі свабоды.

У 2002 годзе Парфянкоў быў сярод тых, хто бараніў Курапаты, калі праз урочышча хацелі пракласці мінскую кальцавую дарогу. Калі вясной таго года падпалілі ў Курапатах намёт, то Парфянкоў выратаваў двух чалавек.

Парфянкоў быў затрыманы падчас Плошчы-2010. Асуджаны да 4 гадоў зняволення. Папрасіў аб памілаванні ў Лукашэнкі, таму на волю выйшаў сярод першых — у жніўні 2011. Пасля гэтага Парфянкова накіроўвалі на прымусовае лячэнне ад алкагалізму.

У 2014 годзе ён эміграваў ва Украіну. Уступіў у батальён АУН, браў удзел у баявых дзеяннях.

Ва Украіне Васіль засвяціўся ў некалькіх дзіўных гісторыях. У лютым ён удзельнічаў у разгроме кіеўскага офіса расійскага «Альфа-банка». Ёсць відэа, як хлопец распраўляецца з вазонам спатыфілума. Сёлета 9 мая паліцыя зноў затрымлівала Парфянкова: АУН планаваў сарваць марш «Несмяротны полк» у Кіеве.



Цяпер Васіль уляпаўся ў новую гісторыю. У суботу 21 кастрычніка паліцыя арыштавала лідара АУН Міколу Каханоўскага. Ён пабіўся са сваім паплечнікам Русланам Качмалай каля станцыі метро «Акадэмгарадок», калі вярталіся з пахавання свайго пабраціма.

Каханоўскі ў запале выхапіў траўматычны пісталет і стрэліў. Хутка з'явілася паліцыя, якая і павязала буяна. Дакументаў на права нашэння з сабой пісталета Каханоўскі не мае.

У панядзелак над Каханоўскім пачаўся суд, дзе абіралася мера стрымання для камандзіра АУН. І тут пачалося самае цікавае. Шматлікая група падтрымкі Каханоўскага стала будаваць у судзе барыкады, біць шыбы.

«Свядомыя людзі грамяць суд, дзе адбываецца бясчынства», — напісаў у сацыяльных сетках Багдан Ціцкі. Калі да будынка стала пад'язджаць паліцыя, то аунаўцы заклікалі людзей прывозіць да суда шыны і «пачынаць Майдан».

Сярод тых, хто будаваў у судзе барыкады і біўся з сілавікамі, быў і Васіль Парфянкоў. На адным са здымкаў бачна, як Васіль папраўляе крышку стала, умацоўваючы барыкады.

Прыхільнікі АУН трымалі абарону ўсю ноч, вытрымалі тры штурмы. Толькі раніцай спецназаўцы змаглі выкінуць іх з залы, найбольш заўзятых затрымалі. Васіль Парфянкоў аказаўся ў іх ліку.

Дэпутат Антон Герашчанка назваў гэтыя падзеі «вандалізмам». «Асобы, якія разграмілі суд, павінны быць прыцягнутыя да адказнасці», — сказаў ён.

Затрыманым інкрымінуюць наўмыснае псаванне маёмасці, блакаванне працы суда і хуліганства. Усяго затрымана каля 30 чалавек.

**Зміцер Панкавец**

## Барысаўская міліцыя расказала ўсю праўду пра 52 мясцовых прастытутак

**Усяго на ўліку ў Барысаўскім РУУС знаходзяцца 52 жанчыны, якія аказвалі сэксуальныя паслугі за ўзнагароджанне.**

Падпалкоўнік міліцыі Ігар Пазнякоў распавёў газеце «Адзінства» падрабязнасці пра жанчын, якія зарабляюць на жыццё сэкс-паслугамі.

Сярэдні ўзрост — 25—30 гадоў, незамужнія, беспрацоўныя, часам ужываюць наркотыкі, нярэдка жывуць з раней судзімымі мужчынамі.

«Найбольш частымі адказамі на пытанне, што змушае гандляваць сваім целам, становяцца наступныя: «Працую ад безвыходнасці», «Бядотнае становішча ў сям'і», «Трэба карміць дзяцей». Але, як паказвае практыка, гэта хлусня, а праўдзівы матыў складаецца ў нежаданні працаваць», — кажа Пазнякоў.

Часцей за ўсё прастытутак можна сустрэць на трасах і запраўках, а паслугамі ў асноўным карыстаюцца дальнабойшчыкі. Прычым нарказалежныя жанчыны, як правіла, з'яўляюцца носьбітамі віруса гепатыту С, падкрэсліваюць міліцыянты.

Занятак прастытуцыяй караецца штрафам ад 6 да 20 базавых велічынь або адміністрацыйным арыштам. Тое ж дзеянне, учыненае паўторна на працягу года пасля адміністрацыйнага спагнання, караецца штрафам ад 30 да 50 базавых велічынь або ізноў жа арыштам. Аднак штрафы і арышты толькі прыпыняюць ненадоўга «працоўную дзейнасць» жанчын і асабліва не ўплываюць на іх паводзіны ў далейшым, кажа міліцыянт.

Цікава, што, па словах міліцыі, мясцовыя прастытуткі «выбіраюць для сябе зручны графік і часцей працуюць у дзённы час».

**Улад Шведовіч**

## Полацкага міліцыянта звольнілі, бо ён падбіў нагой кацяня

Мужчына страціў працу пасля таго, як відэа разышлося па сацсетках.

На запісе відаць, як мужчына б'е нагой кацяня. Высветлілася, што гэта быў супрацоўнік патрульна-паставой службы, прапаршчык міліцыі. Калі пра яго ўчынак дазналіся ў міліцыі, справа скончылася звальненнем.

«Органамі ўнутраных спраў праведзена праверка па гэтым факце. Было высветлена, што непрыстойны ўчынак здзейсніў супрацоўнік полацкай міліцыі. У выніку праверкі кіраўніцтвам прынята рашэнне аб яго звальненні ў сувязі са здзяйсненнем правіны, якая дыскрэдытуе званне супрацоўніка органаў унутраных спраў», — паведамляе УУС Віцебскага аблвыканкама.

Акрамя таго, па факце жорсткага абыходжання з жывёлай распачаты адміністрацыйны працэс.

**УШ**

## Блогер Антон Матолька сышоўся з рэдактаркай kyky.org Насцяй Рагатко

Беларускі актывіст і блогер, актыўны карыстальнік сайта 115.бел і «сябар усіх бабуль» Антон Матолька на сваёй старонцы ў фэйсбуку здзейсніў свайго роду «камінг-аўт».

Хлопец апублікаваў аб'яву з просьбай дапамагчы знайсці здымную кватэру, у якой адзначыў галоўную рэдактарку партала kyky.org: маўляў, шукаюць кватэры для сумеснага пражывання.

Грамадскасць узрадавалася новай інфармацыйнай нагодзе і амаль што ажаніла маладых: блогер Дзяніс Блішч крычаў «Горка!», а калегі-фатографы адразу пачалі прапаноўваць свае паслугі на вяселле. Плёткі пра тое, кім можа быць занятае сэрца Антона, хадзілі даўно, але ён старанна прытрымліваўся іміджу свабоднага адзіночкі.

Пост з пошукамі 1- ці 2-пакаёўкі прымусіў усіх думаць, што ён нарэшце вызначыўся. «Як мінімум» на паўгода: роўна на столькі Антон з Насцяй шукаюць сабе ўтульнае гняздзечка. Праўда, сам блогер адмовіўся даваць якія б то ні было каментары на гэты конт. Але і не стаў аспрэчваць здагадкі пра сваю спадарожніцу.



Будучым арэндадаўцам Антон і Насця абяцаюць, што ў двары «ўсе пачнуць паркавацца па правілах, дзіркі на дарогах залатаюць, бардзюры прынізяць. У горшым выпадку двор стане найлепшым на раёне па добраўпарадкаванні, а суседзі навучацца карыстацца 115.бел і petitions.by».

**КК**

# П'яны дырэктар фітнэс-цэнтра, які ў свой час пагражаў Матольку, пратараніў таксі. Дзе ён — невядома

Была гісторыя: мінскі фатограф Антон Матолька апублікаваў фота БМВ, запаркаванага нахабнікам на тратуары. Тады «круты пацан на БМВ» стаў пагражаць Матольку ў сацсетках. Прычым настолькі, што фатограф вымушаны быў адкрыць іх перапіску публіцы, каб перастрахавацца.

Мажора звалі Вячаслаў Карнеявец, Матолька раскапаў, што ён сын уплывовых бацькоў. Ягоная маці — сузаснавальніца медцэнтра «Нардзін» і прадпрыемстваў у медыцынскай сферы ў Расіі. Бацька — трэнер нацыянальнай каманды па веславанні.

І вось імя Карнеяўца ўсплыло ў новым скандале.

У дачыненні да дырэктара фітнэс-цэнтра «Нардзін» Вячаслава Карнеяўца распачата крымінальная справа, паведамляе Следчы камітэт. Аказваецца, гэта ён за рулём таго самага белага БМВ падбіў машыну таксі на вуліцы Кальварыйскай у Мінску ў ноч на 7 кастрычніка.

Карнеявец не даў рады кіраванню і ўрэзаўся ў слуп, а ад яго машыну адкінула ў суседні аўтамабіль. Пасля сутыкнення ён паспрабаваў збегчы, лічыць ДАІ Мінска.

Выявілася, што ў Карнеяўца было 0,94 праміле алкаголю.

Кіроўцу таксі пасля аварыі даставілі ў рэанімацыю. У яго былі закрытыя чэрапна-мазгавыя траўмы — вельмі цяжкія, а таксама пераломы левай і правай лапатак і папярочнага адростка хрыбта. Таксіст трапіў у кому, выйшаў з яе ненадоўга і зноў упаў у кому.

Цяжка сказаць, ці застанецца таксіст жывы. Варта адзначыць, што ён — малады тата. Яго дзіцяці — 2 гады 9 месяцаў, яго жонка — у дэкрэце.

Фатаграфіі на старонках Вячаслава Карнеяўца ў сацыяльных сетках — пераважна з начных клубаў і рэстаранаў.

Следчыя расшукваюць Карнеяўца.



Як высветлілася, Вячаслаў Карнеявец — грамадзянін Расіі.

Каментуючы здарэнне на вуліцы Кальварыйскай, міністр унутраных спраў Ігар Шуневіч адзначыў: «Вядзецца праверка дзеянняў інспектара, які адпусціў п'янага грамадзяніна. Калі праверка пакажа, што ён парушыў інструкцыю, то будзе пакараны», — запэўніў Шуневіч.




**Сяргей Гезгала**

## «Я сам ва ўсім вінаваты»: 16-гадовы ліцэіст БДУ скончыў жыццё самагубствам

Цела 16-гадовага падлетка з прыкметамі падзення з вышыні было знойдзена ў Мінску, паведаміла БелТА афіцыйны прадстаўнік СК Юлія Ганчарова.

Інцыдэнт адбыўся каля дома, дзе падлетак жыў.

«На месцы здарэння, дзе з прыкметамі падзення з вышыні было знойдзена цела 16-гадовага падлетка, навучэнца ліцэя БДУ, працуе следча-аператыўная група ўпраўлення СК па Мінску», — праінфармавала Юлія Ганчарова.

Вядома, што хлопца звалі Глеб. Яму было 16 гадоў. Глеб вучыўся ў 11 класе, профіль — фізіка.

На сваёй старонцы Укантакце юнак пакінуў статус «Я сам ва ўсім вінаваты».

Пра хлопца навучэнцы кажуць, што вучыўся нармальна, трагедыя наўрад ці звязаная з вучобай. Тое ж паўтарае і адміністрацыя. Дарэчы, падрабязней каментаваць здарэнне ва ўстанове адмаўляюцца.

# Забіты былы спецназавец МУС Беларусі, які ваяваў на баку «ДНР»

Украінскія СМІ перадаюць пра смерць 29-гадовага магілёўца Уладзіміра Ястрабава, які ваяваў на баку баевікоў «ДНР».

Высвятляецца, што Ястраб (такі ён меў пазыўны) быў забіты яшчэ летась, аднак агалоску гэтая справа займела толькі цяпер.

У Беларусі Ястрабаў служыў у спецназе МУС у Аколіцы, а таксама працаваў у начным клубе «Форум» у Магілёве.

На старонцы Ястрабава ў сацыяльных сетках — шматлікія спачуванні ад саслужбоўцаў, а таксама сяброў.

Паведамляецца, што на ўсход Украіны Ястрабаў прыехаў «паляваць на украў».

Беларусы ў вайне на ўсходзе Украіны ўдзельнічаюць з абодвух бакоў. Вядома пра смерці некалькіх чалавек і з боку «баевікоў», і з боку Украіны.



# Таксіст убачыў, як мужчына ў цемры цягне дзяўчыну — што вядома пра забойства студэнткі БДЭУ

**Цела дзяўчыны знайшлі на вуліцы Васняцова ў Мінску, за кіламетр ад Беларускага дзяржаўнага эканамічнага ўніверсітэта.**

«Па дадзеных следства, 5 кастрычніка каля 22:00 кіроўца таксі, праязджаючы міма, заўважыў, як па вуліцы ідзе мужчына і цягне дзяўчыну. Калі таксіст спыніўся, мужчына збег, пакінуўшы цела на зямлі. Відавочца ўбачыў, што дзяўчына не падае прыкмет жыцця і паведаміў пра здарэнне ў праваахоўныя органы і хуткую дапамогу», — паведамляе Юлія Ганчарова, афіцыйны прадстаўнік СК.

Неўзабаве затрымалі падазраванага. Гэта 21-гадовы беспрацоўны ўраджэнец Ашмянскага раёна.

У самім універсітэце даклад-най інфармацыі няма. Студэнты і выкладчыкі кажуць, што чулі пра здарэнне, але не ведаюць, ані дзе дакладна знайшлі цела, ані хто яго знайшоў.

Пакуль што яны дзеляцца чуткамі.

«Яе страшэнна збілі, увесь твар быў збіты», — кажуць адны. «Яе абрабавалі, нічога ў кішэнях не было, ані грошай, ані дакументаў», — кажуць іншыя.

Вядома, што забітую дзяўчыну звалі Алеся Буцько. Ёй быў 21 год. Алеся родам з Гомельскай вобласці, але апошнім часам жыла ў Мінску. Працавала ў адным з аддзяленняў «Беларусбанка» і вучылася на завочным у БДЭУ на ўліковаэканамічным факультэце.

«Падрабязнасцяў здарэння мы і самі не ведаем. Што Алеся магла рабіць ля корпуса, я вам не скажу. На цяперашні момант сесіі ў завочнікаў няма. Можа, яна прыязджала па сваіх справах, можа, жыла недзе побач», — распавяла «Нашай Ніве» Вольга Смалякова, намесніца дэкана, якая адказвае за працу з завочнікамі.

**Улад Швядовіч**

# Як выглядае жыллё ў Мінску за $1700 за суткі і хто там адпачывае

На міжнародным сэрвісе па браніраванні жылля *Booking* можна знайсці самыя дарагія прапановы для Мінска. Чым яны адметныя?

Найдаражэйшы варыянт — гасцявы віп-дом у Раўбічах.

Плошча дома — 700 квадратных метраў. Прапануюць спа, трэнажорную залу, басейн.

У доме 6 спальняў. Участак на беразе Раўбіцкага вадасховішча ўключае нават кавалак пляжа. Плошча ўчастка — больш за 20 сотак.

За ноч у такім доме давядзецца заплаціць амаль $1700. Прычым за сняданак трэба будзе даплаціць асобна!

Наступны варыянт — віла «Каменная Горка».

Будынак знаходзіцца за МКАД. Наведвальнікам прапануюць трэнажорную залу, саўну, турэцкую лазню хамам і крыты басейн.

У доме тры спальні, пяць санвузлоў, каскадны вадаспад.

Агульная плошча дома — 350 квадратных метраў, участка — 15 сотак.

Абыдзецца адпачынак амаль у $1500 за суткі. Калі браніраваць праз беларускі сайт, кошты ніжэйшыя — $1100. Чым даўжэйшы тэрмін арэнды, тым выходзіць танней.

Прыкладна такія ж кошты і на суткі ў віле «Тарасава».

Там падарожнікам прапануюць спыніцца ў доме з той жа плошчай (350 метраў) і на такім жа ўчастку (15 сотак). Ёсць басейн.

Знаходзіцца жыллё ў пасёлку Тарасава, таксама за МКАДам.

Гэтыя вілы папулярныя не толькі сярод турыстаў, але і сярод беларускіх селебрыці. Фоткі свайго адпачынку адтуль выкладвала, напрыклад, Валерыя Мацвеенка — дзяўчына літоўскага футбаліста Фёдара Чарных, які цяпер гуляе ў Польшчы, а раней выступаў за беларускія клубы «Днепр» і «Нафтан».

Дзяліцца фотаздымкамі адпачынку на вілах і тэлевядучая і мадэль Каця Коба.

Бавіла там час і мадэль, ураджэнка Брэста Вольга Грыбоўская.

Бізнэсам па арэндзе катэджаў з касмічнымі цэнамі валодае мінчанка Наталля Калджы.

Акрамя трох катэджаў, Калджы здае яшчэ і кватэру ў доме Чыжа, плошчай 150 метраў. Але яна каштуе танней — «усяго» $500 за суткі.

Па непацверджанай інфармацыі, муж Наталлі — турэцкі бізнэсмен.

Расказваць «Нашай Ніве» пра паспяховасць свайго бізнэсу Наталля Калджы не захацела.

**Улад Швядовіч**



Гасцявы віп-дом у Раўбічах. Суткі тут каштуюць $1700.



Віла «Тарасава».



Трэнажорная зала ёсць амаль у кожным доме. Гэта ў так званай віле «Раўбічы».



Віла «Тарасава» знутры.



Віла ў Каменнай Горцы.



Адна са спальняў вілы ў Каменнай Горцы. Усяго ў доме 3 спальні.



Кожная віла мае басейн. Катэдж «Каменная Горка» — не выключэнне.

# Ад Налібакаў да Смаргоні. У пошуках беларускіх брукаванак

Восень — пагод восем. Але нам на час падарожжа дасталася толькі адна — дождж, які ліўся, падаў і проста вісеў у паветры.

Мы едзем у бок Валожына, Налібоцкай пушчы, а таксама ахопім ваколіцы Смаргоні і Свіры. Гэта другое падарожжа серыі. Пра першае чытайце ў №10.

## Што гэта за праект

У 2011 годзе на заклік фатографа «НН» Сяргея Гудзіліна чытачы з усёй краіны дасылалі нам інфармацыю пра свае брукаванкі. Складалася база. Але ён мог бы і застацца ў катэгорыі прыгожых ідэй, калі б не *Volkswagen* у Беларусі.

У некалькіх публікацыях мы пакажам вам гэтыя старыя дарогі і месцы, якія маглі б стаць выдатнымі турыстычнымі маршрутамі.

*Volkswagen* у Беларусі даў нам для тэст-драйву дынамічны *Volkswagen Polo GT*.

Сюрпрызам была аўтаматычная 7-ступенчатая каробка перадач. Я за 10 гадоў стажу кіроўцы сядзеў у машыне з «аўтаматам» толькі раз, аднак, як выявілася, адаптацыя адбываецца цягам першых кіламетраў. Пад'язджаючы да Ракава, я ўжо ўрубіў манеўраны спартовы рэжым.

## Прысталічча і кукурузныя палі

Першая брукаванка чакае нас на поўнач ад гродзенскай трасы, у вёсцы Дубашы. Асаблівасць усяго падмінскага арэала — палова вясковых хат перамянілася на сімпатычныя катэджыкі мінчукоў. Мінск, у якім сабралася пятая частка насельніцтва краіны, паступова распаўсюджваецца і на пятую частку тэрыторыі.

Адпаведная ствараецца інфраструктура. Таму брукаванак пад Мінскам засталося мала. Яны пад асфальтам. Хіба адзінкавыя рэлікты, як у Дубашах.

Тут брук пачынаецца пасля катэджнай часткі, ад паловы вёскі, і нясе нас, угнуты цяжкімі трактарамі, да руінаў калгаснага складу. (Хочацца сказаць «ладу».) Самы круты катэдж у Дубашах, дарэчы, належыць быламу вайскоўцу, які забагацеў, служыўшы аж на Камчатцы.

У Дубашах захаваўся цікавы звычай — набіваць на сцены хат невялікія драўляныя крыжыкі.

«Гэта каталікі так рабілі. У мяне дзед быў — Дамінік», — расказвае 56-гадовы Андрэй, які жыве тут з братам і глядзіць 97-гадовую маці.

Ёсць у вёсках такая катэгорыя людзей — немаладыя халасцякі, што жывуць пры бацьках. Ці бацькі пры іх? У Андрэя сын у Мінску, і жонка была. Але куплялі ўчастак у Ракаве, фармальна развяліся — а пасля і сапраўдны развод з таго выйшаў. «Жонка цяпер заве да сябе, але я сказаў: не паеду, пакуль маці жывая», — расказвае ён. У пальцах круціць цыгарэту, з далікатнасці не закурвае.

Наступныя нашы брукаванкі будуць ляжаць на івянецкай дарозе. І вось мы ўжо едзем кукурузнымі палямі між вёскамі Міхалова і Навіны, як паказаў нам найкарацейшы шлях анлайн-навігатар. У горадзе восень не так адбіваецца на мабільнасці: што такое для Мінска тры кіламетры — калі ты не ў заторы на кальцавой, канечне? А тут наш спартовец-*Volkswagen* ідзе амаль на халастых, трохі набіраючы хуткасць, калі трэба пераадолець па краёчку асабліва вялікую лужыну. Паскараецца аўто дынамічна, лёгкім націскам на педаль газу.

У Навінах таксама адчуваецца подых Мінска: брукаванка на старой вуліцы разбітая не сельгастэхнікай, а МАЗамі з пяском і блокамі, якія сноўдаюць туды-сюды ў будаўнічы сезон. Старая вуліца акупаваная дачнікамі. Адзін нават трымае курэй, хоць і жыве ў Мінску. А каб іх не пакралі ў яго адсутнасць узмужалыя за лета каршуны, расцягнуў над усім дваром маскіровачную сетку.

## Падневічы — Гуды

На пальцах можна пералічыць месцы ў краіне, дзе брук застаўся як дарога, а не як вясковая вуліца. Такі ўнікальны ўчастак трапляецца нам каля вёскі Падневічы, дзе жыве стваральнік «вышымаек» Павел Белавус.

Брукаванка пачынаецца ад скрыжавання з магазінам і ідзе далёка за вёску, некалькі кіламетраў. Не асфальт, канечне, але падвеска *Volkswagen* глушыць дробныя няроўнасці бруку, можна разагнацца кіламетраў да 60—70 у гадзіну.

Бяжыць міма вялізнага калгаснага саду, дзе трасуць антонаўку шабашнікі на машыне з магілёўскімі нумарамі, і сканчаецца каля фермерскай сядзібы, каля паваroткі на Гуды. Дарэчы, хто не ведаў, «гуды» — гэта старадаўняя балцкая назва беларусаў, паходзіць ад слова «готы».

**Гуды**

Назвы кшталту Гудаў, Гудзішак, Гудагая не маюць дачынення да Робіна Гуда. Гудамі балцкае насельніцтва называла суседзяў-славянаў. Імаверна, слова прыжылося ў IV—V стагоддзях, калі на поўдзень ад балтаў з Балтыкі да Чорнага мора рухаліся ваяўнічыя готы.


**Брукаванка ў Падневічах Валожынскага раёна пачынаецца ў цэнтры...**


**... і ідзе ў бок вёскі Гуды.**

## Дунін-Марцінкевіч

Ва ўрочышчы Тупальшчына недалёка ад Люцінкі пахаваны Вінцэнт Дунін-Марцінкевіч (1808—1884) — паўстанец, пісьменнік, драматург. Аўтар камедый «Пінская шляхта» і «Ідылія» («Сялянка»). Апошняя з музыкай Станіслава Манюшкі стала першай беларускай операй і была пастаўленая ў Мінску ў 1852.

Вяртаемся да Падневіч і заязджаем з іх у іншы бок, у Пральнікі. Гэту вёску варта наведаць, каб пабачыць знакамітую Мікалаеўскую царкву-ратонду. Раней гэта была пахавальня мясцовых паноў Ратынскіх.

«У Беларусі ўсяго дзве такія ёсць», — з гонарам сказалі нам супрацоўнікі завода «Холад», які тут жа, побач з царквой, робіць прамысловыя лядоўні. А бруку ў Пральніках больш няма. «У нас раней увесь калгас быў забрукаваны. Пасля вайны быў старшыня, Сяргей Паўлавіч Супрон, ён гэта арганізаваў».

**Новае слова ў будаўніцтве дарог: сеткі базальтавыя, поліэфірныя…**

Калісьці брукаванкі былі апошнім словам дарожнага будаўніцтва. Пра тое, што цяпер у мэйнстрыме, расказаў Уладзіслаў Штабінскі, вядучы навуковы супрацоўнік Беларускага дарожнага навукова-даследчага інстытута.

«Мы цікавімся ўсім новым, што ў свеце робіцца, спрабуем прымяняць у нас, — кажа спадар Уладзіслаў. — Пачалі ў свеце выкарыстоўваць у дарожным будаўніцтве поліэфірныя, базальтавыя сеткі, геатэкстыльныя праслойкі — мы глядзім, як гэта ўвесці ў нашым дарожным будаўніцтве. Шукаем вытворцаў, распрацоўваем тэхналогію, тэхнічную дакументацыю».

Геатэкстыльныя праслойкі кладуцца пад пясчаную падсыпку дарогі, асабліва там, дзе дарога ідзе па глiністай аснове. Гэта робіцца, каб гліна не змешвалася з пяском, не забруджвала яго. Бо глiністыя глебы пучыністыя ўзімку — гэта значыць, падымаюцца пад уздзеяннем нізкіх тэмператур, — і, калі гліна пранікае ў пясок, падсыпка будзе менш эфектыўнай.

З дапамогай поліэфірных сетак гэтаксама аддзяляюць пясчаную падсыпку ад асновы — шчэбню, перашкаджаючы ім змешвацца.

Ёсць яшчэ базальтавыя сеткі, сеткі на аснове шкловалакна — імі армiруюць асфальтабетонны слой падчас рамонтаў.

Такія сеткі выкарыстоўваліся падчас рэканструкцыі магілёўскай трасы М5, цяпер іх кладуць на гродзенскай трасе М7.


Унікальная царква-ратонда ў Пральніках, Валожынскі раён.

Брукаванкі захаваліся ў паўднёва-ўсходняй частцы Валожыншчыны, бліжэй да Волмы.

Там, паводле пральніцкага меркавання, мясціны глушэйшыя. Праз гэта і моладзі болей: цяжэй у Мінск выехаць.

На выездзе сустракаем аўталаўку. Малады кіроўца расказвае, што за дзень аб'язджае вёсак 13—15. Апошнім часам з аўталаўкай канкуруюць у дастаўцы ежы на вёску адна мінская гандлёвая сетка і адна мясцовая валожынская, «але яны болей па вялікіх вёсках... да хутароў іх мікрааўтобусам не даедзеш». У той момант мы мала ўвагі звярнулі на гэтую фразу.

Дарога да Суднікаў па ўзгорыстай лясістай Валожыншчыне надзвычай прыгожая ўвосень. Колеры якраз такія, у якія традыцыйна фарбуюць хаты ў гэтым баку Беларусі.

Нібы людзі хацелі схапіць і пакінуць з сабою на ўвесь год гэтую залаціста-зялёную пару.

Брукаванка ў Судніках вядзе ўніз па старой вуліцы і сканчаецца балацінай, аблямаванай падрослым баршчавікам. Рызыкнём? І наш *Volkswagen* сядае правым пярэднім колам у гразь. Не дзіва: гэты ўчастак мог бы пераадолець хіба красовер. Трэба будзе ў наступны раз узяць паўнапрывадны *Volkswagen Tiguan*. Ідзём па хатах, смяшлівая бабуля пазычае нам шуфаль.

Адзін з міфаў пра «аўтамат» — яго немагчыма «раскачаць», калі трэба выбрацца з балота ці снегавога заносу. Але наш GT памалу вырульвае з пасткі.

Гэта не апошняя такая прыгода: наступная напаткала, калі навігатар вёў нас да вёсак Сурціны і Лявонцы.

Раптам гравійка ператварылася ў гразкую палявую дарогу, высака над якой луналі сытыя каршуны-падлаеды. Капітулюем і разварочваемся. Тут нам прыдалася камера задняга віду: калі б не яна, мы падчас развароту здалі б назад яшчэ сантыметраў дваццаць і надзейна селі абодвума коламі ў канаву, поўную гразі.


Курдуны, Валожыншчына.

Абедаем у цэнтры Івянца ў кавярні каля сельсавета. Дзённае меню — булён з рысам, макарона з кетчупам і катлетай.

## Бацька ўсіх брукаванак

Ён ляжыць у вёсцы Камень на Валожыншчыне. Валун памерам з невялікую хату. Згодна з паданнем, гэта і была хатка шаўца, які звязаўся з нячыстай сілай дзеля падвышэння прадукцыйнасці працы. І быў так пакараны.

Камень знаходзіцца на ўзвышэнні, над рэчкай Каменкай.

Побач, канечне ж, жывёлагадоўчая ферма. Раней, сведчаць фоткі пяцігадовай даўніны, вакол яго была агароджа, стаяў слуп з ахоўнай таблічкай. Цяпер нават дарожак няма.

А месца намоленае: нават далёкі ад акультызму пазітывіст адчуе каля каменя нейкую наэлектрызаванасць.

Працяг на старонцы 14.


Хвецевічы, Смаргоншчына.

**Volkswagen Polo GT**

Рухавік: бензінавы, 1,4

Магутнасць: 92 Квт/к.с.

Абсталяванне

Пакет *Media*: аўдыясістэма RCD 330G, мультыфункцыянальнае скуранoe рулявое кола ў спартовым дызайне з клавішамі кiравання аўдыясістэмай, камера задняга віду Rear View.

Пакет *Comfort*: электрападагрэў лабавога шкла, цэнтральны падлакотнік спераду, круіз-кантроль, электракіраваныя, электраскладальныя і электраабагравальныя знадворныя люстэркі задняга віду з указальнікамі паваротаў.

Пакет *Technic*: парк-пілот спераду і ззаду, салоннае люстэрка з аўтаматычным зацямненнем, датчык дажджу, аўтаматычнае ўключэнне фар (*Coming/Leaving Home*).

Адаптыўны *Bi-Xenon*: фары з газаразраднымі лямпамі для блізкага і далёкага святла; дадатковыя святлодыёдныя агні для павелічэння бяспекі руху ў светлы час сутак; дынамічнае рэгуляванне дальнасці святла фараў; абмывальнік фараў.



# Ад Налібакаў да Смаргоні. У пошуках беларускіх брукаванак

Працяг са старонкі 13.

## Налібоцкая пушча

За Каменем пачынаецца Налібоцкая пушча. Гэта светлы, чысты лес з імшанікамі і старымі хвоямі. Любаваліся ім, пакуль была магчымасць і асфальт.

Пасля гладкае дарожнае пакрыццё хільнула ўправа, да фальварка Дзяржынава, радзімы Жалезнага Фелікса, а мы да Рудні Пільнянскай стукалі зубамі па рабрыстай гравійцы. І на брукаванку ўз'ехалі з пачуццем глыбокага задавальнення.

У гэтай вёсцы можна пабачыць хаты з густоўнымі аканіцамі, руіны двухпавярховага цаглянага млына на рацэ Уса. Людзей не відаць.

У Налібаках людней. Тут працуюць крамы і адміністратыўныя ўстановы. У цэнтры вёскі, насупраць сельсавета, — валун на свежым пастаменце. На ім фарбай крывы надпіс: «Агонь — вораг лесу». Аказалася, будзе помнік налібоцкім габрэям — ахвярам фашызму. Толькі камень, узяты з лесу, яшчэ не паспелі адмыць і табліцы з надпісам пакуль няма.

Яшчэ тут цікавая архітэктура: у цэнтры стаяць дамы з крытымі ганкамі, разьблёнымі калонамі. Будавалі гэта ўсё пасля вайны. У вайну Налібакі цалкам згарэлі.

Брукаванка, якая помніць трагедыю 1943 года, знаходзіцца ў самым канцы вуліцы Ліпеньскай, у кірунку на Кромань.

У Дзераўной з густоўным белым касцёлам на гары брукаванкі не знаходзім. Дзве гаманлівыя бабулі, якіх мы падвезлі, скіроўваюць нас у Ніўнае.

## Унучатая пляменніца Крапівы

Там на доўгай, павыбіванай тэхнікай брукаванцы нам трапляецца стары «Фольксваген Гольф». «Трыццаць гадоў машыне, — ляпае па капоце далонню гаспадар, 50-гадовы Казімір. — Гэта рабочы конік.

Бывае, 150 кіламетраў за дзень зраблю. Ёсць БМВ, але на ім жа ні ў лес не паедзеш, ні па вёсках». А ездзіць прыходзіцца. Казімір працуе на Стаўбцоўскай цагельні аж у Аталезі, а яго жонка Людміла — страхавы агент, яна абслугоўвае тры дзясяткі вёсак.

Людміла і Казімір запрашаюць нас на гарбату.

Беларусы непрадказальныя: заходзіш у абкладзеную сілікатам хату а ля 1980-я, а там — цёплыя падлогі, падвесныя столі. Чысціня ў прыхожай такая, што можна кідаць мокрыя курткі проста на падлогу — заадно і пасушацца.

Разам з бацькамі жывуць дарослыя дачка і сын.

На стол выстаўляецца ваза яскравых івянецкіх цукерак — «Свежанькія!»

Людміла родам з Мінска. З маладым ветэрынарам Казімірам пазнаёмілася, калі прыехала на лета да бабулі ў вёску.

Лячыць жывёлу муж даўно кінуў: «Няма ў калгасе ўмоваў для ветэрынара. Дый у турму можна сесці», — кажа загадкава. На цагельні робіць дваццаць гадоў, начальнік брыгады. Там жа і сын, у аддзеле рэалізацыі. Будучыня няпэўная: завод працуе два месяцы на год — няма збыту. Перастала браць цэглу Расія — там крызіс, другі вялікі кліент — Баранавічы — адышоў, калі збыт заводу абмежавалі Мінскай вобласцю. А тут цяжка канкураваць з Радашкавічамі, якія выдаюць сем мільёнаў цаглін у год і стаяць пад самым Мінскам.

«Ды нам печ нагрэць да тысячы градусаў трэба паўтара тыдні, — абураецца Казімір. — Як тут рабіць два месяцы!

Прыязджала да нас Баніфацыеўна з райвыканкама, зачытвала спіс вакантных працоўных месцаў: паляводы, ферма. Што я — пайду каровам хвасты круціць? Я сваю брыгаду дзесяць год збіраў!»

Цагельня прыватная. Сярод інвестараў — дырэктары Гарадзейскага цукровага камбіната, Мінскага маторнага завода, па пары акцый ёсць і ў рабочых. Нядаўна паставілі новага дырэктара, але што з таго будзе?

На перспектыву развалу цагельні энергічная Людміла глядзіць як на праблему, але не як на трагедыю. Яе прынцып — «зарабляць трэба на ўсім». Сям'я афармляе залы для вяселляў і ўрачыстасцяў, прадае пахавальныя вянкі, здае грыбы-ягады ў сезон, сын здымае для расійскага спартовага сайта футбольныя гульні гарадзейскай каманды... Падчас гутаркі высвятляецца, што Людміла — унучатая пляменніца Кандрата Крапівы.

Праўда, класіка-байкапісца сама яна не бачыла: але мама, як была ёй цяжарная, хадзіла «на прыём»... І Крапіва, згодна з сямейнай легендай, дапамог маладой сям'і з кватэрай.

**Ці вядзецца ўлік брукаванак?**

Статыстыкі па брукаванках, іх даўжыні і колькасці, ніхто не вядзе, кажа Уладзіслаў Штабінскі. Улічваюцца асфальтабетонныя дарогі, бетонныя, а брукаванкі трапляюць у раздзел «іншыя».



Возера Свір — самае доўгае ў Беларусі.




Ніўнае, Стаўбцоўскі раён.




## Да Смаргоні і Свіры

Пасля гасцінных Казіміра і Людмілы паспяваем яшчэ заехаць у Заброддзе. Цямнее. Колы адчуваюць брук. *Volkswagen* аўтаматычна запаліў адаптыўныя біксенонавыя фары, асвяцiўшы да канца цёмнае Заброддзе.

На ўсёй вуліцы свецяцца двое вокнаў.

На выездзе ў прыцемку перад машынай скача заяц. Выключаем фары, якія, відавочна, гіпнатызуюць касога, не даючы збочыць. Заяц спыняецца ў нерашучасці, чакае працягу шоу...

Урэшце неяк удаецца размінуцца з ім.

Снегавой хмарай цямнее злева ад трасы Налібоцкая пушча.

Мы кіруемся на начлег у Вайніздзеняты (націск на «і»), пад Смаргонь, дзе нас пагадзіліся прыняць мастак Андрэй Анро і журналістка Святлана Станкевіч. Яны любоўна аднаўляюць прадзедаўскую хату са старой мэбляй. Цымус хаты — дубільны цэбар памерам з невялікую ванну пад падлогай: прадзед вырабляў скуры.

Пасля першага артыкула пра брукаванкі чытачы накідалі нам у каменты процьму адрасоў. Шкада, нельга дацягнуцца да ўсіх.

Далёка ад гэтага нашага маршруту ляжыць брукаваны ўчастак Альгердавага шляху пад Глыбокім, Малыя Свіраны на Астравеччыне. Самым паўночным пунктам падарожжа была Свір.

Тут, у мястэчку, дзе раней жылі і беларусы, і палякі, і габрэі, і стараверы, пара метраў брукаванкі, проста насупраць замчышча, у тупікуспуску да возера.

Свір газіфікавалі ў апошнія гады. Асабліва гэта заўважна на стараверскай вуліцы: тоўстыя жоўтыя

трубы пітонамі віюцца ўздоўж платоў.

У гэтай частцы Беларусі можна заўважыць і зусім новую асаблівасць ландшафту: шырачэзныя просекі з лініямі электраперадач, якія неўзабаве пагоняць ток ад Астравецкай АЭС.

А перад Свірам, у вёсцы Дубатоўка, мы адцемілі для сябе новы від сучаснага масавага мастацтва — скульптура з пенаблока. Адзін гаспадар заставіў гэтай прыгажосцю ўвесь двор.

«Служыў у Германіі, пабачыў, які там парадак», — ухвальна кажа пра яго сусед. Сусед таксама не ўцярпеў і паставіў на дварышчы кічовага сабачку з чырвоным бантам. За ім хлявы, стажкі, на фоне ходзіць конь. Глядзіцца гэта ўсё іншапланетна.

### Стараста Раман

Затое якую аўтэнтыку ўдалося пабачыць у вёсцы Хведзевічы! Брамы XIX стагоддзя, хаты з кругляка, у кожным двары — клець. Вуліца вузкая, брукаваная, на каменне кідаюць першы руды ліст гонкія старыя дубы.

Валіць дождж, наш GT едзе пустой вуліцай. Але тут удача: каля адной хаты стаіць аўто, ходзяць людзі з паперамі — сімпатычная бялявая дзяўчына і строгага выгляду кіроўца. Аказалася, судовыя выканаўцы.

У вёсцы толькі адзін жыхар не на пенсіі, яго і шукаюць. Мусіць, зноў далі штрафу за браканьерства на возеры, а цяпер ганяюцца, каб распісаўся і заплаціў. А ён, кажуць суседзі, парадную калком падпёр, нібы яго дома няма, а сам праз заднія дзверы ў хату пранікае.

Да сваёй брукаванкі жыхары ставяцца з цеплынёй.

**Клець**

Кладоўка. Асобны будынак у сялянскім двары, у якім захоўваліся прадукты ды рэчы. Пазнаць яго лёгка: на даху зроблены «накат» са шчыльна пакладзенага бярвення. Гэта не саламяная страха, якую злодзей мог прадзерці і лёгка дабрацца да запасаў. Яшчэ ў клеці звычайна клалі спаць маладых у першую шлюбную ноч.

Абураюцца, што яе псуюць цяжкія лесавозы ды трактары. «Вам Раман усё раскажа — ён у нас як стараста».

Раман і Таццяна — мінчукі, абаім пад сорак. Некалькі гадоў таму яны купілі ў Хведзевічах адну з векавечных хат. Цяпер тут не горш як у Швецыі: дзверы шкляныя, падлога цёплая, густоўна аздобленая «руская» печ. Частуюць кавай з кумпяком уласнага пасолу. «Адзін майстар нам печ перакладаў— пасля знік. Можа, золата знайшоў?» — расказвае Раман. Ён «трохі» літовец, нарадзіўся ў горадзе, але Хведзевічы іх з жонкай закахалі.

«Тут такія лясы, азёры! Да нас казулі прыходзяць у сад яблыкі есці. А вёска якая — імёны суседзяў паслухайце: Цэзар, Логін, Тарэса, Геня... Праўда, інфраструктуры ў наваколлі для турыстаў ніякай. Таму адпачыць тут можна, калі хапае душы на ўсё гэта».

Раман і Таццяна, мала што «дачнікі», актыўныя грамадзяне вёскі. Яны арганізавалі збор подпісаў пад калектыўным лістом начальніку раённай ДАІ — каб перад вёскай паставілі знак аб'езду для цяжкой тэхнікі, што псуе дарогу. Тым больш, што ёсць аб'язная палявая дарога. Але начальнік адмахнуўся — палявая дарога не на балансе, яе фармальна не існуе, таму знак ён ставіць не мае права. «Дастаткова было б, думаю, каб ён проста пазваніў кіраўніку СПК ды выказаў пажаданне — перасталі б ездзіць. Але такое начальства — усе ўсяго баяцца», — кажа Раман.

### Жодзішкі

Наступную брукаванку мы знайшлі аж пад Жодзішкамі, у вёсцы-спадарожніку Сачаняты.

На бруку сустракаем групу сур'ёзных хлопцаў у доўгіх чорных плашчах з капюшонамі.

Нібы ўдзельнікі нейкага зласнага рытуалу. Злавеснасць у сітуацыі ёсць, але іншага плану: гэта маладыя міліцыянты, шукаюць па навакольных лясах 47-гадовага чалавека, які ўжо тыдзень як знік без звестак.

У самых Жодзішках брукаванак не засталося. Затое ёсць бюст Леніна без подпісу на пастаменце і ўнікальны драўляны млын XVIII стагоддзя, рупліва аднаўлены.

Глядзіш — і згадваюцца руіны на Вузле і ў Пільнянскай Рудні. Якія маглі б быць класныя турыстычныя ці інфраструктурныя аб'екты — абы ідэі і сілы мясцовага бізнэсу!



Ландшафтны дызайн у вёсцы Дубатоўка, Смаргонскі раён.



Хведзевічы, Смаргонскі раён.




Камяніцы старой Свіры.

### Хрысціна і Божая Маці

Адзнака гэтай мясцовасці — каплічкі. Драўляныя ці цагляныя, з фігурай Божай Маці ў акенцынішы, яны стаяць у цэнтры вёсак. Звычайна на іх заўважныя знакі доўгага жыцця. А вось у вёсцы Дзевятні нам трапляецца зусім новая, няскончаная, капліца, з чырвонай цэглы, яшчэ без дашка і фігуры.

«Што, можа, касцёл муруе?» — цікавімся ў людзей. І нам расказваюць.

Ставіць капліцу ўзялася зямлячка, Хрысціна. Яна тут не жыве: працавала ў Маскве бэбі-сітарам («чужых дзяцей глядзела»), пасля пераехала ў Амерыку па той жа спецыяльнасці і там выйшла замуж за мільянера. Цяпер мільянер памёр і ёй грошы пакінуў. Дык от ёй снілася Маці Божая ў роднай вёсцы, і Хрысціна вырашыла на памяць пра гэты цуд змураваць капліцу.

Працяг на старонцы 16.

# Ад Налібакаў да Смаргоні. У пошуках беларускіх брукаванак

Працяг са старонкі 15.

Праўда, работа нешта стала, капліца ўжо другі год няскончаная.

Праехаўшы па брукаванцы ў вёсцы Маркоўцы, што стаіць на высокім беразе Вяллі, бачым у прылеску акуратны і сціплы нямецкі цвінтар часоў Першай сусветнай.

Сярод Куртаў, Альбертаў, Фрыцаў на цэментным крыжы раптам трапляецца: вахмістр Лысяк. Відаць, украінец, аўстрыйскі ці нямецкі падданы, склаў тут галаву на імперыялістычнай вайне.

Доўгая, гладкая брукаванка і ў вёсцы Рыбакі пад Смаргонню. Тут адчуваецца дух катэджнага прыгарада — не дзіва, Рыбакі стаяць над прыгожым выгінам Вяллі. На гары за вёскай — царква, таксама пастаўленая, паводле мясцовай легенды, на месцы з'яўлення Божай Маці.

Ад Рыбакоў да Смаргоні можна даехаць роварам — так і робіць мясцовая дачніца з кошыкам вінаграду.

### Аб'ект нянавісці

Звычайна прыязджаеш у вёску з брукаванкай, а людзі зусім індыферэнтна да яе ставяцца. Дарога і дарога, што пра яе казаць. Можа, палякі рабілі, можа, так хто. Даўно. Вось і ўся размова. Не так было ў Свірыдавічах за Смаргонню. Там брук высякае іскры эмоцый.

«Хлопцы! Як добра, што вы прыехалі! Калі нам ужо дарогу нармальную зробяць?! Гэта ж ганьба! Пад самым горадам — а асфальту няма! Я яе кожны дзень мяту і раўняю! Напішыце!» — пенсіянер Мікалай з нянавісцю топча брукаванку.

Ён умомант арганізуе стыхійны мітынг з дваіх суседзяў, адзявае найлепшую шапку і пазіруе на бруку з той самай шчоткай, якой мяце. А брук тут досыць роўны, трэба сказаць. Толькі падпсаваў «круты» сусед, які вёў па дарозе камунікацыі да нядаўна купленага ўчастка з высокім плотам.

### Унутраная Манголія

Апошні наш пункт на Смаргоншчыне — вёска Слабада. Там, падказалі нам, ёсць брукаванка і жыве адзін-адзіны чалавек — апошні старавер Ананій.

Да Слабады вядзе дарога, пазначаная на картах тонкай, як павуцінка, лініяй.

У рэальнасці яна аказваецца неблагой гравійкай. Проста ідэальнай, калі б не рэльеф. Як бы навучыцца пазнаваць яго на картах аўтамабільных дарог? Бо дажджы ідуць, пясок з гары плыве, утвараючы на дарозе прамоіны і зыбун у ніжнім пункце. Даводзіцца ехаць зігзагам, каб не буксануць і не завязнуць. Прыемна здзіўляе рухавік: пры лайтавым аб'ёме 1,4 ён цягне пад гару без праблем.

У лабірынце гэтай унутранай манголіі Смаргонскага раёна мы згубілі арыенцір і замест Слабады прыехалі ў суседнія Хвецевічы. І там — брукаванка.

Гаспадаркі ўсяго тры, затое ва ўсіх — коні. Яны тут яўна не раскоша, а сродак перасоўвання. Гладкія, здаравенныя, як лакаматывы. Адзін спалохана кідаецца ўбок і косіцца на нашу машыну — рэдка, відаць, бачыў легкавікі спартовага дызайну.

Хто сказаў, што старыя людзі адарваныя ад рэчаіснасці і жывуць у сваім свеце? На выездзе з Хвецевічаў спыняем бабульку, каб запытаць дарогу. Яна ў адказ ладзіць нам сапраўдны допыт: яе цікавіць наш аўтамабіль. Колькі каштуе машына? (Інфармацыю пра 29 270 рублёў яна ўспрымае без вялікага здзіўлення.) Ці новая яна? Які прабег? Які рухавік? На колькі бензіну хапае?..

Атрымаўшы адказы, падказвае, што трапіць у Слабаду можна кругавой дарогай, праз Стымоні і Мелеўшчыну. І мы ад'язджаем здзіўленыя: ці не хоча спадарыня стаць дылерам *Volkswagen* у Хвецевічах?

У Слабадзе мы нікога не сустрэлі — відаць, Ананій падаўся ў заробкі да суседзяў. Прайшліся па зарослай вясковай вуліцы. Дзенідзе ад хат застаўся толькі падмурак з ганкам, а на ім — немалыя ўжо бярозы. Джунглі глытаюць усё. Тут нават студняў няма, ваду Ананію прывозяць.

### Ад Ляшчаткі да Бабровічаў

Адсюль мы павяртаем на Віленскую дарогу, у бок Валожына, каб іншай дарогай вярнуцца ў Мінск.

На заканчэнне нас чакае найдаўжэйшая з усіх сустрэтых за два падарожжы брукаванак. Яна ідзе паралельна гродзенскай трасе ад Ляшчаткі да Бабровічаў — міма Чэхаўшчыны, Яшкавічаў, Паморшчыны, Палікшчыны і Даўбеняў, каля дзесяці кіламетраў.

Гродзенскую трасу мадэрнізуюць, пашыраюць, робяць раздзельныя палосы, укладаюць у аснову палімерныя сеткі. А побач ляжыць старажытны шлях з Мінска на Валожын. Яго без усякіх стратаў можна было б паднавіць, мемарыялізаваць, зрабіць каштоўнасцю. Каб можна было паказваць дзецям, як выглядалі дарогі продкаў.

Ну і класіка жанру: якраз на гэтай брукаванцы, на апошніх хвілінах падарожжа, з-пад хмар на захадзе выблісквае сонца. 600 кіламетраў засталіся за спінай. Дахаты.

**Андрэй Скурко, фота Сяргея Гудзіліна**

*Наступная вандроўка будзе ў бок Нясвіжа і Навагрудка.*

*Дзякуем Volkswagen у Беларусі за аўтамабіль для падарожжа.*


Жыхары Свірыдавічаў пад Смаргонню хочуць, каб ім паклалі асфальт.


Капліца ў Дзевятнях, Смаргонскі раён.


Нямецкія могілкі Першай сусветнай у Маркоўцах над Віліяй.


Дарога ад Ляшчаткі да Бабровічаў у Валожынскім раёне: 10 км брукаванкі.

**Стараверы**

перасяліліся ў Вялікае Княства Літоўскае з Маскоўскай дзяржавы ў XVII ст. У Расіі іх праследавалі, а ў нашай краіне панавала верацярпімасць. Вялікія паселішчы старавераў з'явіліся на гомельскім Палессі, на Ветцы, на поўначы Беларусі, на Паазер'і, а таксама на Барысаўшчыне. Стараверы жылі закрытымі супольнасцямі. Беларусы называлі іх «кацапамі» або «маскалямі», але жылі без канфліктаў. Стараверы да нашага часу захавалі сваю веру і культурную адметнасць. Скажам, мужчыны-стараверы адрозніваліся ад навакольных беларусаў сваімі барадамі.




**Мастак Міхал Анемпадыстаў. Эстэтыка бруку**

Брукаванка — функцыянальны матэрыял. Функцыяналізм вельмі важны. Ясна, што яна не для трас і галоўных вуліц. Але ёсць мясціны, дзе рух не настолькі інтэнсіўны. Там яе можна было б захаваць.

Эстэтычная каштоўнасць бруку — безумоўная. Брук — дэталізаваны матэрыял, ён мае фактуру, у адрозненне ад асфальту ці бетону.

Брукаванка таксама выконвае функцыю гістарычную і ў нейкім сэнсе функцыю аўтэнтызацыі асяроддзя. Яна мае шэраг якасцяў, якія розняць яе ад іншых шляхоў, дарог. Яна стварае пэўны настрой.

Варта абавязкова захоўваць фрагменты дарог, звязаных з гісторыяй. Як Альгердаў шлях ці дарогу на Гальшаны. Другі момант — каштоўнасць краявіду. Калі мы маем нейкі ўнікальны краявід і брукаванку — яго частку, упісаную ў яго. Трэці момант — дасягненні інжынернай думкі. Як трылінка на Палессі ці ўчасткі, выкладзеныя гродзенскай бетонна-гранітнай пліткай.

Самая старая брукаванка ў Мінску, дарэчы, да нядаўняга часу захоўвалася на Музычным завулку, вуліцы Кірылы і Мяфодзія. Гэта быў адзін з першых брукаў XVII ст. У Еўропе амаль нідзе не заставалася такога старога. Цяпер заасфальтаваная.

# Акцёр Кевін Спэйсі прызнаўся, што ён гей

Зорка серыяла «Картачны домік» і «Прыгажосць паамерыканску» зрабіў камінг-аўт.

Амерыканскі акцёр Кевін Спэйсі абвясціў пра сваю гомасэксуальнасць. Пра гэта ён напісаў у твітары.

«Блізкія мне людзі ведаюць, што цягам усяго жыцця ў мяне былі адносіны як з мужчынамі, так і з жанчынамі. Я любіў мужчын і ў мяне былі рамантычныя сустрэчы з імі, і цяпер я выбіраю працягваць жыць як адкрыты гей», — напісаў акцёр.

Пры гэтым раней у СМІ з'явіліся паведамленні, што акцёр з серыяла *Star Trek* Энтані Рэп абвінавáціў Спэйсі ў сэксуальных дамаганнях.

«Я глыбока паважаю і захапляюся Энтані Рэпам як акцёрам. Я больш чым шакаваны гэтай гісторыяй. Я шчыра не памятаю гэтай сустрэчы, яна павінна была быць каля 30 гадоў таму», — напісаў акцёр, выбачыўшыся за свае паводзіны.

Спэйсі адзначыў, што менавіта гэтая гісторыя прымусіла яго адкрыта абвясціць аб сваёй гомасэксуальнасці.






# На Belarus Fashion Week жанчыны падалі да ног Улада Бумагі

На *Belarus Fashion Week* распіяраны відэаблогер Улад Бумага пазіраваў перад фатографамі са сваёй дзяўчынай.

Яна абдымала яго за нагу.

Яны былі апранутыя ў жоўтыя худзі і спартовыя штаны з калекцыі Джасціна Бібера *Justin Bieber Merch Lands At H&M.*

Відаць, такім дзіўным чынам іміджмейкеры Улада Бумагі хацелі прыцягнуць да яго ўвагу. У Ютубе гэты хлопец мае амаль 2 мільёны падпісчыкаў, пераважна падлеткаў, хоць ад дарослых можна пачуць крытыку ягоных шоу.

**Вольга Афіцэрава**

# Беларус засвяціў(ся) на самым адарваным шоу расійскага інтэрнэту

9 кастрычніка ў сацыяльнай сетцы Укантакце стартавала рэаліці-шоу «Паблічныя гульні».

Ягоныя правілы наступныя: 28 чалавек закідваюць на экзатычную выспу, дзе яны мусяць пражыць 48 дзён, іх чакаюць 24 выпрабаванні. Па адным удзельніку будуць выкідваць з праграмы, як было ў перадачы «Апошні герой». У выніку адзіны пераможца атрымае 3 мільёны расійскіх рублёў (крыху больш за $50 тысяч).

Адметнасць у тым, што шоу збіраюцца паказваць анлайн 24 гадзіны на суткі, хаця ўжо цяпер узніклі пэўныя тэхнічныя цяжкасці, таму відэа перарываецца. На дадзены момант анлайн-трансляцыя мае Укантакце больш за 3 мільёны праглядаў.

У чым адметнасць «Паблічных гульняў» ад таго ж «Дома-2»? Удзельнікам можна лаяцца матам, прычым шмат. А таксама не забароненая аголенасць. З'явіліся ўжо цэлыя суполкі, куды посцяцца




карцінкі з аголенымі ўдзельнікамі.

Сярод тых, хто бярэ ўдзел у шоу, — 26-гадовы беларус Віктар Касаўцаў. Ён прадстаўляе паблік «Борщ». Для Віктара гэта не першы ўдзел у расійскіх шоу. Раней ён удзельнічаў у «Ацалелым», калі героям даводзілася выжываць у дзікіх умовах. Ён там быў вядомы пад нікам Шмыга. Віктар вядзе ютуб-канал «Дывергентны».

Ужо ў першы дзень Касаўцаў паспеў засвяціцца ў эфіры абсалютна аголеным, калі пайшоў у душ. «Я гатовы абсалютна на ўсё. Не гатовы толькі спаць з мужчынам, пакуль што», — казаў Касаўцаў на кастынгу.

У праграме няма вядучага. Яго ролю выконвае вялікі экран, на якім з'яўляецца маска, так званы бот. Ён кажа, што яго не цікавіць, якія рэчы будуць рабіць удзельнікі, яго цікавіць толькі кантэнт. І нічога больш. Чатырох першых няўдачнікаў шоу вызначала «нейрасетка», гэтыя людзі вырабілі менш за ўсіх кантэнту. «Рабіце, што патрэбна, абы мне не было сумна», — кажа бот.

Можна меркаваць, чым далей будзе трансляваць шоу, тым болей трэшу, сэксу, скандалаў, боек будуць назіраць гледачы. Фактычна ў «Паблічных гульнях» няма ніякіх абмежаванняў. А калі самі ўдзельнікі будуць ставіць гэтыя абмежаванні перад сабой, вылецяць з шоу.



Карацей, гледачам проста прапануецца паглядзець без цэнзуры, на што ж гатовыя людзі, каб атрымаць грошы і славу.

**Зміцер Панкавец**

# У Чарнобыльскай зоне знайшоўся лясны кот. Гэтая жывёла 90 гадоў лічылася вымерлай


Ілюстрацыйны здымак.

Навукоўцы мяркуюць, што ў Беларусь вярнуўся лясны кот — дзікая жывёла, якая доўгі час лічылася вымерлай, паведамляе партал *Wildlife.by*. Апошнюю такую жывёліну здабылі ў 1927 годзе ў Барысаўскім раёне.

Лясны кот адрозніваецца ад хатняга суродзіча буйнымі памерамі і нелюдзімасцю. Яго даўжыня цела складае 50—75 см, даўжыня хваста — 21—35 см. Дарослы лясны кот важыць 3—8 кг. На ўнутраным баку лап добра відаць чорныя плямы. А вось хвост шырокі і тупы, з выразнымі чорнымі палоскамі.

Лясны кот, як мяркуецца, трапіў у фотапастку ў Палескім дзяржаўным радыяцыйна-экалагічным запаведніку. Надзвычай падобную істоту сфатаграфавалі ў былой вёсцы Рожава ў Нараўлянскім раёне — гэта зона, адселеная пасля Чарнобылю.

Лясныя каты, распаўсюджаныя ў Карпатах, апошнім часам пашыраюць арэал на ўсход, аж да левабярэжжа Дняпра. Імаверна, гэты рух ляснога ката закрануў і Беларусь.

# Знаёмцеся — адзін з самых супярэчлівых і падступных грыбоў беларускага лесу

**У падборцы паэт і эксперт у грыбных пытаннях Сяргей Сыс распавядае пра каварную свінушку, цікавыя падгруздкі ды яркія радоўкі.**


Свінушка тонкая.


Падгруздкі.


Радоўка фіялетавая.

### Свінушка

Упершыню я вырашыў наступіць на горла ўласнай песні і распавесці пра адзін з самых супярэчлівых і падступных грыбоў — свінушку.

Кажуць, што тыя, хто іх ужывае ў ежу, моцна рызыкуюць, нібыта гуляюць у рускую рулетку. А ўсё па той прычыне, што раней свінушку лічылі ўмоўна ядомым грыбам, а цяпер навукоўцы адзінадушна адносяць яе да атрутных. Што яшчэ вядома пра свінушкі? Пішуць, што здараюцца выпадкі смерці ад атручвання свінушкамі, бо супрацьяддзя ад яду мускарыну (які там знойдзены) не існуе. У дадатак грыбы могуць выклікаць моцныя алергічныя рэакцыі. Таксама, і гэта дакладна, свінушкі назапашваюць у вялікай колькасці радыеактыўныя рэчывы.

Але што рабіць вось з гэтым? «Мая бабуля ўсё жыццё збірала і саліла свінушкі, а памерла ў 83 гады. Я таксама люблю гэтыя грыбы як салёныя, так і смажаныя, у іх свой спецыфічны смак. Для мяне яны нашмат больш смачныя за ваўнянкі і могуць паспаборнічаць з лісікамі».

Я прадчуваю, што многія з вас пачнуць даводзіць, што свінушка — нявіннае і бясшкоднае стварэнне.

Прызнаюся, што і я маю досвед спажывання гэтага грыбнога каварства. Год дзесяць таму выбраліся з гомельскімі сябрамі ў лес, аж да самай украінскай мяжы, туды, дзе раней заўсёды шчасціла на добры грыбны ўлоў. Аднак у той дзень не шанцавала: грыбоў не было зусім. Расчараваныя і злыя, мы скіравалі самаход назад, на Гомель, ды не вытрымалі і спыніліся ля нейкай нізкай забалочанай мясціны, дзе і натрапілі на сапраўдны «кландайк» свінушак. І багажнік аўтамабіля запоўнілі, і салон — ледзьве самі размясціліся.

Дома, не маючы вопыту гатавання свінушак, дзейнічаў інтуітыўна: адварыў хвілін 10 у першай вадзе, потым хвілін 20 — у другой, дый засаліў у эмаліраванай выварцы. Тыдні праз два пакаштавалі з жонкай — смачна!

Цяпер я так не раблю. Не таму, што боязна атруціцца, а таму, што ведаю шмат іншых лепшых грыбоў, якія мяне цалкам задавальняюць.

Што магу параіць? Трэба ведаць пра існаванне розных відаў свінушак: тонкіх і тоўстых. Свінушка тонкая (*Paxillus involutus*, кабылка, свінуха, свіное вуха) — расце ўсюды і ў вялікай колькасці, але лепш іх не збіраць.

Калі нясцерпна хочацца, звярніце ўвагу на свінушку тоўстую (*Paxillus atrotomentosus*). Пра яе атрутнасць не так шмат кажуць, дый выглядае яна больш пашляхетнаму. Хаця грыб гэты надта жорсткі і крыху гаркавы. Хіба што ў засолку.

### Падгруздкі

Пасля нетаропкіх лясных вандровак няўмольна надыходзіць час выбірацца з-пад зацені елак ды бяроз на ўскраек лесу да сцяжынак і дарог. Нярэдка на вочы кідаюцца купкі перабраных і выкінутых грыбоў: ці то чалавек вырашыў не браць з сабой падазроныя грыбы, ці то нехта падказаў яму, што знаходкі ў грыбніка небяспечныя. Прыкра, але часам заўважаю, што людзі выкідаюць і ядомыя, але не зусім вядомыя грыбочкі. Во нядаўна пад Заслаўем на лясным прагале заўважыў ворах такіх пакінутых гаротнікаў. На гэты раз нехта адмовіўся ад чорных падгруздкаў (*Russula adusta*, сыраежка чорная, народныя назвы — чарнушка, свіння), якія, на маю думку, досыць смачныя і цікавыя.

Падгруздак (толькі не блытайце гэты грыб з чорным груздом) хіба што знешне нагадвае сыраежку, але насамрэч ён больш высакародны, цвёрды, і скурка на шляпцы не лупіцца. Млечны сок на зрэзе адсутнічае, а таму і вымочваць іх пры нарыхтоўцы не трэба.

Першыя падгруздкі з'яўляюцца яшчэ ў ліпені, але скарыстацца з таго няма аніякай магчымасці, паколькі больш за 90 адсоткаў з іх чарвівыя, хоць і зусім маладыя. Менавіта таму я і звярнуў на іх пільную ўвагу: калі іх так любяць чарвякі, дык, відаць, нешта смачнае ў падгрузках ёсць.

Сёлета, па восені, трапляецца вельмі шмат нечарвівых, і я з задавальненнем дабіраю імі свае кошыкі. Збіраць лепш маладыя грыбочкі, яны больш духмяныя, а старызна патыхае затхласцю і прэллю.

Чорныя падгруздкі лепей, канешне, смажыць, яны тады пазаліхвацку хрусцяць, але іх ядуць і ў вараным, і ў салёным выглядзе. Прычым доўга пад гнётам трымаць не трэба — праз тыдзень можна спажываць на закуску.

Трэба памятаць, што падгруздкі чорны і белы адносяцца да тых грыбоў, якія моцна назапашваюць радыяцыйныя элементы, дык ведайце добра мясціны, дзе збіраеце, або звазіце на праверку ў лабараторыю.

### Радоўкі

У восеньскім лесе яшчэ можна напаткаць дружныя сямейкі самых разнастайных радовак, якія вабяць вока сваімі яркімі колерамі: чырвоным, карычневым, жоўтым, белым, фіялетавым. Грыбнікі іх ігнаруюць, паколькі сярод разнастайнасці відаў радовак трапляюцца і горкія, і ўвогуле атрутныя.

Доўга да радовак прыглядаўся і я. Напачатку пасябраваў з радоўкай фіялетавай (*Lepista nuda*), якая ў сасняках пад Заслаўем на пачатку восені ўтварае цэлыя грыбныя ланцугі. Сярод іх радка ўбачыш чарвівага грыбочка. Смак, праўда, у адвараных фіялетавых радовак не надта каб уразіў, але вось салёныя ідуць на ўра.

Некалькі год таму дабраўся з ножыкам і да яе сястрыцы — радоўкі жоўта-чырвонай (*Tricholomopsis rutilans*, чырвоны апёнак). Гэты грыбок цалкам апраўдвае сваю назву: у яго чырванаваты верх і яркажоўты спод.

Растуць радоўкі жоўта-чырвоныя пераважна ў хвойніках, любяць гняздзіцца каля старых пнёў і паваленых дрэў. Гэтыя радоўкі грэюць душу грыбніка сваім святочным выглядам, ды і пах маюць спакушальны, глыбока грыбны.

Як і фіялетавую радоўку, жоўта-чырвоную я абавязкова адвараю хвілін 20, паколькі яна крыху гаркавая. А затым можна альбо смажыць, альбо марынаваць, альбо саліць. Каштаваў пакуль што толькі смажаныя разам з іншымі грыбамі, бо яшчэ не натрапіў на дастатковую для засолкі колькасць грыбоў.

Калі вы сярод такіх грыбоў адчуваеце сябе не надта ўпэўнена, раю радоўкі збіраць з больш вопытным грыбніком ці проста любавацца іх ляснымі карагодамі.



# Гара Гедыміна зноў папаўзла. Забаронены рух людзей

Віленская мэрыя з 28 кастрычніка абмежавала рух пешаходаў і веласіпедыстаў ля паўднёва-ўсходняга схілу гары Гедыміна — з боку вуліцы Барбары Радзівіл. Такая мера будзе ўведзена па просьбе Літоўскага нацыянальнага музея, паведамляе агенцтва *delfi.lt*.

Акрамя таго, будзе забаронены рух пешаходаў і веласіпедыстаў па алеі К.Шкірпы ўздоўж ракі Віленкі. Па алеі зможа рухацца толькі спецтранспарт, людзі, што жывуць і працуюць на гэтай тэрыторыі, паведаміла мэрыя.

Работы па ўмацаванні схілаў гары Гедыміна пачаліся пасля таго, як на заходнім схіле сфармаваўся апоўзень. У сувязі з гэтым Віленскае гарадское самакіраванне абвясціла надзвычайную сітуацыю.

З Вільні паведамляюць, што пасля дажджоў з'явіліся трэшчыны і на гары Трох Крыжоў. Прычынай ссоваў зямлі тут таксама паслужыла, імаверна, высяканне кустоўя.

# Беларуска Варшавы: Нядаўна ў краме мне сказалі «Рускі, дадому!»

Мара Тамковіч амаль 12 гадоў таму пераехала з Беларусі ў Польшчу, і адзначае, што цягам апошніх гадоў у краіне абвастрыліся ксенафобскія настроі.

Мара апынулася ў Варшаве, калі ёй было 17 гадоў: адвучылася па праграме Каліноўскага на журналістыцы і ў Беларусь не вярнулася. Нейкі час працавала па спецыяльнасці, а цяпер паступіла на рэжысуру і здымае гульнявое кіно: так, у верасні дзяўчына скончыла працу над чарговай караткаметражкай «Дачка», якая закранае праблемы мацярынства і правоў жанчын. Мара і сама нядаўна стала маці, яе дачка мае польскае грамадзянства.

Дзяўчына прызнаецца, што вельмі любіць Польшчу і адзначае, што за час свайго знаходжання ў краіне ні разу ні сутыкалася з негатыўным стаўленнем да яе персоны, але літаральна на днях з ёй здарыўся непрыемны выпадак, пра які яна распавяла ў сваім фэйсбуку. Нам ён стаў цікавы як тэндэнцыя, таму мы папрасілі пераказаць яго нам больш падрабязна:

«Разам з 9-месячнай дачкой мы абіралі ў краме абутак. Я вырашыла патэлефанаваць маці, бо яна ў мяне лепш разбіраецца, якія боцікі для малых дзетак лепш, на што звярнуць увагу і гэтак далей. Я размаўляла па-руску, і нечакана пачула ў свой бок: «Рускі, дадому!». Прамовіў гэта самы звычайны мужчына, на выгляд 60-гадовы.

Не жабрак, але і не багач. Я спецыяльна не звярнула ўвагу на тое, што ён кажа, але ён успрыняў гэта як нагоду паўтараць яшчэ гучней: «Рускі, дадому! Рускі, дадому!». Тут я ўжо не стрымалася, сказала, што не пану вырашаць, дзе мне жыць. Падтрымалі мяне і іншыя кліенты, што стаялі у краме побач. Больш за ўсё мяне бянтэжыла тое, што для мужчыны такія паводзіны былі актам патрыятызму — гэта яскрава адчувалася».

Мара ўдакладняе, што яна не скардзіцца на жыццё, але адзначае, што падобныя ксенафобскія настроі ў Польшчы апошнім часам усплываюць усё часцей: «Я, канечне, не эксперт, магу даваць выключна ўласным адчуванням. Аднак гісторыі, падобныя той, што здарылася са мной, расказвалі мне знаёмыя рускія, украінцы і беларусы. Так, мая сяброўка напрыклад шукала кватэру, але гаспадар, пачуўшы яе акцэнт, адмовіў у арэндзе, бо «здае кватэру толькі палякам».


Мара, працоўныя моманты.

Гэта не звязана з пэўнай нацыянальнасцю (хаця хваля нелюбові да ўкраінцаў, у сувязі з тым, што іх шмат пераехала сюды пасля вайны, ідзе моцная), гэта больш шырокая справа. Усё часцей тут здараюцца выпадкі, калі дзесьці нападаюць на кебабную, дзесьці — на студэнта з Індыі... На мой погляд, гэта адбываецца таму, што цяперашняя правая ўлада дазваляе такія паводзіны.

Агульны антыэміграцкі трэнд не з'явіўся толькі што: не маглі ўсе быць талерантнымі і ветлівымі, а потым рэзка ператварыцца ў ксенафобаў. Але раней тут не выпадала казаць пра гэта адкрыта і ўголас».

Беларуска спадзяецца, што да радыкалізацыі гэтых настрояў не дойдзе.

**КК**

## П'яны хлопец памачыўся на помнік Т-34 каля Дома афіцэраў, дзяўчаты здымалі яго на мабільнік

Сама гісторыя адбылася яшчэ ў ліпені. Праўда, следства па ёй працягваецца яшчэ і па сённяшні дзень.

Падрабязнасці распавялі «Нашай Ніве» ў сталічнай пракуратуры.

Двое хлопцаў і дзве дзяўчыны былі заўважаны ля помніка абаронцам Айчыны — танка Т-34, які стаіць каля Дома афіцэраў. Адзін з хлопцаў залез на танк, другі памачыўся на помнік. Тым часам дзяўчаты здымалі ўсё гэта на мабільныя.

Праўда, вясёлую кампанію затрымаў АМАП. Хлопцаў даставілі ў пастурнак. Высветлілася, што яны былі п'яныя.

Цяпер вядзецца следства. Абвінавачванні яшчэ нікому не прад'яўлялі, але заведзена справа за здзек з гісторыка-культурнымі каштоўнасцямі. Калі хлопцаў прызнаюць вінаватымі, ім можа пагражаць да 3 гадоў пазбаўлення волі.

**УШ**

## Пад Рагачовам дзяцюк, сям'і якога надакучылі праверкі, з вінтоўкі абстраляў міліцэйскі пост і кінуў кактэйль Молатава

Інцыдэнт адбыўся 26 кастрычніка ў 23.00.

— Злачынства здзейсніў 30-гадовы жыхар аграгарадка Столпня. Міліцэйскі пост устаноўлены ў аграгарадку ў сувязі з прафілактычнымі мерапрыемствамі. Супрацоўнікі РАУС правяралі праязджаючыя аўтамабілі. Бацька гэтага чалавека паскардзіўся сыну на тое, што яму надакучыла праверкамі міліцыя. Малады мужчына выпіў і вырашыў разабрацца з праваахоўнікамі, распавёў «Свабоднаму слову» першы намеснік начальніка Рагачоўскага РАУС Вячаслаў Ліхалат.

Мужчына прыхапіў з сабой пляшку з бензінам і вінтоўку Мосіна. Першым у ход пайшло гаручае: вясковец хацеў падпаліць пост, але пляшка не даляцела да цэлі і загарэлася за 15 метраў ад яе. Міліцыянт убачыў полымя і выйшаў на вуліцу. Раптам пачуўся стрэл: жыхар Столпні страляў з вінтоўкі. Тады супрацоўнік РАУС дастаў пісталет, перадзёрнуў затвор. Пачуўшы характэрны гук, зламыснік яшчэ раз стрэліў і ўцёк.

Праз некаторы час быў затрыманы і ўзяты пад варту. Сваё дзеянні ён патлумачыў тым, што проста хацеў напалохаць праваахоўнікаў. Пры вобшуку ў доме мужчыны знайшлі зброю, патроны і іншыя боепрыпасы.

У дачыненні да затрыманага заведзена крымінальная справа па частцы 3 артыкула 339 Крымінальнага кодэкса «Хуліганства», згодна з якой яму пагражае да сямі гадоў пазбаўлення волі.

# Квінтэсенцыя восені: гарбузовы кекс з яблыкамі, журавінамі і арэхамі

Часта сустракаю людзей, якія да гарбуза як да прадукту ставяцца з падазрэннем. Хтосьці пакаштаваў у дзяцінстве гарбузовую кашу і, мякка кажучы, не ацаніў; хтосьці наогул не ўяўляе, куды можна прымяніць гэтую каларытную аранжавую гародніну... Я і сама да нядаўняга часу была такою. Але цяпер я дакладна ведаю: найлепшае месца гарбуза — у выпечцы!

І хай гарбузовую выпечку родныя і сябры звычайна сустракаюць з недаверам, усё змяняецца пасля першага ж з'едзенага кавалачка — праверана неаднаразова. Паспрабуйце пачаць восень з гэтага кекса: упэўненая, нават самыя зацятыя «неаматары» гарбуза, пакаштаваўшы яго, зменяць сваё меркаванне.



Вам спатрэбіцца:
1 шклянка мукі
1 ч.л. разрыхляльніку
1/4 ч.л. соды
1 ч.л. цынамону
1/4 ч.л. мускатнага арэху
1/2 ч.л. імбіру
дробка солі
70 г масла
2/3 шклянкі цукру
1 яйка
2/3 шклянкі гарбузовага пюрэ
1 яблык
1/2 шклянкі журавін (свежых альбо сушаных)
1/2 шклянкі арэхаў (грэцкія альбо пекан; у мяне быў фундук — таксама добра)

**Пара заўваг:**

Усе прадукты для кекса павінны быць пакаёвай тэмпературы.

Гарбузовае пюрэ я гатую так: чышчу і рэжу гарбуз на невялікія кавалачкі, запякаю ў духоўцы на 200°С каля 40 хвілін, астуджаю і раблю пюрэ блендарам. Калі гарбуз занадта вадзяністы, лішнюю ваду можна адціснуць. Пюрэ выдатна захоўваецца ў лядоўні, можна прыгатаваць адразу шмат, замарозіць порцыямі і размарожваць пры патрэбе.

Найлепей гэты кекс выпякаць у форме з дзіркай (альбо ў вузкай і доўгай), каб вільготнае цеста добра прапяклося. Дадзеная колькасць прадуктаў — на форму дыяметрам 22 см. Але я раю адразу рабіць падвойную порцыю: не паспееце азірнуцца, як гэты кекс знікне з вачэй.

**Як гатаваць:**

1. Размякчанае масла ўзбіваць з цукрам 3—4 хвіліны. Дадаць яйка, узбіваць яшчэ хвіліну.
2. Дадаць пюрэ з гарбуза і дробна парэзаны яблык, перамяшаць.
3. Змяшаць муку з разрыхляльнікам, содай, спецыямі і соллю. Усыпаць мучную сумесь у масляна-гарбузовую, перамяшаць.
4. Дадаць дробна пасечаныя арэхі і журавіны, асцярожна перамяшаць.
5. Выпякаць на 180°С прыкладна 60 хвілін (правярайце драўлянай шпажкай). Вымаць з формы пасля поўнага астывання.

**Юлія Міцкевіч**

# «Мама ў перадачу, у сарочку, уклала лязо. Але ён перамог сябе і застаўся жыць»

## Калі б не сталінскія рэпрэсіі, Беларусь была б зусім іншай, кажа акадэмік Радзім Гарэцкі, у якога былі рэпрэсаваныя бацька і дзядзька

Для геолага Радзіма Гарэцкага гісторыя рэпрэсій — гэта гісторыя сям'і. Усё надта блізка. Бацьку, навукоўцу і заснавальніка Акадэміі навук, каталі ў турмах і ганялі па лагерах. Дзядзьку, пісьменніка Максіма Гарэцкага, расстралялі ў 1938-м. Сёлета 80 гадоў з ночы, калі ў Мінску знішчылі сотню інтэлігентаў — з 29 на 30 кастрычніка 1937 года. Напярэдадні гэтай даты інтэлігент Радзім Гарэцкі распавёў TUT.BY, што падчас рэпрэсій страціла яго сям'я і ўся Беларусь.

Радзім Гарэцкі скончыў Маскоўскі нафтавы інстытут, працаваў геолагам. З 1977 года быў супрацоўнікам Геалагічнага інстытута Акадэміі навук СССР у Маскве. Потым пераехаў у Беларусь, дзе стаў акадэмікам Акадэміі навук БССР. Прафесар, доктар геолага-мінералагічных навук. Заслужаны дзеяч навукі БССР. Замежны член Расійскай акадэміі навук. З 1992 па 1997 год быў віцэ-прэзідэнтам Акадэміі навук Беларусі.




### «Яны марылі, што Беларусь будзе багатая, толькі сацыялістычная»

— Сёння ёсць некаторыя людзі, якія за Сталіна, кажуць, што так і трэба, што нічога не было. А я проста магу расказаць, што было з намі. Зараз гэта важна.

Мой бацька, Гаўрыла Гарэцкі, і мой дзядзька, Максім Гарэцкі, першы раз трапілі ў турму яшчэ ў 1922 годзе.

Гаўрыла Іванавіч тады вучыўся ў Маскве, там стварыў асацыяцыю беларускіх студэнтаў. У дваццаць другім годзе Ленін вырашыў выкінуць шраг інтэлігенцыі вон з Расіі. Гаўрылу Іванавіча арыштавалі на пэўны час.

А дзядзька Максім Гарэцкі ў гэты час быў у Вільні, якую захапілі палякі, — пасадзілі за сувязі з бальшавікамі. Нават хацелі павесіць, але выкінулі за мяжу Літвы.

Калі я нарадзіўся, бацька ўжо быў адным з заснавальнікаў Беларускай акадэміі навук. Ездзіў па навуковых справах за мяжу. Тады самая выдатная сельская гаспадарка была ў Даніі. У нашых вучоныхаграрыяў быў лозунг: зрабіць з Беларусі чырвоную Данію. Яны ж распрацавалі цэлую сістэму — з хутарамі, фермамі! Марылі, што Беларусь будзе такая ж багатая, толькі сацыялістычная.

Але дзяржава стала зганяць усіх у калгас! І пра навукоўцаў сталі пісаць, што яны здраднікі, шкоднікі, буржуазныя нацыяналісты, нацдэмы. У 1930-м такія ж прыдзіркі былі і да Максіма Гарэцкага, толькі ён не быў у Акадэміі навук.

Памятаю, як маці даведалася, што бацьку затрымалі па дарозе з адпачынку. Выходзіла на вакзал, каб сустрэць, як бацьку прывязуць. І праўда — сустрэла. З мамай былі я, бабуля. Бачым: выходзіць бацька з ахоўнікам. Мама кінулася да яго, ахоўнік турхнуў — ледзь не паляцела. А я крычу: «Тата! Тата!» Я быў малы, але нешта ўжо кумекаў: адбываецца нешта страшнае. З бацькам нам не далі пагаварыць.

### «Беларускія інтэлігенты былі з сяла, у першым пакаленні»

— У нас у 1930-м прыдумалі Саюз вызвалення Беларусі, якога тут не было. І пад гэтую справу падвялі больш за сотню інтэлігентаў!

А ў Беларусі інтэлігенты былі асаблівыя... Чым яны адрозніваліся ад іншых? Большасць была з сяла, інтэлігенты ў першым пакаленні. Тыя самыя Гаўрыла і Максім — іх бацькі былі зусім непісьменныя.

Але ў нас у народзе былі вельмі таленавітыя людзі, асабліва жанчыны. Мая баба Ефрасіння была народнай спявачкай і казачніцай, ведала процьму песень і сама складала. Максім Гарэцкі, яшчэ калі быў вольным, нават напісаў кніжку «Народныя песні з мелодыямі». Прывёз да маці кампазітараў Ягорава і Аладава — сам запісваў словы, а яны адразу — ноты. 318 песень! Чую і зараз, што некаторыя мелодыі ў канцэрты бяруць.



Максім і Гаўрыла Гарэцкія. Адзін стаў класікам беларускай літаратуры, дзеячам нацыянальнага адраджэння. Другі — выбітным вучоным, адным з заснавальнікаў Беларускай акадэміі навук. Браты сталі ахвярамі савецкіх палітычных рэпрэсій. Максіма Гарэцкага расстралялі ў 1938-м, рэабілітавалі ў 1957-м. Гаўрыла Гарэцкі шмат гадоў правёў у ссылцы. Рэабілітаваны ў 1958 годзе «за адсутнасцю складу злачынства».


Гаўрыла Гарэцкі з сям'ёй, канец 20-х.

Гэтыя жанчыны з вёскі настолькі любілі родную мову, ведалі столькі, што вось гэта інтэлігенцыя першага пакалення — менавіта ад гэтых жанчын такой і зрабілася.

Рэпрэсіі пачаліся яшчэ з Леніна. Канешне, ён быў упарты, энергічны, харызматычны. І троху, відаць, хворы. А калі ўжо Сталін прыйшоў, то Ленін так ужо захварэў, што нічога не разумеў, што да чаго. З сялян бралі развёрстку, калі ў іх саміх не было чаго есці, простых людзей маглі расстраляць ні за што.

Ведаеце, я лічу, што ў нас не было ні камунізму, ні сацыялізму, у нас быў толькі бальшавізм. Бальшавікі былі жорсткай партыяй, іх не цікавіў лёс Расіі — іх цікавіла, каб была сусветная рэвалюцыя, каб была ўлада. А сваіх людзей яны не шанавалі, знішчалі.

### «Селянін побач з бацькам звар'яцеў і крычаў: «Я — шпіён! Я — шпіён!»

— Максіма Гарэцкага пасадзілі па справе Саюза вызвалення Беларусі — выслалі ў Кіраў (Вятка, Расія), на пяць гадоў. А Гаўрылу Гарэцкага — па справе Працоўнай сялянскай партыі. Кіраўнікамі партыі зрабілі яго настаўнікаў у Маскве, найлепшых у свеце эканамістаў. Сярод іх быў Кандрацьеў — настолькі выдатны, што нават «пяцігодка Кандрацьева» была. А потым іх білі і калацілі, і яны прызнавалі, што была Працоўная сялянская партыя. А Гаўрыла Іванавіч быццам узначальваў яе філіял у Беларусі.

Калі бацька сядзеў на Валадарскага, там рабілі «парылкі». Значыць, засоўваюць цябе ў невялікае памяшканне і туды пускаюць пару. І ты пачынаеш задыхацца, увесь мокры.

Гаўрылу Іваныча пасадзілі ў «парылку» разам з нейкім селянінам. А той ужо звар'яцеў. Яны там сядзелі побач, прыціснутыя, а селянін крычаў: «Я — шпіён! Я — шпіён!»

Шпіён — гэта самы кепскі быў артыкул. Во і бацьку самая шкода, што напісалі — польскі і германскі шпіён, раз быў у гэтых краінах.

А пасля такіх парылак ледзь выжывалі, ужо ў чым хочаш прызнаваліся.

Я потым чытаў у справах, калі ў нас было пацыпленне... У нас выдатны быў пісьменнік Кузьма Чорны. Дык Чорнага каталі: пераварочвалі табурэтку і садзілі на адну з ножак. Такі дзікі боль быў, што ён гатоў быў што заўгодна... Праклінаў і Купалу, і ўсіх.

Як вы ведаеце, Купала вельмі выдатна сябе павёў. Яго таксама пачалі цягаць у КДБ на допыты. Наша сям'я сябравала з Янкам Купалам. Ён зрабіў сабе «харакіры» — ледзь застаўся жывы. А Ігнатоўскі, прэзідэнт нашай Акадэміі навук, наогул застрэліўся. Усё гэта быў пратэст супраць тых падзей.

Бацьку забіралі пару разоў у Маскву, як найбольш «злоснага». Больш за паўгады зноў прасядзеў у Бутырцы, а потым ужо тут

прысудзілі да найвышэйшай меры пакарання.

Але здарылася дзіўная гісторыя. Сам следчы распавядаў, але, можа, гэта міф. Прыехалі ў Маскву Чарвякоў і Галадзед — нашыя сапраўдныя беларусы, але шчырыя камуністы. І, як гэты казаў, Сталін падпісваў, каго расстраляць, каго не. Праводзіць рукой па спісе, дайшоў да Гаўрылы Іванавіча. А Чарвякоў і Галадзед пачалі бацьку хваліць, бо добра ведалі. Той пытаецца, колькі яму год. «Хутка будзе трыццаць». Сталін сказаў: «Ды ён яшчэ малады? Ну, няхай нямнога пажыве». І яму далі 10 гадоў у лагеры.

### «Калі бацьку арыштавалі, усе ад маці шарахаліся»

— І Гаўрылу Іванавіча адправілі ў «цяплушцы» (спецыяльны вагон, у якім перавозілі зняволеных) на Салаўкі (Салавецкі лагер асаблівага прызначэння). Яго павінны былі павезці на Салавецкія астравы, але была каманда будаваць Беламорска-Балтыйскі канал. Аднойчы зняволеным сказалі: «Выходзьце, хто з вышэйшай адукацыяй!» Бацька выйшаў, і яго паслалі ў цэнтральнае ўпраўленне Беламорканала.

Каб добра зрабіць канал, трэба было займацца інжынернай геалогіяй. І Гаўрыла Іванавіч папрасіўся ў такі аддзел. Там даведаліся: акадэмік! Няхай эканаміст, не геолаг, але ж. І ўзялі бацьку. Ён там працаваў, хоць і павінен быў вяртацца да астатніх зняволеных у свой час, не збягаць нікуды. Далі яго ў памочнікі геалагіні Варвары: «Будзеце помВарам». Але Гаўрыла Іванавіч у хуткім часе стаў лепшы за гэтую Варвару. А калі вельмі добра працуеш, давалі скідку па гадах. І яго за чатыры гады адпусцілі.

Але жыць бацьку ўсё роўна можна было толькі там.

Праўда, адпусцілі на месяц у Беларусь у 1934 годзе. Ён паспеў апошні раз пабачыць маці і забраў нас да сябе.

Мы з мамай увесь час да гэтага жылі ў Беларусі без бацькі. Мама была такая вясёлая, жвавая, а як бацьку арыштавалі — усе ад яе адвярнуліся.

Засталася з двума дзеткамі, і яшчэ старыя дзед і баба, бацькі, на плячах. Усе ад яе шарахаліся: у той час за знаёмства з сям'ёй ворагаў народа маглі таксама пасадзіць. Адзіныя, хто ад мамы не адвярнуўся і, наадварот, дапамагаў, — сем'і Коласа і Купалы.

### «А дзядзьку Максіма расстралялі»

— Мы жылі ў Коле, зараз гэты населены пункт ужо ўвайшоў у Мурманск. Але падышоў сумны трыццаць сёмы. У гэтым годзе бацьку зноў забралі. Зноў усплыў той самы пагані артыкул — шпіён. Але Гаўрылу Іванавіча раптам да снежня выпусцілі. Толькі потым я зразумеў. Мяняліся кіраўнікі КДБ, калі аднаго здымалі, яго абвінавачвалі, што перасадзіў шмат людзей. І многіх катаў таксама пасадзілі і расстралялі. А потым — наступных. Але, калі саджалі кіраўнікоў КДБ, было, што выпускалі зняволеных. Бацька трапіў у такі час. Як кажуць, нарадзіўся ў сарочцы.

А дзядзьку Максіма расстралялі ў 38-м, у Расіі. Спачатку, нават пасля рэабілітацыі, хлусілі — казалі, што памёр ад кровазліцця ў мозг. Але я падчас перабудовы бачыў яго справу. Ёсць дакументы: 40 чалавек вывелі, расстралялі за 15 хвілін і закапалі «на адпаведную глыбіню».

Тату зноў арыштавалі ў 38-м. Мясцовым у Мядзвежай Гары здалося, што во, злавілі яны — ну самага-самага шпіёна: у Германіі быў, Галадзеда і Чарвякова вербаваў! І зноў яго, як самага «злоснага», паслалі ў Маскву. Яго павезлі, а ў Мядзвежай Гары расстралялі 1100 чалавек. Зараз там мемарыял Сандармох, як нашыя Курапаты. Толькі там малайцы: і поўны спіс расстраляных ёсць, і пішуць, кім яны расстраляныя. Не тое, што ў нас.

А бацька ў Маскве трапіў да следчага Фінкельштэйна. Той кажа: «А як жа вы маглі завербаваць Чарвякова? Яго расстралялі, калі вы сядзелі. А Галадзед сам сябе застрэліў, калі вы сядзелі! Глупства». І адаслаў назад з просьбай вызваліць.

Памятаю, як мы бегалі глядзець бацьку падчас зняволення ў Мядзвежай Гары — калі выводзілі арыштантаў. Аднойчы ўбачылі яго ў такім стане, што жудасць!

Ногі захутаныя, аброслы, апухшы, ледзь цягнуўся. Давялі яго да такога стану, што ён маме перадаў: «Дай мне лязо».

Мама мужная вельмі жанчына ў мяне, выдатная. Яна вырашыла: ну што ж рабіць, чым так мучацца — няхай... Лязо ў сарочку ўклала. Але, дзякуй Богу, ён перамог сябе і застаўся жыць.

Памятаю яшчэ адну гісторыю... Аднойчы мама адправіла мяне з бабуляй у Запарожжа. Там жыў яе брат родны, Сяргей — быў майстрам на авіяцыйным заводзе. І на завод спусцілі план па «поимке врагов народа». Я быў сведкам, як забіралі дзядзьку. Жонка была цяжарная. Мы са стрыечнай сястрычкай маёй, Інай, малыя былі, нават не адразу зразумелі, што адбываецца. Смяяліся: во, нейкія дзядзькі ў хату прыйшлі! А потым самі плакалі.

### «Бацька не крыўдаваў ні на сістэму, ні на людзей»

— Я пад назвай «сын ворага народа», можна сказаць, пражыў усё жыццё.

Бацьку канчаткова вызвалілі ў 39-м. Адразу ніхто не браў на працу, бо вораг народа. Але ён быў такі адданы навуцы: нават калі сядзеў без працы, дасылаў у часопісы артыкул пра сваю геалагічную працу на Беламорканале.

Хутка пачалася вайна. Бацьку мабілізавалі — на інжынерныя вышуканні. А потым, у 1945-м, ён трапіў у геалагічны інстытут у Маскве. Там абараніў кандыдацкую, доктарскую.



**Бацькі рэпрэсаваных інтэлігентаў Гарэцкіх былі простымі людзьмі. Сяляне з вёскі Вялікая Багацькаўка (Мсціслаўскі павет Магілёўскай губерні) Іван Кузьміч і Ефрасіння Міхайлаўна Гарэцкія.**




**Кнігі пра жыццё Гарэцкіх, якія напісаў акадэмік Радзім Гарэцкі.**

Мы падчас вайны былі ў эвакуацыі. Там з дзяцей-хуліганаў, якія жылі побач з уркамі — бо ў лагерах былі не толькі палітычныя, але і сапраўдныя злачынцы, — мы зрабіліся вельмі сур'ёзнымі і адказнымі. Страшна было, голад, але я вельмі многа чытаў.

Гаўрылу Гарэцкага рэабілітавалі ў 1958 годзе, Максіма ў 59-м, «за адсутнасцю складу злачынства». Значыць, невінаватыя зусім. Мы ўжо жылі ў Маскве, але ў Беларусь доўга не дазвалялі вярнуцца. Можа, гэта яго і ратавала, бо тых, хто вяртаўся сюды пасля вайны, арыштоўвалі яшчэ нават у пачатку 50-х. А бацька так любіў Беларусь, толькі марыў быць тут. Ён перабраўся сюды толькі ў 70-м...

Я дзіўлюся, але ў бацькі не было крыўды, калі ён вызваліўся: ні на сістэму, ні на людзей. Вы размаўлялі з Яняй Маргелавай (дачка расстралянага супрацоўніка Акадэміі навук Сцяпана Маргелава. — Заўв. TUT.BY), а бацька яе быў аспірантам у таты, у інстытуце ў Мінску. Калі іх усіх пасадзілі, людзей прымушалі пісаць адзін на аднаго ўсякую гадасць. І Маргелаў, на жаль, пісаў. Але тата вельмі добра ставіўся да яго дачкі, была ў нас як свая.

У Гаўрылы Іванавіча не было ніякай крыўды на людзей. Усё казаў: а ты стань на месца чалавека, які гэта зрабіў. І зразумееш, з гадкімі намерамі ці прымусілі.

### «Інтэлігенты, якіх знішчылі, — гэта была такая глыба»

— Бацька не дажыў да перабудовы, памёр у 1988-м. На жаль, бо ён бы радаваўся. Ён вельмі любіў беларускую мову, любіў справу свайго брата.

Спадчына расстралянага Максіма Гарэцкага вярталася вельмі марудна і цяжка. Спачатку пісалі, што ў яго былі нейкія памылкі, буржуазные нешта. А потым Алесь Адамовіч напісаў кнігу пра Максіма Гарэцкага. Паказаў, што гэта найвыдатнейшы пісьменнік, што стаіць побач з пачынацелямі нашай сучаснай літаратуры: Янкам Купалам, Якубам Коласам, Максімам Багдановічам. І толькі пасля гэтага магутнага штуршка людзі павярнуліся да спадчыны Максіма. Толькі падумаць: Максім Гарэцкі адзін напісаў гісторыю беларускай літаратуры. Цэлы інстытут такое потым рабіў, а ён — адзін!

Некалі Максім Гарэцкі напісаў: «Ахвярую сваім «Я» ў імя святога для ўсіх нас адраджэння».

Гэта значыць, амбіцыямі сваімі ахвярую. Так рабіла інтэлігенцыя таго часу. А сёння не ахвяруюць. Начальства не ахвяруе, ніхто. Я ж во і Зянона Пазняка добра ведаю, з ім працаваў. Бывала, кажу: «Паслухайце майго дзядзьку! Трэба ахвяраваць сваімі амбіцыямі». Ківаюць: «Так-так, правільна-правільна». Але — калі даходзіць да справы... (*смяецца*). Чаму на выбарах у 2010-м годзе было ажно дзесяць кандыдатаў? Чаму не здолелі дамовіцца? Таму што не ахвяруюць сваім «я».

Каб не тыя рэпрэсіі 30-х, Беларусь была б зусім іншая. Мы былі б багатыя, мованаўства ў нас было б вялікае. Тыя інтэлігенты, якіх знішчылі, — гэта была такая глыба! Самыя лепшыя.

**Сняжана Іванец,**
**фота Вольгі Шукайла, Tut.by**




**Кватэра Радзіма Гарэцкага, працоўны кабінет.**

# Гісторыі некалькіх браслаўчан, якія не даюць гораду стаць зомбі

Турыстычны летам Браслаў восенню нібыта вымірае: мясцовыя параўноўваюць яго з зомбі, які ў гэты час сыходзіць на спачын. Без уласнага басейна, кінатэатра, з райпа, што загінаецца, горад-дзесяцітысячнік не засынае зусім толькі дзякуючы неабыякавым людзям. Іх няшмат, але гэтыя адзінкі робяць працу вялікіх аддзелаў культуры.

Мы зганялі ў край азёр, каб пазнаёміцца з тымі, хто не з'ехаў з Браслава, бо любіць горад настолькі, што гатовы рабіць гэта нават без узаемнасці.



Кавярня Цярэнцьевых стаіць проста на беразе возера Дрывяты.


Юля Цярэнцьева.

### Юля Цярэнцьева і беларуская кавярня-арт-прастора

Хутка будзе чатыры гады, як Юля з трыма дзецьмі і мужам Станіславам прамяняла Мінск на вёску Зарачча, што пад Браславам. Пераключыцца з журналістыкі на гаспадарчыя справы было няпроста, але цяпер відавочна, што ўся сям'я асвоілася на новым месцы. Мала таго, што Юля ўзгадала дзіцячыя майстар-класы ад бабулі і дала рады карове, дык яшчэ і шчыльна занялася грамадскімі справамі. Зусім нядаўна з яе ініцыятывы каля Браслава адкрылася «Кавярня», а летась яна дапамагала ладзіць першыя беларускамоўныя курсы для мясцовых.

Але пра ўсё па парадку.

Гісторыю пераезду Юлі, Стася і іх траіх дзяцей, Элі, Лілі і Марка, мы друкавалі амаль два гады таму. Былая журналістка і практыкуючы адвакат абмянялі кватэру ва Уруччы на домік на беразе возера Рака. Уцяплілі яго, адрамантавалі санвузлы. Завялі птушку, трусоў, авечак. Сёлета ў доме з'явілася карова, і Юля пачала рабіць хатнія тварог і масла: для гэтага спецыяльна набылі сепаратар. Паўнавартаснымі гаспадарамі ў доме можна лічыць двух чорных котак, рудое кацяня і сабак.

Крыху далей, амаль на мяжы з Латвіяй, на старым хутары сям'я трымае пчол, а за дзясятак кіламетраў ад роднага дома, у вёсцы Пеліканы, Юля з мужам выкупілі стары будынак школы часоў Пілсудскага, дзе ўжо паспелі замяніць вокны і старую падлогу. Жанчына не губляе надзеі стварыць там цэнтр сямейнага адпачынку, але разумее, што гэта можа зацікавіць толькі мясцовых. Вёскі працягваюць пусцець, а дабірацца з горада па разбітых дарогах — не самая ўдзячная справа. Акрамя таго, ёй прыйшлося шмат пабіцца з паперкамі для розных інстанцый, і яна нават паспела пашкадаваць, што ў гэта ўвязалася.

«Ведаеце, для такіх вось сітуацый у нашай краіне не хапае людзей, якія б працавалі як заспакаяльнае і казалі: «Супакойся, у цябе ўсё атрымаецца». У нас любяць ныць самі, а ў іншых не вераць ні свае, ні чыноўнікі. У такіх умовах нават з добрымі намерамі апускаюцца рукі», — разважае Юля.


У кавярні ёсць свой камін.



У новай кавярні Юля і каманда будуць прадаваць сувеніры з мясцовым каларытам, ладзіць джазавыя вечарыны і беларускія імпрэзы.

...У дрэннае надвор'е браслаўскія землі падтапляе: сыходзіць пад ваду пляж на беразе Дрывятаў, а ў вёсках складана абысціся без галёш. Бруд хлюпае пад нагамі, ногі вязнуць у жыжцы. Юля жартуе, што для некаторых гарадскіх гасцей гэта становіцца сапраўдным выпрабаваннем. Але яе і дзяцей такія рэчы даўно не пужаюць.

«Мінск маёй маладосці я вельмі любіла і не разумела раней, чаму людзі кудысьці з'язджаюць. Але тады горад быў іншы. Цяпер ён ператварыўся ў вечныя спаборніцтвы за найлепшае месца ў дзіцячым садку, на паркоўцы, на дарозе, у чарзе... А ў вёсцы я адчуваю свабоду духу. Нармальна жыць там, дзе ты яе адчуваеш», — дзеліцца гаспадыня.

Юля сцвярджае, што вёска зрабіла іх больш адказнымі: каб нешта з'есці, трэба гэта вырасціць; каб было цёпла — набыць дровы і вытапіць печ. У дзяцей знікла спажывецкае стаўленне да бацькоў «мама, купі!». Калі яны хочуць печыва, то разам з маці бяруць і гатуюць.

«Многія раіліся са мной, як асвоіцца ў вёсцы. Але давайце шчыра: калі ў вас няма грошай ці вы не ўмееце працаваць як фрылансер, то жыць выключна з агародаў ці гаспадаркі цяжка. Працы на месцы няма, фермерства ці жывёлагадоўля — даволі складаны і дарагі працэс. Адзіны варыянт — зарабляць у іншых гарадах, але каб быць сапраўды мабільным, трэба мець уласны транспарт, інакш дабрацца да патрэбных пунктаў праблематычна», — працягвае Юля.

Яе муж Станіслаў, у сваю чаргу, жартуе, што куды танней было б, калі б Юля была проста гаспадыняй дома. Але ўнутранага стартапера ў ёй не задушыць.

У пачатку кастрычніка яе намаганнямі ў Браславе запрацавала «Кавярня» проста на беразе Дрывятаў. І яна ўжо думае над наступнымі праектамі: як стварыць у горадзе парк медытацыі і аб'яднаць фермераў, якія хочуць прадаваць сваю прадукцыю турыстам.

Гэты будынак пуставаў ад 2013 года. Шмат хто да яго прыглядаўся, але нічога не рабіў. Летам наважылася спытаць пра арэнду Юля. Кошты гаспадар запрасіў мінскія, але губляць такі ўтульны куток было шкада, таму яна прынялася за збор патрэбных дакументаў на адкрыццё.

«Адразу ў галаве ў мяне сядзела ідэя стварэння хатняга кафэ з арт-прасторай на другім паверсе, аднак хутка мае мары адна за другой пачалі разбівацца аб санітарныя нормы. Паводле іх, стэлажы і мойкі на кухні павінны быць толькі з нержавейкі, у якасці ануч — рыззё, хаця ўсе даўно карыстаюцца мікрафібрай. Паўсюль трэба клеіць налепкі: дзе мыць рукі, дзе рэзаць гародніну (кухар, відаць, дурны і сам не разумее, дзе гэта рабіць?). Апроч таго, у мяне і ў браслаўскіх фермераў шмат сваіх яблыкаў, бульба, малако тое ж, але па нормах мы не можам гэта выкарыстоўваць, бо зрабіць сертыфікаты на кожную маленькую партыю нерэальна. Яшчэ адна з прычын — наша памяшканне не дазваляе абсталяваць асобны пакойчык пад чыстку і мыццё гародніны. Таму мы вымушаныя закупаць паўфабрыкаты і гатаваць дранікі не па рэцэпце мужа, а па тым, які прапісаны ў санітарных правілах.

Пра якую аўтарскую кухню можа ісці гаворка ў нашай краіне? Як аднаўляць кулінарную спадчыну і частаваць турыстаў незвычайнымі стравамі, калі нормы ў нас застаюцца з далёкіх савецкіх часоў?», — наракае Юля і не разумее, чаму пры ўсіх абяцаннях паслабленняў да прадпрымальнікаў усё адно ставяцца так, быццам яны ад самага пачатку хочуць зрабіць нешта дрэннае, а не наадварот.

Што да коштаў, то самымі дарагімі рэчамі ў выніку сталі прафесійная кававарка, рэчы для кухні і банкаўскае абсталяванне. Амаль уся мэбля дасталася ад былых гаспадароў. Юля раіць усім, хто захоча паспрабаваць сябе ў грамадскім харчаванні, мець у кішэні каля пяці тысяч даляраў.

Дзякуючы «Кавярні», у Браславе ўпершыню з'явіліся кебабы, смачныя пірагі і кактэйлі, але галоўнае, што ў мясцовых будзе ўласная пляцоўка для правядзення культурных імпрэзаў.


Браслаў.


Галляша Сяляву ў Браславе, здаецца, ведаюць усе.

## Галляш Сялява і моўныя курсы

Галляш, ці па-простаму Ілля, — гэта мясцовы актывіст, які цягам пяці гадоў займаецца напаўненнем адзінай альтэрнатывы дзяржаўнай газеце «Браслаўская звязда» — сайтам «Браслаў.бай».

Галляша ў Браславе, здаецца, ведаюць усе.

«Я некалькі гадоў працаваў у раёнцы, адміністраваў сайт газеты і паралельна зацікавіўся фатаграфіяй. З'яўлялася шмат рэпартажаў, акрамя афіцыйных здымак, дзе, напрыклад, мужчына сядзіць за сталом з дыпломамі. Але для сайта раёнкі гэта быў не фармат, таму я стварыў свой асобны партал. Аднагрупнік дапамог з вёрсткай, дызайнам, астатняе я ўжо дарабляў сам», — згадвае Галляш.

У 9-м класе ён пайшоў на заняткі, як звычайна, а вярнуўся дамоў, размаўляючы па-беларуску. Проста задумаўся, чаму ёсць мова, якой не карыстаюцца. Бацькі лічылі, што хлопец дурыцца, але ён і не збіраўся. Хутка да мовы з яго вуснаў прызвычаіліся і сваякі, і сябры, а хлопец працягнуў яе вывучаць на філфаку.

Галляш вярнуўся ў Браслаў ужо пасля таго, як адслужыў у памежных войсках. Здаецца, ён ведае тут усіх і ўсё (як і яго іншыя) і з задавальненнем расказвае пра мясцовых герояў. На пытанні пра сябе адказвае сціпла, хаця менавіта ён ладзіў тут акцыі з прыбіраннем смецця, дапамагаў з арганізацыяй інтэлектуальных гульняў «ІнтэлDrive», праводзіў экскурсіі па Браславе ў межах Фэсту экскурсаводаў... Летась Галляш перамог у шоу «Горад» з праектам «Дзіцячы лабірынт»: так у Браславе з'явілася першая нармальная дзіцячая пляцоўка. Там жа яны пазнаёміліся з Юляй, цяпер яна запрасіла працаваць Галляша беларускамоўным бармэнам да сябе ў кавярню.

Амаль ніякай падтрымкі ад мясцовых улад пад усе гэтыя ініцыятывы яны не атрымалі. Наадварот, аддзел ідэалогіі кожны раз тэлефанаваў Галляшу і папярэджваў: «Вы не ўзгаднілі з намі культурна-масавае мерапрыемства — гэта можа дрэнна скончыцца». А ў выніку з інтэлектуальнымі гульнямі ўвогуле атрымалася весела. Калі ў райвыканкаме ўбачылі, што яны сталі вельмі папулярнымі, то прапанавалі рабіць гэта ад імя БРСМ. Галляш адмовіўся.

«Стварэннем моўных курсаў у Браславе пасля наведвання такіх у Мінску загарэлася карэктарка «Браслаўскай звязды» Жанна Бялько. Прыбегла да мяне з прапановай рабіць свае. Я правёў апытанку сярод мясцовых людзей — многіх гэта зацікавіла. Праўда, першапачаткова я думаў, што буду толькі дапамагаць ініцыятыве, а ў выніку ўся арганізацыя засталася на мне», — расказвае Галляш.

Моўныя курсы пакуль наведвае не больш за 10 чалавек. Але з новым сезонам, разам з падтрымкай «Мовы Нанова», арганізатары вераць у тое, што людзі падцягнуцца, бо ў цэлым для моладзі тут забаў амаль няма: ні свайго кіно, ні басейна, дыскатэка раз на тыдзень на турбазе... Ды і ўсё, у прынцыпе.

Пры гэтым Галляш лічыць, што Браслаў — ідэальнае месца для творчасці: «Тут вельмі спакойна і можна рэалізоўвацца ў любым кірунку, бо па факце ніхто нічым нязвыклым у горадзе не займаецца. З іншага боку, вельмі складана знайсці каманду аднадумцаў. Калі шчыра, я не ведаю, чым цікавяцца мае аднагодкі: на рэдкія выставы прыходзяць адны і тыя ж людзі, астатнія жывуць у нейкім сваім свеце».


Жэня Лабуць — адзін з арганізатараў VivaBraslav. Хлопец паспеў папрацаваць начальнікам аддзела спорту і турызму, але сышоў, бо не бачыў развіцця.

У такіх умовах мясцовыя альбо з'язджаюць, альбо сыходзяць у хатняе падполле, альбо робяць нешта самі, насуперак абставінам.

## Сям'я Шакеляў і спорт

Апошнім шляхам пайшла сям'я Шакеляў. Юрый і Кацярына 12 гадоў таму заняліся агратурызмам. У сваёй сядзібе «На ўскрайку» яны прымаюць гасцей з Расіі і блізкіх гарадоў. Адзначаюць, што калі раней сюды наведваліся звычайныя работнікі прадпрыемстваў выпіць за выходныя некалькі скрыняў гарэлкі, то цяпер такіх няма. Прыязджаюць у асноўным прадпрымальнікі на ціхі адпачынак з сем'ямі.

Шакелі захапляюцца спортам: Юрый самастойна падрыхтаваў сына Глеба да дзясяткаў спаборніцтваў па лыжным спорце (Глеб — неаднаразовы чэмпіён краіны). Цяпер хлопчык вучыцца ў школе алімпійскага рэзерву, а Юрый даўно хоча перадаваць свае веды іншым дзецям і дарослым. Побач з іх сядзібай знаходзіцца невялікі гарысты лясок — ідэальнае месца для экстрэмальных трэніровак раварыстаў і лыжнікаў.

«Гадоў дзесяць мы прапаноўваем нацыянальнаму парку «Браслаўскія азёры» і ўладам зрабіць на гэтым рэльефным месцы лыжа-ролерную трасу, каб развіваць у Браславе спартыўны турызм, аднак вынікаў нуль. З адным кіраўніцтвам на нешта дамовішся — на яго месца прыходзіць іншае. І так па коле.

А чым нашы дзеці горшыя за мінскіх, чаму ў іх няма магчымасці ні ў басейн схадзіць, ні на лыжах пакатацца? Тут што, не людзі жывуць?» — задаецца пытаннем Юрый.

Пакуль адказаў няма, ён самастойна абкошвае гэты ўчастак, абразае кусты, вывозіць адтуль смецце і ладзіць сезонныя спаборніцтвы амаль на чыстым энтузіязме. «Я для сябе вырашыў, што ў гэтым жыцці буду такой справай займацца», — тлумачыць Юрый. Летам у межах фэсту *VivaBraslav* Шакелі арганізавалі крос-кантры марафон, напрыклад.


Юрый і Кацярына Шакель.

## Браты Лабуцы і фестываль VivaBraslav

*VivaBraslav* — гэта яшчэ адна падзея, якая дае дыхту гораду. Буйны музычна-спартыўны оўпэн-эйр пачынаўся са звычайнай дыскатэкі на стадыёне, якую арганізавалі двое братоў Жэня і Алег Лабуцы з вёскі Урбаны, што амаль на мяжы з Латвіяй. Тады замест 600 чалавек патанчыць у Браславе прыйшлі каля 2 тысяч. Праз некалькі гадоў іх мерапрыемствы наведвалі ў 10 разоў больш.

«Мясцовая ўлада разумее, што мы прасоўваем рэгіён. З намі ёсць праблемы, канечне, але ўсе пытанні абмяркоўваюцца. Мы два гады ішлі да таго, каб фэст пусцілі на пляж: чыноўнікі баяліся, што моладзь можа патапіцца. Пяць гадоў працавалі над тым, каб на фэсце дазволілі прадаваць піва. У будучыні было б добра, каб Браслаў зрабілі бязвізавай зонай, тады мы б маглі канкураваць нават з замежнымі фэстамі», — марыць Яўген.

Яшчэ ён марыць пра тое, што беларусы навучацца ўжываць алкаголь, бо кожны год назірае адну і тую ж карціну: людзі напіваюцца перад мерапрыемствам дома і прыходзяць ужо «лунацікамі». Добра, што ў сур'ёзныя злачынствы гэта пакуль не вылілася, хаця на будучы год, хутчэй за ўсё, прыйдзецца падключаць да аховы парадку не толькі віцебскую, але і мінскую міліцыю.

Падрыхтоўка да новага «Віва» ўжо пачалася: прычым калі ў першыя гады браты займаліся фэстам у вольны час, то цяпер — наадварот. Надаюць яму нават больш увагі, чым працы. Браслаўскі раён не прамысловы, таму патэнцыйных партнёраў прыходзіцца шукаць па ўсёй Беларусі: так браты і ездзяць на машыне з горада ў горад. Але таму, кажуць, і не сумуюць.

«У мяне няма памкнення жыць у вялікім горадзе. Хаця, калі б я хадзіў толькі на працу і больш нічога не рабіў, мне б хацелася нешта змяніць. Час ад часу адчуваецца, што ў нас не хапае месцаў, дзе можна правесці вольны час: я не пра кафэ нават, а пра кіно ці тэатр», — Жэня, як і іншыя героі, пакуль не хоча з'язджаць з гэтых краёў.

І гэта, безумоўна, таму, што жывуць іх уласныя праекты. Аднак ніхто з гэтых людзей, на жаль, не ўпэўнены ў заўтрашнім дні. Ніхто не можа сказаць дакладна, што будзе, калі скончыцца энтузіязм, а пачуццё любові да роднай зямлі і адданасці зменіцца выключна на цвярозы разлік.

**Кацярына Карпіцкая**



Экс-кандыдат у прэзідэнты Мікалай Статкевіч зладзіў каля будынка КДБ акцыю памяці рэпрэсаваных.

СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

**пошта рэдакцыі**

# Гомельская кандуктарка, у якой скралі шалік, кранальна распавяла пра раскрытае злачынства

У «НН» прыйшоў ліст ад кандуктаркі гомельскага аўтобуснага парка №1 Юліі Герашчанкі.

Нядаўна са мной адбыўся выпадак, пра які я не магу змаўчаць, лічу сваім абавязкам падзяліцца з грамадскасцю!

Я працую кандуктарам у аўтобусным парку №1 Гомеля ўжо амаль 2 гады.

Я маладая, адкрытая, жыццярадасная дзяўчына і ў сваю працу ўкладваю ўсю сваю душу! Што хаваць, праца не з лёгкіх, як у фізічным плане, так і псіхалагічным. Бо «праз нашы рукі» праходзіць каля тысячы чалавек за змену і кандуктар кантактуе з кожным з іх. Усе пасажыры, безумоўна, розныя — розныя характары, натуры, выхаванне і настрой, але ў большасці усё-такі людзі нармальныя і адэкватныя.

Я лічу, што кандуктар — гэта твар аўтобуснага парка №1 і таму імкнуся быць заўсёды гранічна ветлівай, добразычлівай і ўсмешлівай да пасажыраў. Мне хацелася б, каб людзі аддавалі перавагу ездзіць з нашым аўтобусным паркам, зараджаліся пазітыўным настроем на ўвесь дзень! Як правіла, пасажыры адказваюць тым жа.

Але ў жыцці не без выключэнняў… Нядаўна я працавала на маршруце №21 «Вакзал» — «Урыцкага». Адным з рэйсаў, не даехаўшы да канечнага «Урыцкага» два прыпынкі, я зняла сваю любімы шалік і паклала на сваё працоўнае месца (месца для кандуктара). У гэтай мясцовасці, як правіла, у аўтобусе практычна ўжо не застаецца пасажыраў. Усё як бы навідавоку. Я адышла на пару хвілін у канец салона, а вярнуўшыся, выявіла, што мой шалік нахабна скралі!

З прычыны таго, што гэтай вясной у мяне тут жа «сышоў» тэрмас, я проста расплакалася! Для тых, хто зараз жа пачне мяне асуджаць у тым, што няма чаго пакідаць свае рэчы без нагляду, адразу ж растлумачу. Па-першае, я пакінула сваю рэч на сваім працоўным месцы (гэта як офісны работнік, напрыклад, на сваім стале), падругое, знайшоўшы ў аўтобусе смартфон (літаральна кожны дзень або іншыя згубленыя пасажырамі рэчы), я заўсёды альбо самастойна шукаю яго ўладальніка праз сацыяльныя сеткі, альбо перадаю дыспетчару



аўтобуснага парка і, па-трэцяе, нават калі я не вельмі разумная, што пакінула на сваім працоўным месцы рэчы без нагляду, гэта зусім не значыць, што іх можна альбо трэба скрасці!

І вось з прычыны маёй характэрнай уражлівасці, жаночай ранімасці, а таксама ад пачуцця крыўды адносна выкрадзенага ў мяне раней тэрмаса, а цяпер яшчэ і шаліка, які быў для мне вельмі дарагі, я ад безвыходнасці патэлефанавала на гарачую лінію міліцыі…

Першапачаткова мяне здзівіла, наколькі ўважліва мяне выслухалі і сказалі, што са мной звяжуцца. Я думала, на гэтым усё скончыцца. Праз 5 хвілін мне патэлефанавалі з гомельскай міліцыі. У выніку нашай гутаркі па прыбыцці майго аўтобуса на прыпынак «Урыцкага» наступным (!!!) з рэйсаў, мяне чакаў нарад міліцыі з прадстаўнікамі крыміналістычнай экспертызы.

Я ніколі не сутыкалася з аператыўнавышуковымі працэдурамі і наогул не ўяўляла, як будуць адбывацца пошукі майго скрадзенага шаліка… Мяне цікавіла адно пытанне: калі я ўбачу свой шалік на кімсьці, што мне рабіць?

Падыход міліцыі да справы аказаўся больш чым сур'ёзным… Складаліся пратаколы, здымаліся адбіткі пальцаў у салоне аўтобуса… і г.д. І я не магу не адзначыць уважлівае і паважлівае стаўленне міліцыянтаў да мяне як да пацярпелай! Шчыра кажучы, такое я бачыла толькі ў кіно. Хлопцы з міліцыі былі высокімі, дужымі і падцягнутымі, а іх дзеянні выразнымі, упэўненымі і прафесійнымі! Гэта было так прыгожа, у мяне з'явілася нерэальнае пачуцце абароненасці і маральны спакой!

Мае калегі альбо сцвярджалі, што міліцыя наогул гэтым займацца не будзе, альбо ставілі пад сумнеў, што скрадзены шалік наогул можна знайсці, нават прыклаўшы ўсе намаганні. На што спадзявалася я? Я не спадзявалася, я была ўпэўненая, што мой шалік знойдуць, хоць, пагадзіцеся, гэта з вобласці фантастычных.

Я не ведаю, як прасоўвалася справа, якія меры і дзеянні былі прынятыя міліцыяй, але заяву аб крадзяжы я падала 6 кастрычніка ўвечары ў пятніцу, а ўжо ў чацвер раніцай, 12 кастрычніка, мне патэлефанавалі з міліцыі і спыталі, калі можна пад'ехаць. Я пацікавілася, з якой мэтай. Адказ мяне проста ашаламіў: «Хочам вам аддаць ваш шалік».

Я вырашыла сама пад'ехаць па шалік. Адзяленне знаходзіцца на вул. Сцяпана Разіна, 9. Супрацоўнікі міліцыі сустрэлі мяне, шчыра скажам, душэўна! Вярнулі шалік, о так, гэта быў мой шалік! Тым, хто не верыў у тое, што яго знойдуць, зараз проста няма чаго сказаць…

Я хачу выказаць свае шчырую ўдзячнасць аператыўнай групе і супрацоўнікам АУС Гомельскага райвыканкама, асабліва аперупаўнаважаным АКВ ПМ АУС, старшаму лейтэнанту Кужалеву Я.В., начальнік АКВ Краўцову В.У., Кубашу Ю.М., намесніку начальніка ОУРЫ КМ АУС Куст У.А. і начальніку АКР КМ АУС, падпалкоўніку міліцыі Навіцкаму В.А. Прафесіяналы свае справы, дзякуй вам за вашу найважнейшую працу і нашу ўпэўненасць у бяспецы!

А таксама хацелася б, карыстаючыся выпадкам, папярэдзіць усіх зламысніказў, подлых і несумленных людзей, для якіх няма нічога святога, наша міліцыя нас беражэ! Жывіце і бойцеся! А мы будзем жыць і спаць спакойна, з любоўю ў сэрцах да нашай міліцыі!

**Юлія Герашчанка, кандуктар Аўтобуснага парка №1 Гомеля**

## Анекдоты і жарты

Запісаўся на трэнінг «Як не даць сябе падмануць».

Дорага, вядома, а што рабіць?

* * *

Калі насустрач вам бяжыць слон, адыдзіце у бок.

Бо можаце сутыкнуцца з тым, ад каго ён уцякае.

* * *

На самай справе, для мужчыны не важна, хто ў сям'і зарабляе болей: ён ці жонка.

Не важна да таго самага моманту, пакуль ты не заробіш меней...

* * *

— Які тут пароль ад вай-фаю?

— Вы ў рэанімацыі.

— Вялікімі ці маленькімі?

* * *

Матрошкі прадаюць. Ленін, унутры — Сталін. Потым Хрушчоў, Брэжнеў, Гарбачоў, Ельцын. Пасля Пуціна — Мядзведзеў, а потым — бац! — ізноў Пуцін!

А беларуская наогул не адчыняецца.

### З чаго смяяліся беларусы ў 1937 годзе

* * *

— Якая ёсць розніца між кінам і вайною?

— Ну?

— Няма ніякай, бо ў кіне і на вайне найлепшае месца ззаду...

* * *

Малы Рыська прыйшоў да свайго калегі Віцькі пагуляць; калі ж выходзіў, матка Віцькі, бачачы пад вокам Рыські сіняка, кажа:

— Дзіцятка, як жа ж ты выглядаеш? Дзе ж ты гэткі сіняк набіў?

А Рыська ёй на гэта:

— Няхай пані паглядзіць на свайго сына, ён мае аж тры сінякі.

*З заходнебеларускай прэсы («Chryścijanskaja dumka» і «Шлях моладзі») сабраў Кастусь Шыталь.*

## «НН» 111 гадоў з вамі

**Вільня.** 10 наябра будзе год, як пачала выходзіць беларуская газета «Наша Ніва».

**«НН». №32. 1907**

**Як збівалі Ломаця.** Генеральны пракурор Пётр Міклашэвіч заявіў, што ўжо скончылася расследаванне ў справе збіцця старшыні Камітэта дзяржаўнага кантролю Зянона Ломаця. Да крымінальнай адказнасці ў гэтай справе будуць прыцягнутыя чацвёра чалавек – тры супрацоўнікі КДБ, а таксама супрацоўнік Рады бяспекі.

**«НН». 31 кастрычніка 2007**

**Наша Ніва**

незалежная газета

заснаваная ў 1906, аднаўленая ў 1991

галоўныя рэдактары «Нашай Нівы»:
З.Вольскі (1906), А.Уласаў (1906—1914), Янка Купала (1914—1915), А.Луцкевіч, У.Знамяроўскі (1920), С.Дубавец (1991—2000).

в. а. галоўнага рэдактара — Ягор Аляксандравіч Марціновіч
шэф-рэдактар — Андрэй Дынько
намеснікі галоўнага рэдактара — Андрэй Скурко, Зміцер Панкавец
сакратарка рэдакцыі — Таццяна Кур'ян
заснавальнік — Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы»
выдавец — Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы»

АДРАС ДЛЯ ДОПІСАЎ:
220050, Мінск, а/с 537
Tel/fax: (017) 327-42-13, 8-029-613-32-32, 8-029-707-73-29.
E-mail: nn@nn.by
On-line: www.nn.by

**Падпісны індэкс:**
індывідуальны — **63125**
для прадпрыемстваў — **631252**

 8 палос фарматам А2, 4 друк. арк. Друкарня Рэспубліканскае ўнітарнае прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку». ЛП №02330/106 ад 30.04.2004. Пр. Незалежнасці, 79, 220013, Мінск. Рэдакцыя не нясе адказнасці за змест рэкламных абвестак. Пасведчанне аб рэгістрацыі перыядычнага выдання №248 ад 22 чэрвеня 2009 г., выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Юрыдычны адрас: 220030 г.Мінск, вул.Энгельса, 34а. Р/р 3012206280014 у МГД ААТ «Белінвестбанк», Мінск, код 764.

Наклад 5001. Газета выдаецца 12 разоў на год.

Нумар падпісаны ў друк 16.30 31.10.2017.

Замова №4212.

Рэдакцыйны адрас: 220030 г.Мінск, вул.Энгельса, 34а.

Цана дамоўная.

ISSN 1819-1614

М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12

9 771819 161008 17011